КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну).
КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!
פראָלעטאריער פֿון אלע לענדער, פֿאראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się!
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Visú šalių proletarai, vienykitės!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.



ЛЮТЫ
1931 год.

№ 1 (42)

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну.)

Пралетарыі ўсіх краёў злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

№ 1 (42) Вільня, Люты 1931 год. № 1 (42)

## Вынікі фашыстоўскай выбарчай кампаніі ў Заходняй Беларусі.

Фашыстоўскі ўрад у часе выбарчай кампаніі зрабіў новае „цуда": 75% усіх галасоў у Зах. Беларусі атрымалі ўрадавыя сьпіскі, а ў некаторых акругах (Пінск і Брэст) „посьпех" гэты вызначаецца нават у 90%. Фашызм гучна трубіць аб сваёй перамозе. Паводле яго слоў выходзіць, што масы Зах. Беларусі, якія стогнуць пад ярмом фашыстоўскай акупацыі, якія ня раз паказвалі сваю нянавісьць да акупантаў у гэраічным змаганьні супроць фашыстоўскага рэжыму і ня раз дэманстравалі сваю няўхільную волю да аб'яднаньня з БССР, сваю гатоўнасьць абароны Савецкага Саюзу,—раптам загарэліся любасьцю да сваіх прыгнятальнікаў, з музыкай і пяяньнем „Першай брыгады" пайшлі да ўрнаў і яўна аддалі свае галасы на ўрадавыя сьпіські, на чале якіх стаяў Пілсудзкі—гэрой крывавых распраў з рэвалюцыйнымі масамі ў 1919 1920 г. Фашызм імкнецца паказаць рэзультаты выбараў, як поўнае паражэньне рэвалюцыйнага лягеру, якім кіруе кампартыя, які атрымаў у З. Б. звыш 300.000 галасоў і які яшчэ некалькі месяцаў таму назад пры дадатковых выбарах у Лідчыне і Сьвенцяншчыне атрымаў вялікую перамогу. Гэта патрэбна фашыстоўскай дыктатуры для таго, каб пераканаць масы, што моц яе непахісна, што ў выніку яе чатырохгадовага панаваньня фашыстоўскай дыктатуры ўдалося вырваць масы з-пад уплыву кампартыі, вырашыць нацыянальнае і сялянскае пытаньні у З. Б., абярнуць яе з ачагу рэвалюцыйнага змаганьня ў аплот фашыстоўскай дыктатуры, які палягчае ёй існа-ваньне яе імпэрыялістычных імкненьняў разгрому СССР і пашырэньня далёка на ўсход фашыстоўскай акупацыі. Гіпнозу фашыстоўскіх лічбаў падпадаюць таксама і некаторыя апартуністычна-настроеныя і адарваныя ад мас тавары-шы, гатовыя паставіць пад сумненьне правільнасьць ацэнкі партыі аб нарастаньні ў хуткім тэмпе рэвалюцыйнай сітуацыі ў Польшчы.

Ці так гэта? Аналіз падзей апошняга часу ў Польшчы і, ў прыватнатсьці, ў Зах. Беларусі, таксама як і вынікі выбарчай кампаніі, ў корані абвяргаюць гэту панікёрскую ўстаноўку, якую падсунулі нашай партыі недабіткі правай групы Кастшэвы-Варскага.

Фашыстоўская дыктатура не змагла дабіцца пастаўленай сабе галоўнай стратэгічнай мэты—шляхам бязьлітаснага тэрору ізаляваць нашу партыю ад мас. Наша партыя пашырыла свой уплыў у масах, узьняла сваю гатоўнасьць і ўзмацнілася арганізацыйна. А гэта асноўнае ў ацэнцы рэзультатаў выбарчай кампаніі, у намячэньні далейшых пэрспэктыў ходу рэвалюцыйнага разьвіцьця ў Польшчы і ў Зах. Беларусі і вызначэньні нашых задач і тактыкі. Не падлягае сумненьню, што афіцыйныя рэзультаты выбараў не паказваюць тых працэсаў, якія адбываюцца ў Зах. Беларусі і якія сьведчаць аб далейшым росьце рэвалюцыйнай актыўнасьці мас. Гэтыя рэзультаты самым нахабным і бесцэрамонным чынам сфабрыкаваны ў нетрах фашыстоўскіх выбарчых камісій, у канцэлярыях ста-

роствах і паліцэйскіх вучастках; гэтыя рэзультаты—прадукт нячуванага яшчэ тэрору і гвалту, для чаго мабілізаваны быў увесь фашыстоўскі дзяржаўны апарат, фашыстоўскія ваенныя арганізацыі і баявыя дружыны, ўсе сілы аб'яднанага буржуазнага лягеру ад Б. Б. і Н. Д. да сацыял-фашыстаў і беларускіх нацыянал-фашыстаў уключна. Усё гэта асабліва яскрава выявілася ў Заходняй Беларусі, як на адным з найбольш рэвалюцыйных вучасткаў, адыгрываючым буйнейшую ролю ў ваенных плянах фашыстоўскай дыктатуры.

Фашыстоўская дыктатура задыхаецца ў ціскaх глыбокага эканамічнага крызысу, які абвастрае ўсе вонкавыя і ўнутраныя супярэчнасьці гніючай капіталістычнай сыстэмы. Расьце рэвалюцыйная актыўнасьць працоўных мас, рэвалюцыйныя выступленьні грозна шыраюцца і выліваюцца ва ўсё больш вострыя формы.

Вулічныя сутычкі, упартая барацьба з паліцыяй і фашыстоўскімі баявымі дружынамі, асобныя пакуль што палітычныя стачкі выбухаюць у розных пунктах. Асабліва яскравай праявай гэтага зьяўляецца барацьба працоўных мас Заходняе Украіны супроць акупацыі. Гэта барацьба набыла формы стыхійных падпалаў абшарніцкіх, асадніцкіх і кулацкіх фольваркаў, паліцэйскіх вучасткаў і ўрадавых устаноў, якая месцамі пераходзіць ва ўзброены адпор фашыстоўскім карным экспэдыцыям. Гэтыя здарэньні на Заходняй Украіне—грозны сыгнал нарастаючай грамадзянскай вайны і магутны ўдар па польскім імпэрыялізме.

У гэтых умовах нарастаючага ў шпаркім тэмпе агульна-палітычнага крызысу задачай фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы зьяўляецца ліхаманкавая арганізацыя вайны супроць СССР, тэрміны якой, як паказвае працэс „Прамысловай Партыі“ ў Маскве, кіраўнікі міжнароднага капіталу праэктуюць на 1931 г. Гэтыя кароткія тэрміны арганізацыі вайны ставяць перад фашыстоўскай дыктатурай у Польшчы задачу прысьпешваньня расправы з нарастаючым рэвалюцыйным рухам, умацаваньня фашыстоўскай дыктатуры і ўдасканаленьня яе апарату.

Сучасная выбарчая кампанія зьяўлялася адным з важнейшых фактараў для ажыцьцяўленьня гэтых задач фашыстоўскай дыктатуры—свайго роду генэральнай рэпэтыцыяй расправы з рэвалюцыйным рухам перад рашаючымі клясавымі баямі, свайго роду выпрабаваньнем спраўнасьці фашыстоўскай дзяржаўнай машыны ва ўмовах надыходзячай грамадзянскай вайны ўнутры краіны, ва ўмовах шалёна падрыхтоўваемай контр-рэвалюцыйнай капіталістычнай вайны супроць СССР. Фашызм ставіў сваёй мэтай пры дапамозе забесьпячэньня за „санацыяй“ моцнай большасьці стварыць сойм, які забясьпечвае гнуткае і шпаркае правядзеньне ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў фашыстоўскай дыктатуры, якія дыктуюцца сучаснай сытуацыяй і разам з тым служаць, у вядомай ступені, дэмакратычным прыкрыцьцём фашыстоўскай дыктатуры. Узмацненьнем у сойме кіруючай фашыстоўскай фракцыі і націскам на так званыя апазыцыйныя групы урад Пілсудзкага імкнуўся затрымаць працэс разлажэньня ў фашыстоўскім лягеры, узмацніць свой парушаны аўтарытэт ў некаторых праслойках буржуазіі, узмацніць гегемонію фінансавага капіталу і буйнага зямляўладаньня, скансалідаваць увесь буржуазны лягер для рашучай расправы з рэвалюцыйным рухам.

Гэты асаблівы характар сучаснай выбарчай кампаніі з нязвычайнай яснасьцю паказаў **вялізарнае напружаньне клясавых антаганізмаў**. Выбарчая кампанія, як нельга яскравей, падкрэсьліла той факт, што **ідзе барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць паміж дзьвюх лягераў**—лягерам капіталу і лягерам працы, лягерам эксплёататараў, прыгнятальнікаў і лягерам эксплёатуемых, прыгнечаных. **Кляса супроць клясы—вось сапраўдная і адзіная лінія фронту**. Выбары яскрава падкрэсьлілі, што існуючыя ўнутры фашыстоўскага лягеру супярэчнасьці, якія вынікаюць з групавых інтарэсаў розных пластоў пануючых кляс і разыходжаньняў з-за мэтадаў ратаваньня панаваньня буржуазіі і барацьбы з рэвалюцыйным рухам, у якіх-бы формах яны не праяўляліся (арыш-

ты правадыроў Цэнтралеву, НД, УНДО і г. д., узаемныя спрэчкі і напады), яны зусім не парушаюць адзінага клясавага фронту буржуазіі ў барацьбе з рэвалюцыйным рухам.

Там, дзе рэвалюцыйны рух асабліва востра пагражаў панаваньню фашызму, клясавае адзінства ўсяго лягеру буржуазіі, бяз розьніцы нацыянальнасьцяў, бяз розьніцы фракцыйных груповак, выступае асабліва яскрава. Для здушэньня гераічнай барацьбы працоўных мас Зах. Украіны супроць акупацыі аб'яднаюцца ўсе сілы польскай, украінскай і яўрэйскай буржуазіі, польскага, украінскага і яўрэйскага сацыял- і нацыянал-фашызму; пад сьвіст куль і бізуноў, пад енкі растрэляных і прыгнечаных ідзе гандаль і замацоўваецца саюз паміж польскай і украінскай буржуазіяй. Яшчэ тры месяцы таму назад рызыкаваўшая з дазволу ўлады сваёй рэвалюц. фразай, Строніцтва Хлопска на дадатковых выбарах адкрыта пераходзіць у лягер санацыі; агенты Луцкевіча-Астроўскага, яўрэйскія рабіны, каталіцкія ксяндзы і праваслаўныя папы адкрыта заклікалі масы галасаваць на сьпісы маршала Пілсудзкага.

**Асноўным уплывам фашызму на масы быў нячуваны яшчэ разгул тэрору.** Над Зах. Беларусьсю навісла пагроза карных экспэдыцый. Колькасьць паліцыі павялічана ў вялізарнейшым разьмеры. Акрамя таго, былі пастаўлены на ногі ўсе аддзелы „Стрэльца“, асадніцкіх арганізацый, арганізацый фашыстоўскай моладзі. Выбарчая кампанія ў Зах. Беларусі адзначылася, перш за ўсё, арыштам усіх паслоў беларускага рабоча-сялянскага клюбу „Змаганьне“, арыштам і ліквідацыяй усіх сакратарыятаў і актыўных работнікаў гэтага клюбу. Сьледам за гэтым адбыўся разгром усіх арганізацый ТБШ, арышты яго цэнтральнага праўленьня і акруговых упраў; тысячы рэвалюцыйных рабочых і сялян былі кінуты ў турмы. Бесьперапынная хваля арыштаў калілася на працягу ўсёй выбарчай кампаніі—фашызм ставіў сваёй мэтай скрышыць шэрагі Кампартыі, каб пазбавіць масы кіраўніка і арганізатара іх змаганьня. Фашызм рабіў усё магчымае, каб не дапусьціць складаньня выбарчых сьпісаў рабоча-сялянскага блёку; з гэтай мэтай рабіліся масавыя аблавы і вобыскі, адбіраліся сабраныя подпісы пад сьпісамі рабоча-сялянскага блёку, арыштоўваліся ўпаўнаважаныя і члены выбарчых камітэтаў гэтых сьпісаў, вытвараліся напады на выбарчыя камітэты і сходы рабоча-сялянскага блёку. Амаль пры ўсіх акруговых выбарчых камісіях паліцыя і фашыстоўскія баявыя дружыны не дапускалі нікога без папярэдняга вобыску, адбіраючы і канфіскуючы падрыхтаваныя да падачы сьпісы рабоча-сялянскага блёку. У Берасьці фашыстоўская баявая дружына павесіла ўпаўнаважанага ў лесе, а ў другога—страляла. Рабоча-сялянскі блёк быў пазбаўлены магчымасьці легальнай дзейнасьці і выбарнай агітацыі. Уся прэса ліквідавана; адбіралася выбарная літаратура і выбарныя нумары; тыя, хто распаўсюджваў іх, арыштоўваліся і зьбіваліся. Ні адзін легальны мітынг і масоўка, ні адзін выбарчы сход ня быў дазволены для анты-фашыстоўскіх арганізацый.

У гэтых умовах шалёнай напружанасьці фашыстоўскага тэрару **партыя праявіла значную актыўнасьць.** Пад ударамі фашыстоўскага тэрару партыя наша **ня толькі не дазволіла ізаляваць сябе ад мас,** але ўзмацніла сваю дзейнасьць па мабілізацыі мас на барацьбу з фашыстоўскай дыктатурай, яскрава і выразна паставіла перад масамі **рэвалюцыйны выхад з крызысу—барацьбу за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры шляхам узброенага паўстаньня і ўстанаўленьня дыктатуры пралетарыяту,** шырока папулярызавала ў масах праграму рабоча-сялянскага ўраду.

Арганізацыі антыфашыстоўскага блёку змаглі скласьці дзяржаўны сьпіс „Змаганьня“, пад які было сабрана 3.850 подпісаў. Ва ўсіх выбарных акругах былі падрыхтаваны выбарныя сьпісы антыфашыстоўскага блёку, пад якімі было сабрана каля 7.000 подпісаў. За выключэньнем Сьвенцянскай выбарнай акругі, у якой фашызм фізычна не дапусьціў да падачы антыфашыстоўскіх выбарных сьпіскаў, арыштоўваючы ўсіх упаўнаважаных і адбіраючы сабраныя

подпісы, і Навагрудзкай, дзе акруговая выбарчая камісія проста адмовілася прыняць гэтыя сьпісы, ва ўсіх астатніх акругах былі складзены сьпісы ў колькасьці 16. Арганізацыі праявілі пры гэтым надзвычайную гнуткасьць і мабілізацыйную здольнасьць, часта за 24 гадзіны зьбіраючы ўзноў сотні подпісаў пасьля захвату паліцыяй раней сабраных. У некаторых мясцох, як напрыклад у Пінску, была арганізавана масавая самаабарона для аховы ўпаўнаважаных пры падачы сьпісаў у камісію. Усе спробы фашызму шляхам арыштаў, катаваньняў і пагроз прымусіць рабочых і сялян адмовіцца ад сваіх подпісаў пад сьпісамі, спатыкаліся з рашучым адпорам мас. Гэта, бязумоўна, не магло заперашкодзіць фашыстоўскаму апарату, падтрымліваемаму ўсімі так званымі апазыцыйнымі партыямі—ад ППС да Луцкевіча ўключна—ануляваць усе сьпісы рабоча-сялянскага блёку, за выключэньнем гор. Вільні. Арганізацыі антыфашыстоўскага блёку пад кіраўніцтвам кампартыі разгарнулі вельмі шырокую масавую работу, хаця далёка ня ўсюды роўнамерна. Віленская арганізацыя арганізавала ў самым горадзе звыш 50 масовак, з якіх большасьць непасрэдна на прадпрыемствах, ахапіўшы масавай работай звыш 4.500 рабочых. На гэтых масоўках выбрана 25 антыфашыстоўскіх выбарных камітэтаў, 6 раённых выбарных бюро і агульна-гарадзкі выбарны камітэт; арганізавана 2 канфэрэнцыі дэлегатаў выбарных антыфаш. камітэтаў. У Берасьцейскай акрузе праведзена каля 100 масовак, ахапіўшы звыш 3500 чал., на якіх выбрана каля 80 антыфашыстоўскіх выбарных камітэтаў; надзвычайна шырокая масавая работа была праведзена ў радзе раёнаў беластоцкае акругі (Гайнаўка, Белавеж, Берастовіцы), але значна слабей у самым горадзе Беластоку — усяго толькі 20 масовак (600 чал.). Аб актыўнасьці ініцыятыве партарганізацыі яскрава сьведчыць факт, што рад раёнаў, часова страціўшы сувязь пад ударамі тэрару з акруговымі цэнтрамі, самастойна і пасьпяхова вёў выбарчую кампанію; разьбіта рад мітынгаў ББ, ББС, ППС, Бунда і ПЦ. Партарганізацыі ня толькі шырока распаўсюдзілі цэнтральную выбарчую літаратуру, але таксама інтэнсыўна разьвілі мясцовую выдавецкую дзейнасьць; дастаткова ўказаць, што Беластоцкі АК выпусьціў 25 адозваў у колькасьці 10.000 экз., Віленскі АК партыі 15.000 і АК КСМЗБ—10.000 адозваў і лятучак.

У тых умовах, у якіх праходзілі выбары ў Зах. Беларусі, ня можа быць і гутаркі, каб рабіць якія-бы то ні было вывады на аснове лічб фашыстоўскай статыстыкі. Ня прыходзіцца ні на хвіліну сумнявацца, што гэтыя вынікі сфальсыфікаваны. Злоўжываньні і махінацыі пры выбарах 1928 г. нішто ў параўнаньні з цынізмам сучаснай фашыстоўскай выбарчай мэханікі. Поўнае ануляваньне сьпісаў рабоча-сялянскага блёку, поўная адсутнасьць хоць-бы самага найменьшага кантролю з боку прадстаўнікоў гэтых сьпісаў, адзіны фронт усіх партый фашыстоўскага блёку, іх салідарная зацікаўленасьць недапусьціць выяўленьня гэтых махінацый робяць зусім немагчымым хоць-бы прыблізна ўстанавіць колькасьць галасоў, адданых на ануляваныя сьпісы рабоча-сялянскага блёку. Таму аб ступені ўплыву антыфашыстоўскага лягеру ні ў якім выпадку нельга судзіць шляхам параўнаньня лічбовых вынікаў выбараў 1930 г. і сёнешніх выбараў. Некаторыя таварышы паддаюцца ўплыву фашыстоўскай выбарчай мэханікі і прыходзяць да панічных вывадаў аб паражэньні нашае партыі, аб надзвычайнай моцы фашыстоўскай дыктатуры, аб „пасыўнасьці, абыякасьці і апатыі мас“, дазволіўшых фашызму рабіць з імі, што яму падабаецца. Гэтыя шкодныя апартуністычныя настроі асобных таварышоў, якія свой страх перад фашыстоўскім тэрорам і няверʼе ў сілы рэвалюцыі пераносяць на масы, у корані разьбіваюцца радам фактаў, якія сьведчаць аб росьце рэвалюцыйнай актыўнасьці мас. і гэтыя **факты, а не сфабрыкаваная выбарчая арытмэтыка, павінны быць крытэрыем тых працэсаў, якія адбываюцца на ЗБ.**

Ужо самы факт сабраньня каля 11.000 подпісаў пад сьпіскам рабоча-сялянскага блёку сьведчыць аб вялізарнай арміі рэвалюцыйнага актыву,

які рашуча ідзе пад нашымі сьцягамі на актыўную барацьбу з фашыстоўскай дыктатурай, не палохаючыся ні арыштаў, ні катаргі, ні катаваньняў, ні забойства, ні сьмяротных прысудаў фашыстоўскай „справядлівосьці“.

Тая вялікая зацікаўленасьць, якую праявілі шырокія рабочыя і сялянскія масы да нашае выбарчае агітацыі, калі пад пагрозай арыштаў, звальненьня з работы і штрафаў, самааддана распаўсюджвалі нашу літаратуру і нумары, вырываючы іх з гразі, даючы рашучы адпор паліцыі і дружыньнікам, та актыўнасьць мас, якая выявілася ў абароне нашых прамоўцаў на масоўках упаўнаважаных выбарчых камітэтаў і г. д., факт дэманстрацый ў Вільні, Беластоку, у радзе вясковых раёнаў, палітычная забастоўка беластоцкіх рабочых з поваду галадоўкі ў турме, зрыў мітынгаў ББ і сацыял-фашыстаў (Вільня, Гайноўка, Белавеж, Косаў, Тэлеханы і г.д.), усе гэта сьведчыць аб вялізарнай напружанасьці рэвалюцыйнай барацьбы ў Зах. Беларусі. Калі да гэтага яшчэ дадаць далейшае пашырэньне забастовачнай хвалі, якая таксама шырока ахапіла рады сельска-гаспадарчага пралетарыяту, паглыбленьне барацьбы сялянскіх мас супроць падаткаў, шарваркаў і фашыстоўскай зямельнай палітыкі, дык стане зусім ясным, што ўсюды там, дзе нашы партыйныя арганізацыі паказалі належную актыўнасьць, не паддаліся паніцы пад націскам фашыстоўскага тэрору, масы ўзьняліся на высокую ступень рэвалюцыйнай актыўнасьці і баявой гатоўнасьці. У працэсе выбарчай кампаніі наша партыя здолела пашырыць свой уплыў на новыя атрады пралетарыяту і працоўных мас сялянства, вылучыла шырокі беспартыйны актыў, на зьмену тысяч арыштаваных прышлі новыя барацьбіты; партыя ня толькі захавала свае арганізацыі ва ўмовах шалёнага тэрору, але значна ўзмацнілася, арганізацыйна аднавіўшы сувязь з новымі раёнамі, стварыўшы рад новых ячэек. Гэтыя бясспрэчныя і відавочныя дасягненьні ў корані абвяргаюць фашыстоўскую выбарчую арытмэтыку.

Мільён з лішнім галасоў, якія прыпісала сабе санацыя, ні ў якім выпадку не зьяўляецца паказальнікам сапраўднага ўплыву фашыстоўскай дыктатуры ў ЗБ. Бясспрэчна, што сацыяльная база фашыстоўскай акупацыі на ЗБ звузілася. Праўда, фашызму ўдалося згуртаваць на ЗБ пэўнае ядро для апоры акупацыі; польская буржуазія, абшарнікі і кулацтва, беларуская, украінская і літоўская буржуазія і кулацтва, яўрэйская буржуазія і верхавіны яўрэйскай дробнай буржуазіі, асадніцтва, уся зграя акупацыйнага чыноўніцтва і сфашызаваныя органы самакіраваньня, клер каталіцкі, праваслаўны, яўрэйскі і інш. масьцей, руская чорнасоценная эміграцыя—усё гэта цесна згуртавалася вакол фашыстоўскай дыктатуры, каб выратаваць расхістаныя ўстоі акупацыі на ЗБ, каб расправіцца з рэвалюцыйным рухам, каб пэратварыць ЗБ у фарпост для нападу на СССР. Выбары паказалі вялікую спраўнасьць фашыстоўскага дзяржаўнага апарату і фашыстоўскіх баявых арганізацый. Апіраючыся на гэта ядро і спраўнасьць свайго апарату—паліцыю, адміністрацыю, органы самаўрадавыя, клер, настаўніцтва, фашыстоўскія арганізацыі — фашызм бязьлітасным тэрорам здолеў яшчэ прымусіць частку працоўных пайсьці да урнаў для галасаваньня за фашыстоўскія сьпісы. Фальсыфікацыя і гвалт—вось аснова мільёнаў галасоў ББ. Наша партыя ня ўлічыла асаблівага характару мінулай выбарчай кампаніі, ня ўлічыла ступені націску фашыстоўскага тэрору на масы і таму не зрабіла належнага ўпору **на ГЭТУ** асаблівасьць выбарчай кампаніі, не праявіла патрэбнай актыўнасьці ў справе арганізацыі масавай самаабароны. Не намагла ўсіх сваіх сіл на мабілізацыю мас, на актыўнае выступленьне для таго, каб зламаць рамкі фашыстоўскага тэрору і гвалту, каб шляхам актыўных выступленьняў змагацца за падачу галасоў наануляваныя сьпісы антыфашыстоўскага лягеру супроць разгрому і ў абарону рэвалюцыйных арганізацый, на падтрыманьне гэраічнага змаганьня працоўных мас Зах. Украіны супроць акупацыі.

**І ў гэтым асноўны недахоп у рабоце нашае партыі ў часе выбарчай кампаніі.**

Апрача таго, выбары паказалі, што частка дробна-буржуазных мас, адурманеных фашыстоўскай дэмагогіяй, паддалася ілюзіям, быццам моцная ўлада Пілсудзкага, „не абмежаваная апазыцыйным соймам", зможа палепшыць іх становішча. Частку мас, якія адышлі ад сацыял і народніцка-фашыстоўскіх партый, санацыі ўдалося часова перахапіць шляхам дэмагагічных бесцэрамонных абяцаньняў зьмяншэньня падаткаў, прырэзкі зямлі, ліквідацыі беспрацоў'я, крэдытаў і пазычак. **І ў гэтым таксама праявілася слабасьць нашай партыі, якая ня здолела разгарнуць выстарчальнае работы для выкрыцьця дэмагогіі ББ.** У некаторых зьвеньнях нашае партыі існавалі наскрозь няправільныя погляды, што „санацыя" досыць выкрыла сябе перад масамі і няма чаго траціць энергію на яе выкрыцьцё. Стаўка на самацёк не замарудзіла даць адмоўныя рэзультаты.

Выбары сьведчаць пра далейшае паглыбленьне працэсу дыфэрэнцыяцыі і дыямэтрыяльна-процілеглай растаноўкі сіл у ЗБ. Паражэньне партый Цэнтралеву ў Зах. Беларусі відавочнае. Гэтыя партыі сабралі ў два з паловай разы менш галасоў, чым пры выбарах у 1928 годзе. Гэта ні ў якім разе нельга тлумачыць ануляваньнем іх сьпісаў, бо гэтыя сьпісы ануляваны як-раз у тых акругах, дзе гэтыя партыі і раней сабралі нязначную колькасьць галасоў (Брэст, Горадня). У Вільні галасы ППС зьменшыліся ў два разы, а ў Пінскай акрузе, якая калісь ці была цьвярдыняй ППС, галасы Цэнтралеву зьменшыліся ў шэсьць раз, а ў Лідзкай акрузе, у параўнаньні з дадатковымі выбарамі 1930 году, зьменшыліся амаль у тры разы. Гэта, побач з рухам, які пачаўся ў нізавых арганізацыях Стронніцтва Хлопске і адыходам мас ад гэтай партыі, побач з фактамі адыходу рабочых ад ППС, аслабленьнем пазыцый ППС у прафсаюзах—сьведчыць аб глыбокім крызысе сацыял- і народніцка-фашыстоўскіх партый. Рашучае бязьлітаснае выкрыцьцё з боку нашае партыі сацыял- і народніцка-фашызму прысьпешвае працэс адыходу мас ад гэтых партый. Аднак, і тут актыўнасьць партыі была недастатковай. Партыя ня здолела належным чынам накіраваць масы, якія адыходзяць ад ППС і Стронніцтва Хлопске, у рады актыўных барацьбітоў рэвалюцыйнага лягеру. Асноўныя прычыны гэтаму—**надзвычайна слабае ўжываньне тактыкі адзінага фронту зьнізу**, гэтага магутнага аружжа для заваёў і актывізацыі мас. Паражэньне Цэнтралеву ні ў якім выпадку не азначае зьмяншэньня небясьпекі з гэтага боку. **Гэта—па ранейшаму галоўны вораг у барацьбе за масы;** не паслабляць, а ўсямерна пасіліць барацьбу з гэтым ворагам—па ранейшаму застаецца ўдарнай задачай.

Неаслабная ўпартая барацьба нашае партыі супроць беларускага нацыянал-фашызму, замацаваньне гегемоніі пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, барацьба з ухіламі і хістаньнямі ў радох гэтага руху і ў радох нашае партыі, далі яскравыя станоўчыя вынікі, **якія заключаюцца ў далейшым ізаляваньні беларускага нацыянал-фашызму ад мас. Беларускі нацыянал-фашызм пацярпеў цяжкае паражэньне.** Слабы ўплыў яго ў масах яшчэ больш звузіўся. Ні ўсямерная падтрымка нацыянал-фашызму з боку ўраду, ні расчышчанае ўрадам для яго поле дзейнасьці шляхам разгрому арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху, ні хітрыя манэўры, аднэй з праяў якіх было датэрміновае вызваленьне паслоў Грамады, ні дапамога ўбогіх рэнэгатаў накшталт Акінчыца—ня выратавалі становішча. Партыя змагла своячасова выкрыць гэтыя манэўры і ўзброіць масы на барацьбу з нацыянал-фашызмам. Аднак, і тут трэба памятаць, што вораг пабіты, але ня зьнішчаны. Нябясьпека з боку нацыянал-фашызму не перастала быць актуальнай і будзе паглыбляцца па меры далейшага нарастаньня крызысу фашыстоўскай дыктатуры, па меры набліжэньня вайны супроць СССР. **Нацыянал-фашызм—гэта адзін з важнейшых фактараў вайны супроць СССР.** Яркае сьвятло на гэту ролю беларускага нацыянал-фашызму кідае выкрытая ў БССР контр-рэвалюцыйная арганізацыя беларускіх нацыянал-дэмакратаў на чале з Ластоўскім, Лёсікам і Некрашэвічам, у адносінах якой група Луцкевіча

Астроўскага ў ЗБ зьяўлялася ідэалёгічным і арганізацыйным цэнтрам. Нацыянал-дэмакраты імкнуліся арганізаваць кулацкае паўстаньне ў БССР і пад кіраўніцтвам польскага фашызму падрыхтоўвалі інтэрвэнцыю польскага імпэрыялізму для зьвяржэньня дыктатуры пралетарыяту ў БССР і пашырэньня польскае акупацыі на ўсход. Выбары яшчэ раз падкрэсьлілі, што беларускі нацыянал-фашызм яшчэ мацней зьвязаў свой лёс з фашыстоўскай дыктатурай у Польшчы. Паглыбленьне рэвалюцыйнага крызысу і рост сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР, у прыватнасьці, посьпехі калектывізацыі, ушчыльняюць саюз беларускай буржуазіі і кулацтва з польскай буржуазіяй, актывізуючы яе на барацьбу з рэвалюцыйным рухам, для арганізацыі вайны супроць СССР. Гэта адзін з аплотаў фашыстоўскай акупацыі. Адкрыты заклік беларускіх нацыянал-фашыстаў галасаваць на ББС з аднаго боку, поўнае падтрыманьне фашыстоўскай дыктатурай групы Луцкевіча—Астроўскага з другога—найбольш яркі выраз гэтага.

Яўрэйская буржуазія і частка дробнай буржуазіі аддала свае галасы за санацыю. Гэта сьведчыць аб далейшым зрастаньні яўрэйскай буржуазіі з польскім фашызмам, аб узмацненьні яе ролі, як аднаго з устояў фашыстоўскай акупацыі на ЗБ, як аднаго з важнейшых рэчышч і праваднікоў каленізатарскай і палёнізатарскай палітыкі польскага фашызму. Задачай сыяністаў, якія выступалі з асобным сьпісам, было—ахапіць масы яўрэйскай дробнай буржуазіі, асабліва востра адчуваючай цяжкасьці эканамічнага крызысу і фінансавай палітыкі, і падпарадкаваньне іх фашыстоўскай дыктатуры. Значная колькасьць галасоў, сабраных сыяністамі на ЗБ, сьведчыць аб значным уплыве яго сярод гэтых яўрэйскіх і буржуазных мас і невыстарчальнай барацьбе з сыянізмам. Бунд і ПЦ у асноўным амаль захавалі свой уплыў сярод мас яўрэйскага пралетарыяту і гарадзкой і мястэчковай беднаты. Невыстарчальна канкрэтная работа нашае партыі сярод яўрэйскага пралетарыяту і беднаты, слабае рэагаваньне на спэцыяльныя патрэбы яўрэйскіх працоўных мас у штодзённай працы, а таксама невыстарчальнае правядзеньне тактыкі адзінага фронту ў адносінах яўрэйскіх працоўных мас для выкарыстаньня руху ў нізавых бундаўскіх арганізацыях, стаўка на самацёк—і тут не далі даволі станоўчых рэзультатаў. Выбарчая кампанія яшчэ раз выкрыла вялізарную занядбайнасьць нашае работы сярод літоўскіх працоўных мас.

Вынікі выбарчай кампаніі сьведчаць аб бясспрэчным далейшым працэсе лявеньня мас і росьце іх рэвалюцыйнай актыўнасьці. Бязумоўна, узрасла таксама актыўнасьць нашай партыі, аднак, далёка не ў такой ступені, якой патрабуе ад нас даны гісторычны момант, які стаіць непасрэдна перад рашучымі клясавымі баямі, непасрэдна напярэдадзе ваеннага нападу на СССР. Гэтыя ўмовы прад'яўляюць асабліва павышанае патрабаваньне да нашай партыі, як да правадыра рэвалюцыйных мас. Адзначаючы рад буйнейшых дасягненьняў, павышэньне мабілізацыйнай здольнасьці і баявой актыўнасьці нашай партыі, мы павінны з асаблівай вастрынёй і выразнасьцю падкрэсьліць, што наша партыя ня толькі ня зжыла існуючай дыспрапорцыі паміж актыўнасьцю мас і актыўнасьцю партыі, але, бадай што адносна—гэта дыспрапорцыя яшчэ больш узрасла. Партыя пасьпяхова яшчэ не перабудавала сваіх радоў, ня ўзьняла сваёй мабілізацыйнай здольнасьці і баявой актыўнасьці на тую ступень, якая забясьпечыла-б ёй пасьпяховую мабілізацыю мас і кіраўніцтва іх баявымі выступленьнямі ў цяжкіх і складаных умовах сканцэнтраванага фашыстоўскага тэрару для таго, каб даць адпор націску фашыстоўскай дыктатуры і перайсьці ўсім фронтам у контр-наступленьне.

Гэта асноўны недахоп нашай партыі, які пагражае буйнешымі вынікамі, калі партыя ня здолее ў той, параўнальна кароткі, тэрмін, які мы маем, узьняць сваю баяздольнасьць.

Гэта цалкам сьцьвярджае мінулая выбарчая кампанія. Мы недаўлічылі асаблівага характару гэтай выбарчай кампаніі і не сканцэнтравалі ўсіх сіл для мабілізацыі мас на актыўнае высту-

пленьне, каб праравць сканцэнтраваныя сілы фашызму. Праўда, аб гэтым гаварылася ва ўсіх нашых асноўных дакумантах, дырэктывах і адозвах—лінія і тактыка нашай партыі была ў асноўным правільная, аднак, вышэйпаданыя моманты ня былі даволі рэзка падкрэсьлены, партыя ў сваёй практычнай рабоце не зрабіла гэтага выходным пунктам усей сваёй работы.

У выніку гэтага арганізацыя адпору мас была невыстарчальнай; выбарчая кампанія не прайшла пад знакам арганізацыі палітычных стачак і вулічных выступленьняў у адказ на тэрор фашыстоўскай дыктатуры, на ануляваньне сьпісаў антыфашыстоўскага блёку, на разгром фашыстоўскіх арганізацый; арганізацыя дружын масавай самаабароны ня была пастаўлена ў цэнтры ўвагі партыі, а бяз гэтага наіўна думаць аб пасьпяховай арганізацыі адпору фашызму. Партыя правяла шырокую агітацыйную работу, але не ставала якраз гэтага асноўнага ў даных умовах зьвяна. Гэта таксама сьцьвярджае і надзычайна слабы водгук, які знайшлі ў нас у Зах. Беларусі падзеі на Зах. Украіне. Мы ня мелі фактаў актыўных выступленьняў мас на падтрыманьне барацьбы супроць акупацыі ў З. У., бо партарганізацыі адразу добра не ўявілі сабе як характару падзей, што там адбываюцца, таксама не паказалі яснага разуменьня таго, што на ўзмацненьне тэрору фашыстоўскай дыктатуры, якая імкнецца разьбіць на часткі рэвалюцыйны рух, трэба неадкладна адказаць контр-акцыяй і салідарнай барацьбой ва ўсёй краіне. Палітычная стачка ў Беластоку зьяўляецца пакуль што асобным, ізаляваным фактам. Партарганізацыі яшчэ не навучыліся ўсюды прыстасоўваць гэту магутную зброю, як для рэагаваньня на тыя мясцовыя падзеі, якія асабліва востра адчуваюцца масамі данага гораду і раёну, так і для належнага пашырэньня гэтага сродку барацьбы дапасавальна да важнейшых падзей, што закранаюць інтэрэсы ўсяе рабочае клясы. Трэба мець ясную ўстаноўку на пашырэньне і каардынацыю барацьбы, на ўвязку яе з агульнапалітычнымі падзеямі. Вышэйпаданае, як і тое, што падзеі ў Варшаве і іншых мясцовасьцях Польшчы 14-16 верэсьня таксама не знайшлі належнага водгуку ў Зах. Беларусі, сьведчыць як аб неразуменьні ўсяе важнасьці і значэньня гэтых падзей, так і аб вузкім правінцыянальлізьме і адарванасьці ад агульнапольскага рэвалюцыйнага руху, аб надзвычай слабай яшчэ ўзаемнай увязцы і каардынацыі барацьбы працоўных Зах. Беларусі з барацьбой працоўных мас Зах. Украіны і ўсей Польшчы.

Другім слабым месцам выбарчай кампаніі было вельмі недастатковае прыстасаваньне тактыкі адзінага фронту зьнізу для пашырэньня нашага ўплыву і заваяваньня тых мас, якія ішлі яшчэ за сацыял,—народніцка-і нацыянал-фашыстоўскімі партыямі; працэс разлажэньня ў гэтых партыях, супярэчнасьці, што паглыбляліся паміж нізамі і вярхамі гэтых партый, стваралі для нас надзвычайна спрыяючыя ўмовы, якія ня былі намі ў належнай меры выкарыстаны. Арганізацыя адзінага фронту зьнізу якраз слабей за ўсё была праведзена ў Беластоку, дзе перад нашай партыяй стаіць ударная задача прабіцца на буйныя прадпрыемствы і вырваць пралетарыят гэтых прадпрыемстваў з-пад уплыву ППС і Бунду. Тут якраз у кіраўніцтве праявілася поўнае ігнараваньне тактыкі адзінага фронту зьнізу, махінацыі з верхавінамі сацыял- і нацыянал-фашызму, адмоўныя адносіны да стварэньня сеткі антыфашыстоўскіх выбарчых камітэтаў. Ды і ў іншых акругах стварэньню антыфашыстоўскіх выбарчых камітэтаў ня было аддана выстарчальнай увагі.

Аналізуючы нашы посьпехі ў нашых важнейшых прамысловых цэнтрах, мы бачым, што рост нашага ўплыву тольկі ў слабай ступені адбываўся за лік мас адыходзячых ад ППС і Бунду. Віленскі АК канстатуе, што мы ня здолелі пашырыць і замацаваць наш уплыў сярод чыгуначнікаў, адышоўшых ад ППС, і што гэта было ў значнай ступені выкарыстана непасрэдна санацыяй. Тое-ж самае трэба сказаць і адносна вёскі, дзе мы вельмі слаба выкарысталі фэрмэнт у Строніцтве Хлопскім для ўзмацненьня пазыцый рэвалюцыйнага антыфашыстоўскага блёку. У пары з гэтым таксама выявілася за-

старэлая балячка нашай партыі, няўменьне разгортваць буйныя палітычныя кампаніі на глебе і ва ўвязцы як з бягучымі палітычнымі падзеямі, так і са штодзеннай эканамічнай барацьбой рабочае клясы і працоўных мас сялянства.

У працэсе выбарчай кампаніі з усёй выразнасьцю выявіліся надзвычай пагражаючыя сымптамы, якія сьведчаць аб тым, што **правая небясьпека і сэктанцтва глыбока закаранілася ў паасобных зьвеньнях нашай партыі, часта захапліваючы кіруючы акруговы актыў.** Асабліва яркай праявай гэтага былі **панікёрства і дэмабілізацыйныя ліквідатарскія настроі.** Асноўная прычына гэтага—нявер'е ў сілы рэвалюцыі і рэвалюцыйную актыўнасьць мас. Жорсткія ўдары фашыстоўскага тэрору дзені-дзе дэзарганізавалі нашы рады. Паасобныя панікёры, якія страцілі веру ў рэвалюцыйнасьць мас і бачылі толькі ўсемагутнасьць паліцэйскага штыха, гатовы былі спусьціць рукі і ў паніцы ўцякаць са сваіх баявых пастоў, пакідаючы масы бяз кіраўніцтва ў рашаючыя хвіліны. **Гэтыя таварышы, паддаўшыся гіпнозу фашыстоўскіх лічбаў,** бачаць у іх толькі поўную перамогу фашызму і паражэньне рэвалюцыйнага лягеру, бачачы прычыну гэтага паражэньня ў „пасыўнасьці і апатыі мас“. Такія, у корані памылковыя, правыя тэорыі разьвівае ў сваёй справаздачы сакратар Лідзкага АК. Наколькі гэта ацэнка супярэчыць усім фактам, ясна для кожнага, хто не адарваўся ад мас і не мяркуе аб падзеях толькі на падставе сфабрыкаваных даных фашыстоўскага апарату, а грунтуе сваю ацэнку на дакладным вывучэньні і аналізе фактаў барацьбы мас, якія ў тэй-жа Лідчыне далі не адзін прыклад гераізму і самаадданасьці. Барацьба з панікёрствам, з ліквідатарскімі настроямі, якія вынікаюць з апартуністычных канцэпцый, з сэктанцкай вузкасьці і страху перад тэрорам—ударная чарговая задача нашай партыі.

Рэпрэсіі фашыстоўскага ўраду ў адносінах Цэнтралеву аднавілі правыя канцэпцыі Кастржэзы-Стэфанскага аб аб'ектыўна рэвалюцыйнай ролі ППС, нацыянал-і народніцка-фашыстоўскіх партый і часта ня толькі сярод былых прыхільнікаў правай групы. Прыклады гэтага мы нярэдка бачылі ў ходзе выбарчай кампаніі. Тыповай праявай гэтага была тактыка Беластоцкага АК у адносінах да нацыянал-фашыстоўскай групы Кузьміна-Сідаровіча ў ТБШ і бундаўскага праўленьня саюзу тэкстыльшчыкаў, а таксама адносіны да Бунду і ПЦ з боку часткі актыву Пінскай гарадзкой арганізацыі, які выключаны зараз з партыі. Лева-апартуністычныя сэктанцкія настроі ярка праявіліся ў тым-жа Беластоку ў недаацэнцы прыстасаваньня тактыкі адзінага фронту зьнізу і стварэньня антыфашыстоўскіх органаў адзінага фронту, у паўсюдным слабым уцягненьні ў рады нашай партыі беспартыйнага актыву, які выявіўся ў часе выбарчай кампаніі. Усё гэта ставіць перад партыяй задачу ўзмацненьня барацьбы з правым і „левым“ апартунізмам, дакладнай прапрацоўкі пастаноў V зьезду КПП і IV пленуму ЦК КПЗБ, спазьненьне з прапрацоўкай якіх моцна адбілося на ходзе ўсяе выбарчай кампаніі.

Вынікі выбарчай кампаніі і перамога санацыі не разьвязваюць крызісу фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы. Дасягнутае фашыстоўскай дыктатурай узмацненьне сваёй гегемоніі ў фашыстоўскім лягеры і больш дакладнае прыстасаваньне дзяржаўнай машыны да ўмоў вайны супроць СССР і грамадзянскай вайны ўнутры краіны ня могуць паслабіць абвостраных супярэчнасьцяў, якія зьяўляюцца асновамі капіталістычнага ладу ў Польшчы. Эканамічны крызіс пашыраецца, паглыбляецца і набывае ўсё больш востры характар. Страшэнным тэмпам расьце беспрацоўе. Паход капіталу на жыцьцёвы ўзровень рабочае клясы і рэшткі сацыяльных заваяваньняў разьвіваецца з новай сілай. Зьбядненьне шырокіх мас сялянства ва ўмовах аграрнага крызісу ідзе паскораным тэмпам. Карныя экспэдыцыі ня змогуць зламіць нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў, а толькі абвостраць яе формы і ўзьнімуць на вышэйшую ступень. Праведзеная ва ўмовах страшэннага тэрору і нахабнага ашуканства выбарчая кампанія абвастрае нянавісьць мас да фашыстоўскай дыктатуры і стварае

спрыяючую абстаноўку іх актывізацыі. Узмацніўшы сваю гегемонію ў фашыстоўскім лягеры, фашыстоўская дыктатура не адхіліла цярцёў у лягеры буржуазіі, якія будуць абвастрацца па меры паглыбленьня эканамічнага і палітычнага крызісу і якія наша партыя павінна выкарыстаць для выкрыцьця ўсіх фракцый фашыстоўскага блёку, палягчаючы пралетарыяту пераход у наступленьне на фашыстоўскую дыктатуру. Дыскрэдытацыя ППС і ўсяго Цэнтралеву і збанкрутаваньне іх дэмакратычнай фразэалёгіі надзвычай паслабляе прыводныя пасы фашызму да мас, палягчае партыі адрыў мас ад сацыял-нацыянал - і народніцка - фашыстоўскіх партый.

Усё гэта паказвае на тое, што рэвалюцыйная барацьба, як ва ўсёй Польшчы, так і ў Зах. Беларусі няўхільна набудзе больш вострыя формы. Нарастаюць рэвалюцыйныя сілы, насьпяваюць новыя выбухі на больш масавай базе і на павялічаным узроўні. Наша партыя павінна быць гатова стаць на чале разгортваньня клясавых баёў, аб'яднаць іх, узьняць на вышэйшую ступень, каб пачаць рашучы штурм партый фашыстоўскай дыктатуры. А для гэтага трэба перш за ўсё падрыхтаваць свае рады. Таму арганізацыйная праблема ва ўсёй яе шырыні павінна стаяць у цэнтры ўвагі партыі. Узмацніць сваю арганізацыйную сетку, узмацніць свой уплыў на новыя пласты пралетарыяту і працоўныя масы сялянства і ахапіць іх арганізацыйна, выкарыстаць створаную ў часе выборчай кампаніі арганізацыйную сетку для разьвіцьця новых акцый і арганізацыйнага ўзмацненьня партыі, узмацніць і пашырыць свае прыводныя пасы да мас, палепшыць і ўдасканаліць зьверху данізу свой апарат і прыстасаваць яго да ўмоў ўзросшага тэрору, да ўмоў будучай вайны супроць СССР і грамадзянскай вайны ў Польшчы—вось неадкладныя жыцьцёва-насьпеўшыя задачы, для ажыцьцяўленьня якіх перад партыяй стаяць вельмі кароткія тэрміны. Без ажыцьцяўленьня гэтых задач немагчыма ўзьняцьцё баявой актыўнасьці партыі і яе мабілізацыйнай здольнасьці—умовы, патрэбныя ў даны момант для пасьпяховага кіраўніцтва нарастаючымі масавымі баямі. Стаць на чале эканамічных баёў пралетарыяту і руху беспрацоўных, узьняць іх на вышэйшую ступень палітычнай барацьбы—масавых палітычных стачак, дэманстрацый, барацьбы за вуліцу—арганізаваць масы на барацьбу супроць акупацыі і нацыянальнага ўціску, узмацняючы гегемонію пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, арганізаваць барацьбу сялянскіх мас супроць падаткаў, шарваркаў, экзэкуцый, за зямлю бяз выкупу, арганізаваць адпор мас фашыстаўскаму тэрору на аснове стварэньня дружын масавай самаабароны і арганізацыі актыўных выступленьняў мас, правільна злучыць усе формы барацьбы, быць гатовымі стаць на чале і кіраваць партызанскім рухам, які можа выбухнуць, стаць на чале ўсякага стыхійнага рэвалюцыйнага выступленьня мас, ахапіць яго нашым уплывам, узьняць на вышэйшую ступень і накіраваць у агульнае рэчышча барацьбы пралетарыяту за зьвяржэньне фашыстоўскай дыктатуры, пільна прыслухоўвацца і неадкладна адгукацца на барацьбу, якая разьвіваецца ў Польшчы і Зах. Украіне, неадкладна мабілізуючы масы на падтрыманьне гэтай барацьбы —вось задачы, ажыцьцяўленьне якіх прысьпешыць насьпяваньне рэвалюцыйнай сытуацыі ў Польшчы. Уся дзейнасьць Кампартыі павінна быць накіравана на разгортваньне сіл і арганізацыю абароны СССР, якому пагражае інтэрвэнцыя міжнароднага імпэрыялізму, у якой такая актыўная роля аддаецца фашыстоўскай Польшчы. Гэта павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўсёй работы. На прыкладзе працэсу „Прамысловай партыі" і дзейнасьці контррэвалюцыйнай беларускай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі ў БССР мы павінны пераканаць масы, наколькі вялікая і актуальная небясьпека контррэвалюцыйнай вайны, якую польскі фашызм плянаваў на 1931 год, што перакасаваньне плянаў фашызму залежыць у першую чаргу, ад таго наколькі наша партыя здолее мабілізаваць масы для зрыву гэтых злачынных плянаў. Вынікі выбараў яшчэ больш узмацняюць актуальнасьць гэтай пагрозы.

Усё гэта патрабуе максымальнай ініцыятыўнасьці і самадзейнасьці ня толькі кіруючых цэнтраў нашай партыі, але ўсіх акруговых і раённых арганізацый. Трэба неадкладна даць ацэнку агульных і мясцовых падзей, хутка арыентавацца, дакладна акрэсьліць чарговыя задачы і зараз жа праводзіць іх у жыцьцё. Гэта патрабуе стварэньня моцных мясцовых кіруючых кадраў, калектыўнага кіраўніцтва на мясцох, цесна зьвязанага з масамі. Трэба па ўласнай ініцыятыве хутка рэагаваць на падзеі, не чакаючы толькі дырэктыў зьверху, бо ў даных умовах хутчэй за ўсё могуць быць разрывы паміж пасобнымі зьвеньнямі нашай партыі, якія ускладняць і часта зробяць немагчымай хуткую сувязь цэнтру з мясцамі. А маруднасьць у такіх выпадках роўназначна сьмерці.

Узьнімаючы сваю баявую актыўнасьць, пашыраючы сувязь з масамі, змагаючыся за бальшавіцкую лінію з усякімі ўхіламі, а ў першую чаргу з правым ухілам, наша партыя пасьпяхова павядзе масы на пераможны штурм фашыстоўскай дыктатуры.

П. Корчык.

---

**„ПОЛЬШЧА ПРАДСТАЎЛЯЕ АДНО З НАЙСЛАБЕЙШЫХ ЗЬВЕНЬНЯЎ У ЛАНЦУГУ РАСКЛАДАЮЧАЙСЯ СТАБІЛІЗАЦЫІ СУСЬВЕТНАГА КАПІТАЛІЗМУ. ПАЎПЭРЫЗАЦЫЯ СЯЛЯНСКІХ МАС, ВЫЗВАЛЕНЧЫ РУХ ПРЫГНЕЧАНЫХ І ЎЦІСКАНЫХ НАРОДАЎ, БЕСПАСРЭДНАЕ СУСЕДСТВА З ДЗЯРЖАВАЮ ДЫКТАТУРЫ ПРАЛЕТАРЫЯТУ І САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА ПРЫВОДЗІЦЬ ДА ТАГО, ШТО**

**польскі пралетарыят можа стаць перад рэвалюцыйнай сытуацыяй раней, чым пралетарыят іншых капіталістычных краёў“.** (З пастаноў V зьезду КПП).

Васіль.

# Шырэй разгарнуць контр-наступленьне! Станем на чале барацьбы беспрацоўных!

Кампартыі Нямеччыны, Польшчы, Чэха-Славакіі, Англіі і Францыі на скліканай канфэрэнцыі па прыкладу мінулага году абвясьцілі дзень 25-га лютага днём барацьбы з беспрацоўем. Але гэта зусім ня значыць, што рух беспрацоўных павінен абмежавацца толькі выступленьнем у такія міжнародныя дні барацьбы. Праца Кампартыі сярод усё павялічваючагася ліку беспрацоўных і галадуючых мас па мабілізацыі і арганізацыі гэтых мас павінна ісьці па ўзрастаючай лініі, вымагае ад партыі пастаяннага і ўсё большага напружаньня сіл і энэргіі. 6-га сакавіка мінулага году, 25-га лютага гэтага году —гэта толькі моманты кульмінацыйнага ўздыму руху беспрацоўных, гэта толькі штуршкі да ўсямернага ўзмацненьня і разьвіцьця гэтага руху, гэта этапы, якія падсумоўваюць вопыт барацьбы.

Між тым КПЗБ за мінулы пэрыяд у значнай меры абмяжавалася кампаніяй барацьбы з беспрацоўем—6-га сакавіка. Пасьля шэрагу пасьпяховых масавых выступленьняў беспрацоўных па гарадох З. Б. (Вільня, Пінск, Беласток) перад 6-м сакавіка мінулага году—да цяперашнага часу ня было больш-менш значнага выступленьня беспрацоўных. Гэта гаворыць аб тым, што партыя недастаткова надала ўвагі працы сярод беспрацоўных, не зрабіла яе ўдарнай задачай у справе заваяваньня большасьці рабочае клясы, што партыйныя арганізацыі недаўлічылі сур'ёзнасьці гэтага вучастку рэвалюцыйнай барацьбы. Нават прайшоўшая выбарная кампанія ня была выкарыстана дзеля ўцягненьня ў антыфашыстоўскія выступленьні беспрацоўных і галадуючых мас гораду і вёскі. За вельмі рэдкім выключэньнем у мясцовым друку і цыркулярах можна было сустрэць заклікі да беспрацоўных прыняць удзел у выборчай антыфашыстоўскай кампаніі. Гэтае занядбаньне тым больш памылкова і шкодна, што фашызм і яго агенты правадзілі дэмагагічную работу сярод працоўных, абяцаючы павялічэньне пэнсіяў, прадстаўленьне працы і іншае, бо колькасьць беспрацоўных і галадуючых у З. Б. за гэты год значна ўзрасла.

Аб завастрэньні беспрацоўя гавораць лічбы буржуазнай статыстыкі. Да канца 1930 году лік зарэгістраваных беспрацоўных складаў каля 300.000 г. ё. больш чым у мінулым годзе на 150.000, дасягнуўшы гэтым рэкорднай лічбы беспрацоўя пасьля майскага перавароту. Прамысловы і аграрны крызысы, якія ўсьцяж паглыбляюцца, і ў далейшым выкідваюць на голад, холад і нэндзу новыя тысячы беспрацоўных, у сярэднім па 3.000 у дзень ва ўсёй Польшчы. Няма тэй фабрыкі, майстэрні, маёнтку, дзе-б не праводзілася рэдукцыя—гэта найцяжэйшае ліха рабочых. Калі падлічыць хаця-б у агульных рысах, дык колькасьць беспрацоўных з фабрык, маёнткаў, лясных рабочых ва ўсёй Польшчы складае звыш 1.000.000, а разам з сем'ямі—каля 4.000.000.

На Заходняй Беларусі беспрацоўе яшчэ больш вострае, бо мясцовая прамысловасьць больш дробная, апроч таго пераважае тэкстыльная і дрэваапрацовачная галіны прамысловасьці, якія больш падпадаюць крызысу. На З. Б. у варунках каленіяльнай палітыкі фашыстоўскага ўраду, з прычыны параўнальнай слабасьці пралетарыяту і яго нацыянальнай разьяднанасьці, шалее яшчэ больш жорсткая капіталістычная эксплёатацыя. Галоўныя прамысловыя цэнтры З. Б. як Беласток, Вільня—на-

лічваюць у два і больш разоў беспрацоўных, чым яшчэ працуючых.

У вёсцы хранічны з году ў год недарод, узмацняючыся падатковы прыгнёт, узмацняючаяся спэкуляцыя сельскай буржуазіі і працэнтшчыкаў на голадзе і нэндзе асноўных сялянскіх мас,—усё бязупынна павялічвае цэлую армію так званых лішных ядуноў у сям'і, інакш кажучы, армію галадуючых і беспрацоўных.

Ніколі фашыстоўская Польшча ня была высунута так, як цяпер, уперадзе іншых капіталістычных краёў. Ніколі яшчэ ў капіталістычна-абшарніцкай Польшчы за ўвесь час яе існаваньня ня было такога вачавіднага і рэзкага пагоршаньня становішча шырокіх працоўных мас, ня было таксама адкрытага катастрафічнага іх становішча, ня было столькі беспрацоўных, напоўбеспрацоўных, галадуючых бесхацінцаў, жабруючых, забіваючых сябе з-за голаду, паміраючых ад сталай зморы, холаду і пошасьці.

Таварыш Сталін на XVI Зьезьдзе УсеКП(б) адзначыў, што „сучасны эканамічны крызыс зьяўляецца самым сур'ёзным і самым глыбокім крызысам з усіх існаваўшых дагэтуль сусьветных эканамічных крызысаў“. Сучасны крызыс паўстаў на грунце манапалістычнага перараджэньня капіталізму і дзякуючы зрастаньню фінансавага капіталу з аграрным—зьяўляецца крызысам ня толькі прамысловасьці, але і сельскае гаспадаркі, зьяўляецца крызысам сусьветнага капіталізму, які разьядае ўсю капіталістычную сыстэму. Манапалістычныя аб'яднаньні капіталу зусім не вядуць да плянамернай арганізацыі капіталістычнае гаспадаркі, як гэта сцьвярджаюць сацыял-фашыстоўскія тэарэтыкі, а за імі сцьвярджаў і тав. Бухарын, але вядуць да яшчэ большага абвастрэньня супярэчнасьцяў капіталізму, да яшчэ больш зацятай канкурэнцыйнай барацьбы паміж найбольш моцнымі манапалістычнымі аб'яднаньнямі. Але характар гэтай барацьбы істотна адрозьніваецца ад варункаў капіталізму, нароўні з іншымі супярэчнасьцямі эпохі імпэрыялізму, затрудняюць зжываньне крызысу. Таму капіталізм, як манапалістычны капіталізм, размнажае ўнутры сябе бацылі раскладу і загніваньня.

У той час, калі дзясяткі мільёнаў рабочых становяцца беспрацоўнымі ў выніку скарачэньня вытворства, калі ламаюцца цытадэлі імпэрыялістычнага капіталізму—банкі, ў гэты час акцыі ваеннай прамысловасьці растуць, прамысловасьць ваеннага назначэньня працуе поўнай нагрузкай.

Лепшым паказьнікам паглыбленьня гаспадарчага крызысу і крызысу капіталістычнай сыстэмы зьяўляецца рост беспрацоўя ва ўсіх капіталістычных краёх і яе сталы хранічны характар. Французскі афіцыёз „Тан“ адкрыта заяўляе: „Мы прадбачым ўсе нямінучыя няшчасьці, якія ва ўсіх краёх Эўропы нават у ПАЗШ выкліча ўзрастаючае беспрацоўе“. У Нямеччыне за мінулы год прыбавілася звыш 1.000.000 беспрацоўных, усяго там маецца каля 5.000.000 беспрацоўных; у Англіі прыбавілася каля 1.000.000, а ўсяго маецца каля 3.000.000; у ПАЗШ афіцыяльна—5.000.000, але фактычна маецца каля 10.000.000. Ня гледзячы на павялічэньне беспрацоўя—наогул на 80% у параўнаньні з мінулым годам—буржуазныя ўрады ў інтэрэсах капіталістаў урэзваюць і без таго жабрацкую дапамогу беспрацоўных. Фашыстоўскі ўрад Польшчы ў часе выбарнай кампаніі, каб уцягнуць беспрацоўных у рэчышча фашыстоўскай палітыкі, шчодра даваў абяцанкі, выносіў фіктыўныя пастановы аб павялічэньні пэнсій для беспрацоўных. Пасьля выбараў, на першым-жа паседжаньні сойму ўносіцца статут аб зьніжэньні на 10% дапамогі беспрацоўным і павялічэньні на 40% кватэрнай платы. Уведзены так званы мёртвы сэзон ад 15 сьнежня да 1-га сакавіка, у часе якога будаўляныя і іншыя сэзонныя рабочыя ня будуць атрымоўваць ніякіх субсыдый. На мясцох гэтая эканомія на беспрацоўных пайшла яшчэ далей: у Бярэсьці пасьля выбараў зьніжана субсыдыя беспрацоўным на 25%, у Плоцку замест 40.000 зл. цяпер выдаецца 15.000 зл. і т. п. Нават, па словах „Газэты Варшавскай“ на 10 зарэгістраваных рабочых атрымоўвае дапамогу толькі адзін. Нядзіва, што пошасьць і галодная сьмерць—сталыя зьявішчы

сярод беспрацоўных; што колькасьць бяздомных па гарадох расьце з кожным днём. „Кур'ер Віленскі" паведамляе, што ў Вільні ў цяперашні час безхацінцаў у два разы больш, чым было ў гэты-жа час мінулага году.

Фашыстоўскія законы робяць усё каб урэзаць так званую, дапамогу беспрацоўным. З фонду беспрацоўных могуць карыстацца толькі тыя беспрацоўныя, якія працуюць у прадпрыемствах, дзе ёсьць больш чым 5 рабочых, і працаваўшыя ня менш 5 месяцаў, прычым дапамогу гэтую атрымліваюць толькі на працягу 17 тыдняў пасьля рэдукцыі. Рабочыя, якія працуюць няпоўны тыдзень, беспрацоўныя, батракі, лясныя рабочыя, сэзонныя, моладзь да 21-го году—не атрымоўваюць ніякай дапамогі.

**Асаблівасьцю сучаснага крызысу зьяўляецца тое, што беспрацоўе расьце шпарчэй, чым скарачэньне вытворчасьці.** Гэта сьведчыць аб інтэнсыфікацыі працы, аб шалёным наступленьні капіталу на рабочую клясу. Занятыя яшчэ на прадпрыемствах рабочыя знаходзяцца пад пастаяннай пагрозай звальненьня, а капіталісты пры шалёнай канкурэнцыі працы стараюцца нагнаць страты ад мёртвага капіталу, укладзенага ў перетворчасьць, узмацненьнем капіталістычнае рацыяналізацыі шляхам урэзваньня зарплаты, павялічэньня рабочага дню, узмацненьня інтэнсыўнасьці працы, замены мужчынскае працы працай жанчын і падлеткаў.

Побач з гэтым, ратуючыся ад крызысу, усе капіталістычныя краіны ўзмацняюць **палітыку пратэкцыйных тарыфаў — пратэкцыянізм**, што нярэдка прыводзіць да зацяжнай мытнай вайны, як напрыклад, паміж Польшчай і Нямеччынай. Па сутнасьці гэта яшчэ больш звужвае рынак збыту, ўзмацняе ў новых, яшчэ больш зацятых формах, наступленьне на жыцьцёвы зровень пралетарыяту, завастрае капіталістычныя супярэчнасьці. Прыкрываючы гэтую драпежніцкую палітыку барацьбой з краёвым беспрацоўем, капіталісты ў апошні час узьнялі кампанію супроць так зван. савецкага дэмпінгу, які, быццам, павялічвае беспрацоўе і нясе ўсе бядоты для ўласнай вытворчасьці. Савецкага дэмпінгу зусім ня існуе ў прыродзе. Затое існуе бязумоўны факт, які выяўляецца паміж іншым і ў савецкім экспорце—гэта перавага сацыялістычнай гаспадарчай сыстэмы СССР над капіталістычнай. Калі некаторыя савецкія тавары каштуюць танней, чым тавары капіталістычных краін, дык гэта таму, што эканамічны лад СССР дае магчымасьць прадаваць тавар танней, чым гэта можа зрабіць прыватны капітал. Цэна савецкіх тавараў ня ўключае, напрыклад, таго прыбытку, які атрымоўвае капіталіст; савецкія тавары мінаюць прыватны гандаль і ідуць прама ад вытворцы, г. ё. ад рабочых. Нельга запярэчыць таго факту, што рабочыя многіх буйных галінаў прамысловасьці капіталістычных краёў маюць яшчэ працу толькі дзякуючы савецкім заказам, выкліканым магутным сацыялістычным будаўніцтвам СССР. Цкаваньне вакол дэмпінгу, падобна байкам аб калектывізацыі, выдумана капіталістамі з мэтай уцягненьня мас у арганізуемую вайну супроць СССР.

Капіталістычнаму сьвету, у прыватнасьці Польшчы, неабходна, скрываючы факты дасягненьняў сацыялістычнага будаўніцтва, ўвесь час уздымаць алярм, каб перашкаджаць пранікненьню у сьвядомасьць працоўных мас неабходнасьці ісьці па рэвалюцыйнаму шляху рабочых і сялян СССР. Той факт, што ў СССР ня толькі зьліквідавана беспрацоўе—гэтая цяжэйшая спадчына капіталістычнага ладу, але маецца і няхватак рабочых сіл, зьяўляецца мацнейшым чыньнікам рэвалюцыянізаваньня рабочых і сялян, якія стогнуць у абцугах эксплёатацыі, беспрацоўя і голаду. Адгэтуль для ўсякага працоўнага Польшчы само сабою напрашваецца вывад, што ў СССР беспрацоўя няма таму, што там няма панаваньня капіталістаў і абшарнікаў, таму, што там не зачыняюцца, а будуюцца новыя фабрыкі-волаты, збожжавыя фабрыкі, калгасы. Усьведамленьне працоўнымі масамі гэтых кантрастаў дзьвюх процілежных сыстэм гаспадаркі, дзьвюх сьветаў—капіталістычнага і сацыялістычнага, падобна сьмерці для буржуазіі. Ня гледзячы на ўсе патугі фашызму, сацыял—і нацыянал-фашызму, ня гледзячы на іх шалёную антысавецкую хаусь-

ню—гэтая розьніцца паміж СССР і капіталістычным сьветам, розьніца паміж дзьвюх супроцьлеглых тыпаў грамадзкага ладу робіцца ўсё больш рэзкай, вачавіднай і праводнай для шырокіх працоўных мас. Вось чаму лёзунг інтэрвэнцыі супроць СССР ва што-б то ні стала—зьяўляецца лёзунгам для ўсіх капіталістаў, лёзунгам сьпешнай арганізацыі вайны супроць СССР.

Такое становішча вымагае ад партыі максымальнай здольнасьці ў справе шпаркай арыентыроўкі і рэагаваньня, здольнасьці ўмелага і цьвёрдага кіраўніцтва, ўменьня згуртаваць сілы ў патрэбны час і ў адпаведным месцы, каб, зьнішчаючы пляны клясавага ворагу, наносіць яму цяжкія ўдары, падрываць яго панаваньне. Згуртаваць-жа цяпер хутка і рашуча свае сілы партыя павінна перадусім на працы сярод беспрацоўных. Становішча ў Польшчы цяпер такое, што пралетарыят шчыльна падыходзіць да пытаньня аб заваяваньні ўлады, але для гэтага перадусім патрэбна, каб Кампартыя заваявала большасьць рабочае клясы. Шпарка насьпяваюць аб'ектыўныя варункі для таго, каб Кампартыя магла стаць дамінуючай бальшавіцкай сілай, заваяваць кіруючую ролю ў рабочай клясе, магла дабіцца рашаючых посьпехаў у справе заваяваньня большасьці рабочае клясы на бок камунізму. Але да тэй пары, пакуль партыя ня зможа павесьці за сабою армію беспрацоўных, ня можа быць і гутаркі аб заваяваньні рабочае клясы. У Зьезд КПП выразна ўказаў, што „рух беспрацоўных, аб'яднаны з агульнай барацьбой рабочае клясы, павінен стаць адным з асноўных фактараў, ўзрываючых фашыстоўскую дыктатуру". Фашызм сваёй палітыкай эксплёатацыі, вайны і тэрару выкідвае ўсё новыя масы беспрацоўных, галодных, бяздомных. Узрастае нездавольства фашыстоўскім ражымам і клясавая нянавісьць сярод шырокіх мас рабочых і сялян. Голад, холад, рост дарагоўлі, адсутнасьць кватэр, скарачэньне дапамогі беспрацоўным, узмацненьне падатковага ярма, шарваркаў, штрафаў—вось штодзённыя фактары, якія аб'яднаюць мільённыя масы працоўных у барацьбе супроць фашыстоўскай дыктатуры і абвастраюць рэвалюцыйную сытуацыю. Адгэтуль узрастае роля і адказнасьць Кампартыі—стаць на чале, выявіць самастойнае кіраўніцтва барацьбой гэтых мас.

У апошні час па ўсёй Польшчы выбухаюць вострыя масавыя выступленьні беспрацоўных, якія не чакаюць абяцанай фашызмам ласкі ад новага сойму, а пад прыціскам галоднай сьмерці і холаду атакуюць магістраты, старосты і гміны (Варшава, Лодзь, Катовіцы, Вільня, Горадня), захопліваюць магістраты і разьдзяляюць магістрацкія касы (Горная Сілезія). Сацыял-фашызм (ППС, Бунд і інш.) ужываюць усе захады, каб распарушыць, паслабіць рух беспрацоўных, не дапусьціць да захопу вуліцы. Пепеэсаўскі „Роботнік" упрашае ўрад палкоўніка Славэка прыняць тэрміновыя захады супроць беспрацоўя, але не таму, што яно зьяўляецца нявшчасьцем рабочае клясы, а таму, што беспрацоўе пагражае „катастрофай для дзяржавы". Каб адыграць ролю абаронцы беспрацоўных і адцягнуць барацьбу беспрацоўных ад рэвалюцыйнага вырашэньня крызысу, ад вінаватых у іх голадзе і нэндзы—фашыстоўскі ўрад, ППС прапануе зьменшыць у бюджэце выдаткі на канцэлярскія патрэбы, камандыровачныя для чыноўнікаў і іншае. Усе нумары „Роботніка" напічканы так званай барацьбой супроць беспрацоўя і ўгаворамі беспрацоўных улічваць крызыснае становішча ў краіне. Сваёй дэмагогіяй ППС выконвае ролю, ўскладзеную на яе фашыстоўскай дыктатурай, а менавіта: не дапусьціць беспрацоўных да рэвалюцыйнага выступленьня, да таго, каб Кампартыя кіравала іх барацьбой.

Задача партарганізацый ня толькі праз агітацыю дэмаскаваць манэўры сацыял-фашыстаў, а на справе, рэвалюцыйнай практыкай даказаць, што толькі Кампартыя змагаецца за інтарэсы беспрацоўных, змагаецца да канца супроць фашыстоўскага ўраду, што толькі пад кіраўніцтвам Кампартыі рабочыя і сяляне ўзбройным паўстаньнем, зьнішчажаючы пануючыя эксплёататарскія клясы, зьнішчожаць і іх спадарож-

нікаў—беспрацоўе, эксплёатацыю, нацыянальны прыгнёт і войны.

Трэба адзначыць, што ў нашай агітацыі няўмела і невыстарчальна выкарыстоўваецца лепшы прапагандыстычны матар'ял, а менавіта, ліквідацыя беспрацоўя ў СССР. Гэты яскравейшы факт сацыялістычнага будаўніцтва на фоне роспачлівага становішча рабочых у Польшчы і, ў прыватнасьці, ў З. Б. зьяўляецца лепшым аружжам у барацьбе за масы супроць фашызму і сацыялфашызму. Ня знойдзецца такі беспрацоўны, які, даведаўшыся і ўразумеўшы, што ў СССР не хапае рабочых рук, ня стаў-бы сымпатыкам і актыўным абаронцай Савецкай краіны. Для самага адсталага працоўнага стане відавочным шлях яго барацьбы, калі яму растлумачыць, што капіталісты ад перавытворчасьці зачыняюць фабрыкі, паляць і нішчаць тавары і хлеб, скарачаюць пасяўную плошчу ў той час, калі ў краі гібеюць мільёны галадуючых і беспрацоўных сем'яў, а ў СССР фабрыкі працуюць поўным ходам на тры зьмены пры 7-мі гадзінным рабочым дню, пры пяціднеўцы—будуюцца новыя волаты-фабрыкі, пашыраецца пасеўная плошча, няма беспрацоўных, пралетарыят СССР за мінулы год павялічыўся на 2 мільёны. Усе гэтыя факты пераконваюць, што капіталістычны лад—гэта рэгрэс, застой, голад і вайна і што толькі пры дыктатуры пралетарыяту магчыма шпаркае разьвіццё вытворчых сіл, поўнае зьніштажэньне сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. Задача партарганізацый давесьці да ведама кожнага рабочага, кожнага працоўнага селяніна гэтыя вялізарныя дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва.

Высьвятляючы масам, што толькі праз зваленьне фашыстоўскай дыктатуры можна дасягнуць поўнага зьнішчэньня беспрацоўя і ўсяго капіталістычнага ўціску, адначасна трэба мабілізаваць масы вакол лёзунгаў штодзённых патрэб беспрацоўных і рабочых, занятых на прадпрыемствах:

Патрабаваць аднаразовай пэнсіі на зіму ў размеры 100 зл. за кошт бюджэта на вайну, паліцыю, дэфэнзыву, клер і г. д.

Пашырыць дзяржаўныя пэнсіі на ўвесь час беспрацоўя для ўсіх беспрацоўных, уключаючы жанчын і моладзь, пашырыць выдачу пэнсій на сельскагаспадарчых рабочых і сэзоньнікаў. скасаваць мёртвы сэзон для сэзонных рабочых. Патрэбаваць павышэньня пэнсій на 100%; патрэбаваць сталага забесьпячэньня на выпадак беспрацоўя ў разьмеры сапраўднага жыцьцёвага роўню рабочага.

Забясьпечыць у бальнічных касах усіх беспрацоўных за кошт дзяржавы; змагацца супроць усялякіх спробаў пагоршаньня сацыяльнага забесьпячэньня. Звольніць беспрацоўных ад кватэрнай платы, ад усіх дзяржаўных, гарадзкіх і іншых падаткаў. Патрабаваць кватэр для беспрацоўных за кошт дзяржавы і магістратаў, змагацца супроць эксмісій і ліцытацый беспрацоўных.

7-мі гадзінны рабочы дзень, 6-ці гадзінны дзень для рабочых, занятых у шкодных для здароўя галінах прамысловасьці, і для моладзі. Супроць усякага паніжэньня заработнай платы, за яе павялічэньне, супроць капіталістычнай рацыяналізацыі, супроць рэдукцыі і лёкаутаў.

Досьлед мінулай барацьбы гаворыць аб часта мэханічным, няўдумлівым падыходзе партарганізацый да патрабаваньняў беспрацоўных, выстаўленьні агульных, незразузумелых патрабаваньняў (як напр. 100 пудоў бульбы для кожнага беспрацоўнага), што, бязумоўна, не мабілізуе, а адпіхвае беспрацоўных. З гэтым шкодным старым недахопам час ужо скончыць. Час зразумець, што неабходна чуйна прыслухоўвацца да патрэбаў мас, з уменьнем і тактам выстаўляць, канкрэтызаваць і ўвязваць гэтыя патрабаваньні з канчатковымі лёзунгамі партыі.

Буйным недахопам у кіраўніцтве партыі рухам беспрацоўных зьяўляецца да гэтай пары недастатковая ўвязка гэтага руху з барацьбой яшчэ занятых на прадпрыемствах рабочых, што ідзе на-руку фашызму і сацыял-фашызму, якія ўсямерна стараюцца не дапусьціць да салідарнай барацьбы беспрацоўных і яшчэ працуючых. Маюцца ўсе данныя да разьвіцьця шырокага стачачнага руху. Шэраг эканамічных упорлівых стачак, пастаянна выбухаючых па ўсім краі і перарастаючых у

палітычную барацьбу, узьнікненьне палітычных забастовак, як у Беластоку—усё гэта гаворыць аб узрастаючай баяздольнасьці рабочае клясы ў барацьбе супроць фашыстоўскай дыктатуры, ўсё гэта б'е па кныханьню панікёраў, па тэорыях апартуністаў, быццам у варунках крызысу немагчымы эканамічныя баі пралетарыяту.

Разгортваючыяся стачачныя баі гарнякоў у Нямеччыне і Англіі маюць аграмаднае міжнароднае значэньне, бо зьяўляюцца баямі, якія правяшчаюць новую, больш высокую хвалю контрнаступленьня пралетарыята супроць сусьветнага капіталу. Гэтыя стачкі зьяўляюцца відавочным прыкладам для рэвалюцыйнага руху ўсіх краёў сваёй салідарнай барацьбой, шчыльнай яе ўвязкай з барацьбой беспрацоўных. Арганізаваныя паходы беспрацоўных рабочых на свае былыя фабрыкі для змычкі і супольнага выступленьня з яшчэ працуючымі там рабочымі, узаемная пасылка дэлегатаў на мітынгі, выбары ў стачачныя камітэты прадстаўнікоў ад беспрацоўных і ў камітэты беспрацоўных прадстаўнікоў ад рабочых з фабрык, вылучэньне супольных патрабаваньняў—вось асноўныя задачы ў справе ўвязкі гэтых двух рэвалюцыйных струменьняў у адзін магутны рух супроць фашыстоўскай дыктатуры, за дыктатуру пралетарыяту.

Было-б вялікім занядбаньнем, калі-б партарганізацыі ў разгортваньні руху беспрацоўных абмяжаваліся толькі горадам. У варунках ЗБ гарадзкі пралетарыят цесна зьвязаны з вёскай, асабліва на больш дробных прадпрыемствах. У тартаках, гутах, цагельнях звыш 50% рабочых—гэта бедната суседніх вёсак, якія пры рэдукцыі варочаюцца галадаць у вёску разам са сваімі сем'ямі альбо кроўнымі. Побач з гэтым наступленьне абшарнікаў на батракоў выкідвае дзясяткі тысяч апошніх на голад і на беспрацоўе. У сучасных варунках ЗБ бядняцкая, а часта і серадняцкая сям'я мае ў хаце некалькі так зван. лішніх ядуноў, г. ё. беспрацоўных. Указваючы на супольнасьць інтарэсаў, на адзіныя мэты, неабходна мабілізаваць гэтую галадуючую беспрацоўную масу на вёсцы на супольную барацьбу з пралетарыятам гораду і пад яго кіраўніцтвам арганізаваць гэтую барацьбу, перавадзіць на вышэйшую ступню.

Цэнтр цяжару ў барацьбе з беспрацоўем кладзецца на працу ячэйкі—яе роля ў гэтай барацьбе мае першараднае значэньне. Кампанія 25-га лютага ня зможа выявіць у дастатковай меры арганізаванай баявой барацьбы супроць беспрацоўя, не стане вышэйшай усходкай па шляху да пралетарскай рэвалюцыі, калі ячэйка ня выявіць арганізаваную плянамерную актыўнасьць, ініцыятыву і манэўраздольнасьць. Важнейшым аружжам ячэйкі ў справе мабілізацыі і арганізацыі мас у гэтай кампаніі павінен быць друк. Ячэйкі яшчэ далёка не навучыліся у належны момант шпарка, ударным парадкам зьвяртацца да масаў праз друкаванае слова, разварушыць, мабілізаваць гэтыя масы вакол данных задач.

Разгортваючы рух беспрацоўных, неабходна прыдаць гэтаму руху найбольш масавы паўсямесны характар. Масавыя і вострыя па форме выступленьні беспрацоўных апошняга часу, ажыўленая забастовачная барацьба, рыхтуючаяся ўсьцяж за гарнякамі Нямеччыны і Англіі грандыёзная стачка гарнякоў Польшчы—ўсё гэта гаворыць аб вялікім рэвалюцыйным зрушшы ў міжнародным пралетарскім руху, гаворыць аб перарастаньні эканамічнага крызысу ў палітычны, аб імкненьні мас на баявыя выступленьні для заваяваньня вуліцы. Асабліва характэрна для сучасных масавых выступленьняў у Польшчы, у прыватнасьці ў ЗБ—гэта ўзрастаючая гатоўнасьць ня толькі дэманстраваць, але і біцца за вуліцу ў схватках з клясавым ворагам.

Лепшым паказьнікам гэтага зьяўляецца тое, што лёзунг партыі аб стварэньні самаабароны цяпер з энтузіязмам успрыймаецца масамі і пачынае праводзіцца ў жыцьцё. Гэта сьведчыць аб тым, што лёзунг масавай самаабароны ня выдуман партыяй, а вынікае з вопыта барацьбы, абагульвае нараджаючыяся ў масах патрабаваньні, яшчэ няясныя для іх саміх, напоўняе гэтыя патрабаваньні выразным палітычным рэвалюцыйным зьместам. Лёзунг гэты

зьяўляецца лепшым аружжам партыі ў пэрыяд разгортваючагася контр наступленьня пралетарыяту. Бліскучыя ўзоры самаабароны ў Горнай Сілезіі, як пралетарскай, і ў Алекшыцах і Бярэставіцах, як сялянснай, паказалі на жыцьцёвым вопыце, што самаабарона гэта ня толькі абаронная пазыцыя масы, але і контрнаступальная, што масы ўжо здольны, хоць-бы часова, перамагаць ворага ў адкрытых бойках, заваёўваць вуліцу пад сьцягам партыі. Такі больш высокі рэвалюцыйны настрой мас вельмі важна улічваць у справе кіраўніцтва іх барацьбой, умасавеньня іх руху. Цяпер, больш рашуча чым калі бы то ні было, трэба паставіць пытаньне аб заваяваньні вуліцы, аб масавых дэманстрацыях, галодных паходах, аб стварэньні дружын самаабароны, інакш партыя застанецца ў хвасьце разгортваючыхся падзеяў. Беспрацоўныя ня могуць абвясьціць стачкі, перад імі ў цяперашні час адзіная вышэйшая форма барацьбы—гэта барацьба за вуліцу, апанаваньне вуліцы, паходы да кашар, вастрогаў, фабрык, гмінаў, да рабочых цэнтраў і маёнткаў. Канцэнтрацыя і аб'яднаньне стачкі з дэманстрацыяй у горадзе і з галоднымі паходамі ў вёсцы пры абавязковым стварэньні дружын самаабароны—вось вышэйшая форма цяперашняга моманту разгорнутага выступленьня ўсіх атрадаў арміі працы на фашыстоўскую дыктатуру.

Дзеля зьдзейсьненьня гэтай задачы КПЗБ патрэбна яшчэ шмат папрацаваць. Мінулыя выбары ў сойм і ўкраінскія падзеі паказалі, што партыя ня здолела мабілізаваць масы на актыўныя выступленьні, не змагла вывесьці масы на вуліцу; партыя не выкарыстоўвае гатоўнасьці працоўнага сялянства да масавых выступленьняў (Азёры), ня было спробы наладзіць галодныя паходы ў вёсцы. Перад аблічам надыходзячых магутных клясавых баёў ў Польшчы, перад усё узрастаючай магчымасьцю зьдзейсьненьня інтэрвэнцыі супроць СССР, партыя ня будзе на вышыні пастаўленых гістарычных задач, калі ўжо цяпер ня выявіць сябе як авангард пралетарыяту, здольны весьці масы за апанаваньне вуліцы, весьці на масавыя актыўныя выступленьні пад лёзунгам барацьбы за дыктатуру пралетарыяту, у абарону СССР.

Партыя павінна прыкласьці ўсе намаганьні, каб аб'яднаць усіх беспрацоўных, галадуючых і яшчэ працуючых пры варштатах, усіх арганізаваных і неарганізаваных у адзіны рэвалюцыйны фронт на грунце барацьбы за канкрэтныя штодзённыя патрэбы пад агульнымі лёзунгамі партыі кляса супроць клясы—гэта значыць, зьдзейсьненьне тактыкі адзінага фронту зьнізу супроць фашызму і сацыял-фашызму і правядзеньне на практыцы самастойнага кіраўніцтва партыі клясавымі баямі пралетарыяту.

Баявыя выступленьні 25-га лютага павінны паслужыць для узмацненьня інтэрнацыянальнай пралетарскай салідарнасьці, павінны зьявіцца рэвалюцыйным заклікам да аб'яднаньня ўсіх рэвалюцыйных сіл гораду і вёскі на штурм фашыстоўскай дыктатуры, на узмацненьне справы пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы.

---

**„ПРЫ ДАПАМОЗЕ ТАКТЫКІ АДЗІНАГА ФРОНТУ МЫ ПАВІННЫ ЎЗМАЦНІЦЬ І ЎВЯЗАЦЬ РУХ БЕСПРАЦОЎНЫХ З БАРАЦЬБОЮ ПРАЦУЮЧЫХ РАБОЧЫХ. ГЭТА ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА АДНЫМ З ВАЖНЕЙШЫХ ФАКТАРАЎ УЗДЫМУ БАРАЦЬБЫ МАС НА ВЫШЭЙШЫ РОВЕНЬ“.** (З пастаноў V зьезду КПП).

# Выканаем рашэньні V Зьезду па арганізацыйнаму пытаньню.

„Галоўным зьвяном у ланцугу задач партыі Зьезд зрабіў **арганізацыю сіл для рэвалюцыйнага вырашэньня крызысу**, шпаркае завяваньне рашаючае большасьці пралетарыяту і асноўных мас сялянства для сацыялістычнай рэвалюцыі. У гэтых адносінах Кампартыя Польшчы ня мае даўгіх тэрмінаў, бо падзеі разгортваюцца з нязвычайнай хуткасьцю".

(Ю. Ленскі, V Зьезд КПП).

Гісторыя дала надзвычайна малыя тэрміны дзеля існаваньня загніваючага капіталізму. Для Польшчы—для польскіх капіталістаў і абшарнікаў — якая зьяўляецца найбольш слабым зьвяном ва ўсім ланцугу імпэрыялістычных дзяржаваў, тэрміны яшчэ больш кароткія.

Капіталізм гніе ў корані. Яго падстава—капіталістычная гаспадарка перажывае найглыбейшы крызыс. Але было-б глыбока памылковым дапускаць, што капіталізм сам разваліцца, калі яго канчаткова не разваліць рэвалюцыя пераможнага пралетарыяту. Капіталізм яшчэ можа падоўжыць свае існаваньне за кошт большай эксплёатацыі працоўных мас. Адгэтуль значэньне „арганізацыі сіл для рэвалюцыйнага вырашэньня крызысу". Адгэтуль значэньне мабілізацыйных і арганізацыйных здольнасьцяў нашае партыі дзеля арганізацыі гэтых сіл.

V Зьезд КПП у сваіх рашэньнях указаў партыі шляхі дзеля вырашэньня сваёй асноўнай задачы—хутчэйшай мабілізацыі і арганізацыі пралетарыяту і пад яго кіраўніцтвам эксплёатуемага сялянства і асноўных мас прыгнечаных нацыянальнасьцяў. V Зьезд забясьпечыў партыю зьнітованым, згуртаваным кіраўніцтвам у асобе яго ЦК, ачысьціў ЦК ад правых ухілістых. V Зьезд узброіў партыйныя арганізацыі ў іх штодзённай практычнай працы. Задача КПЗБ—неадкладна пераўзброіцца больш удасканаленым аружжам, якое даў нам V Зьезд. Гэтае пераўзбраеньне павінна ісьці па лініі канкрэтызацыі ў варунках ЗБ рашэньняў і дырэктыў V Зьезду.

„У сучасны момант—гаворыцца ў рашэньнях V Зьезду КПП—калі пралетарыят і партыя стаяць перад буйнымі клясавымі баямі, пытаньне сілы, зьнітованасьці, гнуткасьці арганізацыі і яе сувязі з найшырачэзнымі масамі, яе здольнасьці мабілізаваць гэтыя масы,—зьяўляецца пытаньнем, якое будзе рашаць лёс рэвалюцыі".

Дзеля выкананьня задач, пастаўленых Зьездам, патрэбна ачышчэньне партыйных шэрагаў ад апартуністычных элемэнтаў—барацьба на два фронты: з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай на данным этапе, і з „левым" апартунізмам, а таксама з прымірэнцтвам да ўсялякіх відаў апартунізму.

Палітычныя ўплывы нашай партыі на шырокія масы, яе актыўнасьць, баяздольнасьць, адданасьць яе сяброў у варунках найцяжэйшага тэрару бязумоўна значна выраслі. Партыя наша арганізацыйна ўзмацнілася. Але досыць прааналізаваць дзейнасьць нашай партыі хаця-б за апошнія некалькі месяцаў, каб пераканацца ў тым, наколькі глыбока сядзіць правы апартунізм і сэктанцтва ў паасобных звеньнях КПЗБ. Ён шматвобразны, ён прыстасоўваецца да варункаў і часьцей усяго праяўляецца ў апартунізме на практыцы. У Валкавыску некаторыя таварышы лічаць, што сацыял-фашыстам можна і трэба перадаць кіраўніцтва

эканамічнай барацьбой, а наша партыя павінна займацца палітычнай барацьбой. У Вільні знаходзяцца таварышы, якія адкідваюць палітычную барацьбу і прызнаюць толькі эканамічную. У Пінску некалькі апартуністаў-рэнэгатаў дайшлі да свайго лёгічнага канца, здрадзілі інтарэсам рабочае клясы, сталі прамымі адкрытымі агентамі фашызму і сацыял-фашызму ў нашай партыі і ў выніку былі выкінуты з нашых шэрагаў. У Беластоку паасобныя таварышы ня толькі не правялі барацьбы супроць паасобных рэнэгатаў, нацыянал-фашыстаў, але выступалі з імі адзіным фронтам. У паасобных частках партыі ня выжыты сэктанцкія, а таксама нацыяналістычныя перажыткі і настроі, пагарджэньне да палякаў, католікаў, асабліва ня выжыты да канца рэшткі бундызму, ілюзіі да сацыял-і нацыянал-фашызму. Асноўныя крыніцы як правага, так і „левага“ апартунізму аднолькавыя: націск дробна-буржуазнага абкружэньня, боязьнь мас, трусасьць, нявер'е ў масы і радыкалізацыю мас.

Пасьля выбараў у сойм апартунізм вылезае ў новай форме—у форме панікёрства, прыкрываючагася аргумэнтамі: „фашызм перамог, фашызм пашырыў сваю сацыяльную базу. Фашысты правялі большасьць ў сойм. Масы галасавалі за фашыстаў. Антыфашыстоўскі блёк пацярпеў паражэньне. Няма радыкалізацыі мас і г. д. і т. п.“.

Гэтыя апартуністы ня бачаць, што вынікі выбараў тлумачацца не пашырэньнем сацыяльнай базы фашызму, а яны зьявіліся вынікам зьверскага тэрару і націску яшчэ моцнага, але гніючага ў корані, дзяржаўнага апарату. Гэтыя таварышы ацэньваюць факты бяз сувязі з асноўнымі рашаючымі працэсамі, якія адбываюцца ў жыцьці краю (крызыс, беспрацоўе, падрыхтоўка да вайны). Кожны мала-мальскі палітычна пісьменны таварыш і сьвядомы рабочы з пралетарскім чуцьцём разумее, што ў часе крызысу і рэвалюцыйнага ўздыму ўсякі нават нязначны факт актыўнасьці рабочых і сялянскіх мас мае вялікае значэньне, бо маюцца ўсе аб'ектыўныя варункі для росту гэтай актыўнасьці. На Заходняй Беларусі, як і ва ўсёй Польшчы кожны дзень прыносіць новыя і новыя факты разгортваючайся барацьбы рабочых і сялян (шматлікія забастоўкі і выступленьні сялян).

Апартунізм і сэктанцтва не даюць партыі максымальна разгарнуць сваю актыўнасьць. Апартунізм затрымлівае і актыўнасьць мас, а ў часе рашаючых баёў і росту труднасьцяў ён ператвараецца ў простага здрадніка рэвалюцыі. „Без барацьбы—гаворыцца ў рашэньнях V Зьезду—з пасыўнасьцю і апартунізмам на практыцы, без барацьбы супроць сэктанцтва і недаацэнкі арганізацыйных пытаньняў, без барацьбы на два фронты немагчыма правільнае правядзеньне партыйнай лініі“. (V Зьезд КПП, стар. 34).

Супроць гэтай недаацэнкі арганізацыйнага пытаньня і арганізацыйнай закаранеласьці і кансэрватызму трэба ўсямерна завастрыць барацьбу ў нашай партыі. Ленін нас вучыў, на аснове вопыту ўсіх рэвалюцый, што ў часы рэвалюцыйных збурэньняў дзень роўны да году і нават да дзесяцігодзьдзяў. Працэс нарастаньня рэвалюцыйнай сытуацыі характэрны тым, што адна падзея хутка і востра зьмяняецца другой. І на меры нарастаньня рэвалюцыйнай сытуацыі—а такі пэрыяд мы цяпер перажываем,—асабліва небясьпечна адставаць ад падзеяў як палітычна, так і арганізацыйна. Нашы арганізацыі павінны ўжо цяпер безадкладна пачаць перабудоўваць свае шэрагі на хаду, даючы адпор усім тым, хто не дае магчымасьці своечасова прыстасаваць сваю тактыку і арганізацыйную палітыку да варункаў і патрабаваньняў моманту.

Дзеля пасьпяховага правядзеньня дырэктыў Зьезду патрэбна ўзмацненьне сувязі з масамі і адпаведная пастаноўка інфармацыі аб становішчы і настроях працоўных мас. Ячэйка і парт. камітэты дзеля пасьпяховага кіраўніцтва барацьбой пралетарыяту павінны шмат ведаць. Яны павінны ў першую чаргу ведаць настроі той масы, барацьбой якой яны кіруюць; яны павінны ведаць, што робіцца ў лягеры нашых ворагаў, яны павінны ведаць ўсе хады і выхады той мясцовасьці, дзе яны працуюць (фаб-

рыкі, горад, гміна, маёнтак, вёска). Ня ведаючы канкрэтных умоў, цяжка гаварыць аб правільным правядзеньні дырэктыў V Зьезду.

## КАНКРЭТЫЗАЦЫЯ АРГАНІЗАЦЫЙНЫХ ЗАДАЧ.

Першая задача—узмацніць, актывізаваць існуючыя ячэйкі, асабліва на буйных прадпрыемствах. Ствараць новую сетку ячэяк на буйных прадпрыемствах, у маёнтках, на вытворствах, у вёсках, сярод беспрацоўных, сярод жонак рабочых, хатніх працаўніц і г. д. Галоўная і рашаючая ўвага пры гэтым павінна быць зьвернута на стварэньне здаровага пралетарскага касьцяка ў нашай партыі.

Ячэйка—фундамэнт нашай партыі. Яна зьяўляецца асноўным зьвяном у яе арганізацыйнай структуры. Ад ступені актыўнасьці ячэяк, ад іх уменьня працаваць, ад іх сувязі з масамі залежыць ў асноўным посьпех партыі ў справе мабілізацыі, арганізацыі і кіраўніцтва шырокімі масамі. Ня гледзячы на гэта, ячэйка зьяўляецца самым слабым зьвяном у нашай партыі. Актыўнасьць партыі ў цяперашні час не зьяўляецца вынікам актыўнасьці ячэяк, а яна ў большасьці выпадкаў абапіраецца на паасобных таварышоў, на розныя апараты, якія пранікаюць на тое ці іншае прадпрыемства, у тое ці іншае месца. Такое становішча не дае магчымасьці ячэйкам расьці і ўзмацоўвацца, бо асноўная праца робіцца паміма яе, праз яе галаву.

Усю ўвагу нізавых партыйных камітэтаў (гарадзкіх і раённых) ячэйкам. Туды трэба пасылаць лепшых таварышоў. Да ячэяк на буйных прадпрыемствах, маёнтках, альбо да ячэяк, якія маюць па тых ці іншых прычынах асаблівае значэньне для даннага раёну, трэба прымацоўваць для сталай працы найбольш моцных таварышоў. Найбольш палітычна пісьменных таварышоў трэба прымацоўваць да ячэяк буйных прадпрыемстваў дзеля сыстэматычнага выданьня фабрычных газэтак.

Ячэйка павінна выкарыстоўваць кожнага таварыша. Ня можа і не павінен быць ні водзін таварыш у нашай партыі бяз пэўнай ускладзенай на яго працы. З гэтай мэтай трэба правесьці цьвёрды падзел абавязкаў паміж сябрамі ячэйкі і кантроль з боку ячэйкі над выкананьнем абавязкаў з боку кожнага таварыша. Неабходна ўзмацніць парткамітэты за кошт мясцовых працаўнікоў, палепшыць сацыяльны склад, узмацніць калектыўнае кіраўніцтва.

Другая задача—стварэньне вакол ячэяк шырокага беспартыйнага актыву. Гэты актыў ствараецца ў працэсе масавай працы ячэйкі. Ён складаецца з тых рабочых, батракоў, альбо сялян, якія ў той або іншай меры выявілі сваю актыўнасьць у масавай працы, выступаюць на масоўках, вядуць агітацыю сярод рабочых і сялян за нашы лёзунгі, выступаюць супроць сацыял- і нацыянал-фашызму, распаўсюджваюць нашу літаратуру, прымаюць удзел у выбарных масавых органах, у органах адзінага фронту і т. п. Беспартыйны актыў не павінен складаць з сябе неаформленую, расплывістую масу. Пры яго непасрэдным удзеле і дапамозе трэба арганізоўваць групы профлявіцы на фабрыках, дружыны масавай самаабароны, мопраўскія гурткі, гурткі карэспандэнтаў, групы для распаўсюджваньня нашай літаратуры, групы агітатараў, у тым ліку і для агітацыі сярод салдат і г. д. Беспартыйных актывістаў, якія даказалі на справе сваю адданасьць рэвалюцыі, трэба без усялякіх рагатак браць у партыю.

Трэцяя задача—пашырэньне сеткі нашых партыйных арганізацый, пашырэньне сеткі „шчупальцаў" ўсюды, дзе толькі знаходзяцца рабочыя, альбо эксплёатуемыя, у горадзе, вёсцы і кашарах.

Ячэйка павінна прымацаваць партарганізатараў да паасобных цэхаў фабрыкі і да прадпрыемстваў, дзе няма ячэяк. Задача ячэйковага партарганізатара—інфармаваць ячэйку аб становішчы даннага аддзяленьня, цэху альбо даннага прадпрыемства, пры дапамозе беспартыйнага актыву трэба разгортваць там партыйную масавую працу. Па меры ўзмацаваньня працы павінны быць арганізаваны ячэйкі як у цэхах, так і на ўсім прадпрыемстве.

Тыя-ж формы працы павінна ўжываць ячэйка і сярод фальварачных рабочых і вясковая ячэйка.

Дзеля большага пашырэньня нашых арганізацыйных „шчупальцаў“ у фабрычных цэхах, прадпрыемствах, маёнтках і вёсках, дзе няма партыйцаў, партыйная ячэйка альбо партарганізатары павінны зьвязацца з найбольш блізкімі да партыі таварышамі.

Ад іх трэба сыстэматычна атрымоўваць інфармацыю аб становішчы і настроях рабочых даннага фабрычнага цэху, прадприемства, маёнтку альбо вёскі, іх трэба выкарыстаць у якасьці карэспандэнтаў для нашае прэсы. Іх трэба выкарыстаць дзеля арганізацыі груп профлявіцы, самаабароны і г. д.

Аднэй з найбольш актуальных арганізацыйных задач ячэйкі зьяўляецца ўзмацненьне кіраўніцтва працай КСМ, гэтае кіраўніцтва ўскладаецца на сэкратара ячэйкі.

**Чацьвёртая задача**—гэта кіраўніцтва партыі масавымі рабочымі, сялянскімі арганізацыямі і арганізацыямі нацыянальна-вызваленчага руху. Аграмаднае значэньне набіраюць для арганізацыі сіл рэвалюцыі і масавыя арганізацыі. І гэтае зьвяно ў дзейнасьці нашай партыі зьяўляецца самым слабым. Нашы рэвалюцыйныя прафсаюзы вельмі слаба зьвязаны з шырокімі масамі. Яны абмяжоўваюць сваю дзейнасьць толькі рамкамі саюзу, працуюць толькі сярод сваіх сяброў. Іх амаль што няма на буйных прадпрыемствах. Групы профлявіцы ў самай нязначнай колькасьці знаходзяцца на саміх прадпрыемствах. Асноўная задача партыі—праз свае фракцыі актывізаваць масавыя арганізацыі ў справе кіраўніцтва штодзённай барацьбой працоўных мас як арганізаваных, так і неарганізаваных.

Партыя павінна накіраваць асноўную дзейнасьць масавых арганізацый у бок прадпрыемстваў і працы сярод беспрацоўных, сярод жонак рабочых, усюды, дзе толькі знаходзяцца рабочыя альбо эксплёатаваныя сяляне. Асноўнае ў працы масавых арганізацый павінна быць: **не чакаць, пакуль масы прыдуць да іх, а ісьці да масаў усюды, дзе яны знаходзяцца.**

**Пятая задача**—арганізаваць рабочых і эксплёатаваных сялян дзеля непасрэднай барацьбы, і ў ходзе яе праз больш сьвядомую частку працоўных цягнуць за сабою больш адсталыя масы. Уцягнуць у рэвалюцыйны рух тыя масы, якія альбо яшчэ індыфэрэнтны, альбо ідуць яшчэ за сацыял-фашыстамі, за клерам, фашызмам і г. д.

І ў галіне арганізацыйнага замацаваньня нашага ўплыву ў нас ня ўсё здавальняюча. Нашыя арганізацыі правялі за апошні час значную масавую працу. Арганізавалі шмат масовак, сходаў і мітынгаў, асабліва ў часе выборнай кампаніі, але толькі на некалькіх з гэтых сходаў былі абраны органы адзінага фронту, антыфашыстоўскія камітэты, камітэты барацьбы. У Беластоку некаторыя апартуністычна настроеныя таварышы дайшлі да таго, што запярэчвалі магчымасьць і мэтагоднасьць выбараў гэтых камітэтаў. Гэтыя таварышы не зразумелі, што антыфашыстоўскія камітэты альбо іншыя органы барацьбы мас—органы адзінага фронту, абраныя самымі масамі, адыгрываюць рашаючую ролю ў справе мабілізацыі і арганізацыі шырокіх мас. Мы яшчэ ня ўмеем праз ужо ўцягнутыя ў барацьбу масы уцягваць тыя масы, якія па тых альбо іншых прычынах яшчэ ня ідуць за намі.

Партарганізацыі павінны выкарыстаць усё магчымае дзеля мабілізацыі мас у барацьбе супроць капіталістаў, абшарнікаў і кулакоў і супроць фашыстоўскай дыктатуры.

У часе забастовак трэба мабілізаваць саміх бастуючых дзеля зьняцьця з працы працуючых рабочых. Трэба ад імя бастуючых рассылаць шматлікія дэлегацыі да іншых рабочых дзеля разгортваньня агітацыі на карысьць пашырэньня барацьбы. Трэба выкарыстаць усе магчымыя рычагі для таго, каб падняць на барацьбу новыя і новыя пласты рабочых і сялянскіх мас.

**Шостая задача.**—Патрэбна узмоцненая праца ў арміі. І ў гэтай галіне ў нас мала зроблена. Працу ў арміі арганізацыі разглядваюць, як ізаляваную частку ад ўсёй працы партыі. У сапраўднасьці, працаваць у арміі ня значыць арганізоўваць толькі ячэйку ўнут-

ры армейскіх частак. Аграмаднае значэньне для працы ў арміі мае таксама уплываньне на армію звонку. Як-бы фашызм ні стараўся ізаляваць армію ад насельніцтва, ён гэтага зрабіць ня можа. Справа уплываньня на армію патрабуе рознастайнейшых мэтадаў. Братаньне, распаўсюджваньне нашай літаратуры, дэманстрацыі каля кашараў, арганізаваная шырокая карэспандэнцыя (лісты і весткі з хаты, весткі аб падатковых цяжарах, ліквідацыі сэрвітутаў, аб фашыстоўскай самаволі), шэфства фабрык і вёсак над паасобнымі вайсковымі часткамі і іншыя мэтады, якія павінны быць распрацованы на мясцох. Неабходна максымальна ўзмацніць працу сярод рэзэрвістаў і рэкрутаў, ствараць спэцыяльныя арганізацыі сярод іх, забясьпечваючы сталую сувязь з імі на выпадак набору ў армію альбо на манэўры. Трэба зрабіць пераломам у працы Камсамолу ў бок масавай, штодзённай актыўнай працы.

Сёмая задача:—узьняць барацьбу мас на больш высокі ровень, арганізаваць масы для непасрэднай барацьбы за вуліцу, убаявіць масы. Для гэтага неабходна ствараць дружыны самаабароны. Дружыны самаабароны арганізуюць рабочых для барацьбы супроць паліцыі і фашыстоўскіх банд у часе вулічных выступленьняў; яны змагаюцца супроць штрайкбрэхераў, дапамагаюць партыі арганізоўваць дэманстрацыі і мітынгі, пікеты пры забастоўках, арганізуюць бастуючых рабочых для зьняцьця з працы працуючых, дапамагаюць арганізоўваць беспрацоўных і г. д.

* *

Рашэньні V Зьезду паказваюць рэвалюцыйны шлях дзеля разьвязаньня крызысу ў Польшчы. Кожная партарганізацыя, кожны сябра партыі павінен безадкладна прыкласьці ўсе свае сілы дзеля правядзеньня ў жыцьцё рашэньняў Зьезду. Сапраўднае бальшавіцкае правядзеньне на практыцы рашэньняў V Зьезду вымагае ад кожнага партыйца не фармальнага падыходу да іх, а канкрэтнага прыстасаваньня дырэктыў зьезду да варункаў кожнае акругі, кожнага раёну. Наша партыя ідзе насустрэч вялікім падзеям. Партыя павінна спаткаць гэтыя падзеі ў поўным узбраеньні. Дзеля гэтага ўжо цяпер неабходна перабудаваць на паасобных вучастках нашы шэрагі. З гэтым трэба прысьпяшыцца, ня губляць тэмпаў. Гэта трэба рабіць на хаду.

---

**„АД ТАГО, Ў ЯКОЙ СТУПЕНІ ПАРТЫЯ БУДЗЕ ЗЬВЯЗАНА З МАСАМІ, А КОЖНАЯ ПАРТЫЙНАЯ ЯЧЭЙКА З МАСАМІ СВАЙГО РАЁНУ, АД ТАГО, Ў ЯКОЙ СТУПЕНІ ПАРТЫЯ Ў ЦЭЛЫМ І КОЖНАЯ ЯЧЭИКА ЗМОЖА АРГАНІЗАВАЦЬ БАРАЦРБУ МАС І КІРАВАЦЬ ІМІ, БУДЗЕ ЗАЛЕЖЫЦЬ РОЛЯ ПАРТЫІ Ў НОВЫМ РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ УЗДЫМЕ“.** (З пастаноў V зьезду КПП).

А. Сталевіч.

# Спраўней валодаць бальшавіцкім аружжам.

„Тактыка адзінага фронту, як сродак найбольш пасьпяховай барацьбы супроць капіталу, клясавай мабілізацыі мас, дэмаскаваньня і ізоляцыі рэфармісцкіх верхавін, уваходзіць важнейшай складовай часткай у тактыку Кампартыі на ўвесь прадрэвалюцыйны пэрыяд“.
(Прагр. Кам. Інтэрн.).

Характэрным для сучасных настрояў рабочае клясы ЗБ і ўсей Польшчы зьяўляецца ня толькі яе шпаркае лявеньне. але побач з тым і рухлівае шуканьне, стыхійнае прымяненьне вострых формаў барацьбы супроць наступу капіталу і, ўрэшце, магутны рост давер'я да Кампартыі, гуртаваньне пад яе сьцягамі. Палітычна яшчэ несьвядомыя рабочыя з сацыял-фашыстоўскіх партыяў пераконваюцца на штодзённай барацьбе супроць узрастаючага беспрацоўя, капіталістычнай рацыяналізацыі, дарагоўлі, што іх сацыял-фашыстоўскія правадыры здраджаюць на кожным кроку, што яны ня толькі не змагаюцца за іх інтарэсы. а ўсямерна садзейнічаюць капіталістам і ўраду да большага іх закабаленьня. Цяпер, калі гаспадарчы крызыс ўсё цясьней заціскае пятлю голаду і нэндзы, рабочая кляса асабліва чуйна адносіцца да ўсялякай здрады яе інтарэсаў і асабліва рэзка на гэта рэагуе. Цяпер нават самы закарузлы апартуніст не адважыцца адкрыта сказаць, быццам масы не актывізуюцца, не шукаюць дарог да рашучай схваткі з фашыстоўскай дыктатурай.

Яскравейшыя факты сучаснасьці адкрываюць вочы рабочым на сутнасьць іх клясавых ворагаў, дэмаскуюць іх сацыял-фашыстоўскіх апякуноў. У Вільні правадыр сацыял-фашыстоўскага прафсаюзу, Бойко, ашуканчым спосабам выманіваў подпісы ад выборчых дэлегатаў на кабальны дагавор з фабрыкантамі, які ён заключыў за плячамі рабочых і ў якім даваў згоду на рэдукцыю часткі рабочых. У выніку рабочыя пабілі Бойко і пакідаюць яго прафсаюз. У Віленшчыне абшарнік выганяе батракоў, якія запісваюцца ў левы прафсаюз, і змушае батракоў запісвацца ў пэпэсоўскі прафсаюз, бо гэты апошні дапамагае абшарніку трымаць батрака ў пакоры і эксплёататарскіх цісках.

Такія факты ёсьць лепшы матарыял для прапаганды за адзіны фронт, лепшы выбуховы матарыял, які ўзрывае знутры сацыял-фашыстоўскія арганізацыі. Нажаль, мы мала садзейнічаем адыходу працоўных мас ад партыяў фашыстоўскай дыктатуры, а часта—густа спадзяемся на стыхійны адыход гэтых мас, на самацечныя перасоўкі ў рабочай клясе, замест таго каб узмацняць і пашыраць апазыцыю ўнутры сацыял і народніцка - фашыстоўскіх партыяў, разваліваць іх і ўцягваць масы ў антыфашыстоўскія арганізацыі. Жыцьцё прыносіць нам у рэвалюцыйны арсэнал багацейшую зброю; інфармацыі з месц усьцяж паведамляюць, што ў ППС, Бунд, Стр. Хл. ідзе бурленьне сярод рабочых, насьпяваюць расколы, ёсьць факты адыходу (як саюз рукавічнікаў ад Бунду, літаграфшчыкаў ад Бойкі ў Вільні), ідзе далей развал масавых палуваенных фашыстоўскіх арганізацыяў. Маюцца выпадкі, калі ў адным з гарадоў ЗБ 30 сяброў Пржыспособеньня Войск. перайшлі ў рабочую самаабарону. У Беластоку ад сацыял-фашыстоўскай арганізацыі моладзі адышло некалькі маладых рабочых і ўліліся ў самаабарону. Таксама паражэньне Цэнтралеву на выбарах, калі на ЗБ Цэнтралеў у 1928 г. атрымаў 240.902 гал. а на гэтых выбарах—100.892 гол.; пра гэта паражэньне сыгналізавала ўжо прадвыбарная акцыя, у часе якой рэвалюцыйнымі рабочымі масава разбі-

валіся мітынгі і масоўкі сацыял-фашыстаў.

Сацыял-фашысты і іншыя агенты фашызму ўсё робяць, каб затармазіць, раскласьці, разьбіць рэвалюцыйны рух працоўных мас і гэта іх дэмаскуе, выклікае масавы адыход рабочых з-пад іх уплыву і іх арганізацыяў. Задача камуністаў перадусім тактыкай адзінага фронту, рэвалюцыйным дзействам давесьці масам, што кампартыя гэта баявы авангард рабочае клясы, які самаахвярна, стойка, да канца, да перамогі змагаецца на перадавой лініі клясавай барацьбы.

Мы радасна рэгіструем факты адыходу рабочых ад сацыял-фашыстаў і ў большасьці выпадкаў бязьдзейнічаем, бо нярэдка бывае так, што адышоўшыя рабочыя масы пападаюць у ББС-оўскія мышалоўкі, альбо застаюцца за бартом рэвалюцыйных арганізацыяў. Перад намі стаіць першарадная задача,—заваяваць большасьць рабочае клясы. Гэтая задача бліжэйшага часу, бо падзеі ў Польшчы разгортваюцца з надзвычайнай шпаркасьцю. А тымчасам вышэй пададзеныя факты і тое што партарганізацыям не удалося у дастатковай меры мабілізаваць масы на адпор беламу тэрару, каб дзень выбараў зрабіць днём баявых масавых схватак з фашызмам, каб заваяваць вуліцы, ўсё гэта кажа аб тым, што мы час ад часу трацім рэвалюцыйны тэмп, адстаем ад палітычных падзеяў. Ня быць на вышыні рэвалюцыйнага тэмпу—гэта значыць даць магчымасьць сацыял-фашыстам ужываць свой псэўда-радыкальны манэўр, якім яны так шырака цяпер карыстаюцца і гэтым самым на якісь час затармазіць рэвалюцыянізаваньне рабочых. Аб гэтым недастатку трэба алярмаваць цяпер на кожным вучастку нашай барацьбы, бо ў сучасны момант рэвалюцыйнага ўздыму гэты апартунізм ёсьць завяршэньнем і крыніцай ўсіх іншых апартунізмаў, як справа так і зьлева.

Недастатковая ўвага партарганізацыяў да рэвалюцыйнага фэрмэнту ў масах сацыял-фашыстоўскіх партыяў выцякае з недастатковага разуменьня тактыкі адзінага фронту, няўменьня карыстацца гэтай лепшай зброяй бальшавізму ў справе заваяваньня большасьці рабочае клясы, у справе разгортваньня контрнаступленьня пралетарыяту.

Арганізацыі на мясцох павінны улічваць тое, што толькі праз тактыку адзінага фронту яны змогуць заваяваць большасьць рабочае клясы, што праз тактыку адзінага фронту яны змогуць прашчупаць сілы клясавага ворага, а таксама ўлічыць бояздольнасьць і сілы сваёй арміі на данным вучастку рэвалюцыйнага фронту. Гэта асабліва важна цяпер, калі кожная партарганізацыя на мясцох усё больш набірае значэньня баявага штабу рэвалюцыйных сіл сваёй тэрыторыі, сьпешна мабілізуючага свае кадры дзеля нямінучых магутных клясавых схватак. Гэтаму штабу неабходна ведаць, якой арміяй ён валодае, якія яго саюзьнікі, стан ворага, калі разгарнуць наступленьне і інш., а ва ўсім гэтым мае вялізарнае значэньне бальшавіцкае правядзеньне тактыкі адзінага фронту зьнізу.

Ленін сказаў, што: „Камуністыя, якія ня хочуць зразумець гэтага, навучыцца гэтаму (тактыцы адзінага фронту—А.С.), ня могуць спадзявацца на здабыцьцё большасьці сярод рабочых, ці ў кожным разе яны затрудняюць і супыняюць справу здабыцьця такой большасьці. А гэта ўжо для камуністаў і для тых запраўдных прыхільнікаў рабочае рэвалюцыі зусім не да дараваньня“. Партыя ў сваіх рашэньнях неаднокраць давала ясныя указаньні аб тактыцы адзінага фронту, завастрала ўвагу на неабходнасьці яго шырэйшага ўжываньня. Аднак, да гэтага часу няма грунтоўнага зрушша ў партыйнай масавай практыцы і, галоўнае тое, што гэтай тактыкай ня ўзброіліся яшчэ ні ячэйкі, ні фракцыі, ні профлявіца ў сваёй штодзённай барацьбе. У большасьці партарганізацыі яшчэ не навучыліся ў тактыцы адзінага фронту выяўляць шырокую ініцыятыву, гнуткасьць і манэўраздольнасьць.

Цяпер пасьля выбараў, калі фашыстоўская сутнасьць агентаў фашызму выявілася перад масамі з яшчэ большаю вачавіднасьцю, калі масы пачынаюць разумець, што грызьня Цэнтралеву з пілсудчыкамі ня ёсьць барацьбой

масаў, цяпер пачнецца яшчэ больш адыход гэтых мас з-пад апякунства і каманды сацыял-фашызму. З тым большай рашучасьцю партарганізацыям трэба правесьці самакрытыку ў справе ўжываньня тактыкі адзінага фронту, з большай энэргіяй праводзіць гэтую тактыку ў жыцьцё. Матарыялу для самакрытыкі лішня шмат.

У Горадні нават некалькі месяцаў таму назад быў выкінуты лёзунг адзінага фронту зьверху і зьнізу, інакш кажучы, тварэньне адзінага фронту з фашыстоўскімі правадырамі, што прыводзіць да ўзмацненьня ілюзыяў у рабочых, быццам розныя Бойкі, Богданы і іншыя змагаюцца, ці могуць змагацца за інтарэсы рабочае клясы. Прымяненьне тактыкі адзінага фронту магчыма толькі зьнізу, толькі з рабочаю масаю, якая яшчэ знаходзіцца пад уплывам сацыял-фашыстаў, толькі пад самастойным кіраўніцтвам Кампартыі, пры рашучай барацьбе супроць розных каншахтаў з прафсаюзнай бюракратычнай верхавінай і сацыял-фашыстоўскімі правадырамі.

Аб тым, што тактыка адзінага фронту яшчэ ня зусім уяўлена для многіх нізавых зьвеньняў партыі, сьведчыць і тое, што ў барацьбе супроць сацыял-фашызму няма выразнага супроцьстаўленьня мас да сацыял-фашыстоўскіх правадыроў, у агітацыі і арганізацыйнай практыцы ня робіцца рэзкага размежаваньня паміж масамі, якія яшчэ ачмучаны фашызмам і агентамі фашызму. Трэба сьмялей праводзіць у жыцьцё пастановы V Зьезду КПП і дырэктывы ЦК КПЗБ аб уцягваньні ў органы адзінага фронту зьнізу тых рабочых з сацыял-фашыстоўскіх арганізацыяў, якія рашаюцца выступіць супроць сваіх правадыроў.

Горадзенскі АК у адозве супроць выступленьня Цэнтралеву 14 верасьня г.г. гаворыць аб высокай палітыцы, дае шмат лірыкі аб тэрары, але літэральна ні слова аб эксплёатацыі, ні воднага эканамічнага лёзунгу, ніякіх канкрэтных прадпасылак да стварэньня адзінага фронту зьнізу. У Віленскай адозве прафлевіцы, выдадзенай да рабочых ББ-скага гаспадарчага прафсаюзу даволі ўдала дэмаскуецца ўся палітыка ББ. Далей адозва заклікае да ўступленьня ў прафлевіцу, але за што змагаецца гэтая прафлевіца, якая розьніца паміж ББ і прафлевіцай, шэраговы рабочы не даэнаўся з гэтай адозвы. Там няма ні воднага эканамічнага частковага лёзунгу, ні воднага канкрэтнага дамаганьня рабочых гэтага гаспадарчага саюзу, адсутнічае лёзунг 7-мі гадзіннага рабочага дню. Вынікі такіх адозваў, калі не ад'емныя дык вельмі нязначныя —адсталы рабочы адвернецца ад аўтараў такіх адозваў, кваліфікуючы іх, як крыкуноў. А пагутары з такім рабочым аб яго штодзённых балячках, аб тым, чаму ён заўсёды палугалодны, чаму ён беспрацоўны, пакажы прычыны ўсяго гэтага і дарогу выхаду, дык ён зразумее такую гутарку і пойдзе за тваім клічам. Усё гэта так элемэнтарна і зразумела, аднак памылкі ўсьцяж паўтараюцца.

Трэба на штодзённым вопыце барацьбы мас пераконваць іх аб здрадзе аб контррэвалюцыйнай сутнасьці сацыял-фашыстаў і выстаўляць нашыя лёзунгі, выцякаючыя з канкрэтных варункаў дадзенага вучастку барацьбы, лёзунгі зразумелыя і мабілізуючыя рабочых гэтага вучастку. Нават самае дробнае нязначнае дамаганьне рабочага ці працоўнага селяніна не павінна застацца без таго, каб на яго наша партыя не адгукнулася барацьбой, каля якога арганізавала-б працоўныя масы, на аснове якога дэмаскавала фашызм і яго агентаў і зьвязала-б з барацьбой супроць фашыстоўскай дыктатуры, за сацыялістычную рэвалюцыю ў Польшчы.

Эканамічны крызыс, беспрацоўе, наступленьне капіталу і тысяча штодзённых балячак рабочых—вось чыньнікі клясавага усьведамленьня шырокіх пластоў рабочае клясы, вось база для адзінага фронту зьнізу. Статыстыка кажа, что ў 1929 г. 87% забастовак былі на грунце барацьбы супроць зьніжэньня платы і павялічэньня рабочага дню. Мясцовым арганізацыям трэба, выкарыстоўваючы кожны канфлікт працы з капіталам, выкарыстоўваючы гэтыя галоўныя балячкі рабочае клясы і канкрэтныя дамаганьні на кожным прадпрыемстве, ўцягваць рабочых у

адзіны фронт супроць сацыялфашызму, капіталістаў і іх фашыстоўскага ўраду. Бо тактыка адзінага фронту зьнізу— гэта перад усім мэтад у штодзённай барацьбе дзеля мабілізацыі мас і разгортваньня іх контрнаступленьня супроць капіталу, клясы супроць клясы, а ня голая агітацыя, як гэта найчасьцей у нас сустракаецца. Пры гэтым мэтад не ад выпадку да выпадку, ня толькі кампанейскі, але пастаянны, штодзённы, шырака ўжываны. Мастацтва увязкі агітацыі з актыўнай барацьбой за штодзённыя дамаганьні, увязкі палітычных лёзунгаў з эканамічнымі выяўляецца ў Ленінскай ісьціне: палітыка ёсьць сканцэнтраваная эканоміка.

У прашоўшай выбарчай кампаніі з усёй вачавіднасьцю было выяўлена няўмелае і недастатковае ўжываньне тактыкі адзінага фронту зьнізу і слабасьць арганізацыйнага яго замацаваньня.

Зразумела, што з неправідловай палітычнай устаноўкі выцякае і неправідловы арганізацыйны падыход. У Вільні зьбіраецца мітынг бастуючых краўцоў, якія знаходзяцца пад уплывам Бунду. Мітынг праходзіць пад нашымі лёзунгамі, краўцы палітычна з намі, аднак, ня было зроблена нават спробы арганізацыйна замацаваць гэты створаны адзіны фронт, ня быў выбраны рэвалюцыйны стачачны камітэт, Бунд ня быў да канца разьбіты. ГК у сваім лісьце да ячэйкі краўцоў слушна ад іх дамагаецца: „Рашучым штодзённым дэмаскаваньнем сацыял-фашыстоўскага праўленьня на аснове ўсіх канкрэтных фактаў яго здрады і шляхам самастойнай працы захапіць кіраўніцтва забастоўкай у нашы рукі“. Органы адзінага фронту, як напр. камітэты акцыі, маюць аграмаднае значэньне ў справе падрыву дысцыпліны ў сацыял-фашыстоўскіх арганізацыях, распарушваньня іх апарату, у справе наяўнага, перад самай масай дэмаскаваньня іх правадыроў і адцягваньня з пад сацыял-фашыстоўскага ўплыву.

Арганізацыям на мясцох неабходна напружыць увагу на ўнутрыпартыйнае жыцьцё сацыял-фашыстоўскіх партыяў і арганізацыяў, на той фэрмэнт, які нарастае ў іх нутры, станавіцца на чале нездаволеных мас, шырока апавяшчаць у прэсе, адозвах, на масавых выступленьнях аб раскладзе і развале сацыял-фашыстоўскіх арганізацыяў і гэтым садзейнічаць рэвалюцыйнаму усьведамленьню шырокіх рабочых пластоў.

Адышоўшыя рабочыя няхай пішуць адкрытыя лісты да рабочых яшчэ застаўшыхся ў сацыял-фашыстоўскіх арганізацыях, няхай выступаюць на сходах, мітынгах, дэмаскуючы сваіх быўшых правадыроў. Задача партарганізацыяў—гэта як найбольш масава яднаць усе атрады арміі працы ва ўсіх формах барацьбы адзінага фронту, а менавіта —забастоўкі, дэманстрацыі, мітынгі, самаабарона, у штодзённых сутычках з сацыял-фашыстамі на сходах, пры выхадзе з фабрык і г. д.

Было-б грубай апартуністычнай памылкай ставіць тактыку адзінага фронту, ставіць адарваньне рабочых з-пад уплыву сацыял-фашыстаў як мэту, як завяршэньне рэвалюцыянізаваньня мас. Тактыка адзінага фронту ёсьць незамянімы сродак у справе мабілізацыі і аганізацыі рабочае клясы пад уплывам і кіраўніцтвам Кампартыі. Дзеля таго, рэалізуючы гэтую тактыку неабходна з усёй сілай выпукляць роль партыі, як баявога авангарду і правадыра рабочых і рэвалюцыйнага сялянства.

Палітычнае дасягненьне у тактыцы адзінага фронту павінна быць абавязкова замацавана арганізацыйна, гэта ёсьць, каб найбольш рэвалюцыйна вытрыманыя элемэнты прыймаць у шэрагі Кампартыі, а другіх, пад нашым палітычным кіраўніцтвам, арганізаваць у масавыя арганізацыі дзеля рэвалюцыйнага загартаваньня і дзеля аканчальнага выпальваньня ходам клясавай барацьбы ўсіх рэштак і ўплываў сацыял-фашызму.

Няхай-жа тактыка адзінага фронту зьнізу стане бальшавіцкай рэвалюцыйнай практыкай у справе аб'яднаньня рабочых арганізаваных і неарганізаваных, беспрацоўных і занятых на прадпрыемствах у адзіны рэвалюцыйны фронт барацьбы супроць фашы тоўскай дыктатуры і яе сацыял-фашыстоўскіх агентаў.

Торскі.

# Рэвалюцыйны ўздым на Заходняй Украіне і роля КПЗБ.

Рэвалюцыйны выбух на Заходняй Украіне, які выліўся ў масавыя падпалы абшарніцкіх і кулацкіх маёнткаў і стогаў, зьяўляецца найбольш яскравым паказьнікам глыбіні палітычнага крызысу фашыстоўскай дыктатуры.

Баі ўкраінскіх працоўных мас, карныя экспэдыцыі польскага фашызму маюць значэньне ня толькі для Заходняй Украіны—яны маюць аграмаднейшае значэньне для ўсёй Польшчы і асабліва для Заходняй Беларусі.

Украінскія падзеі далі ў разрэзе ўсе найбольш характэрныя рысы перажываемага моманту: нарастаньне рэвалюцыйнай сытуацыі і грамадзянскай вайны, якое выявілася ў формах, уласьцівых стыхійнаму сялянскаму руху; мэтады расправы фашызму, разгарнуўшыя малюнак падрыхтоўкі фашызму да грамадзянскай вайны і забесьпячэньня тылу ў надыходзячай вайне супроць СССР. Украінскія падзеі былі адначасна экзамэнам для ўсёй Кампартыі Польшчы і ў першую чаргу для КПЗУ, паказалі, наколькі мы былі падрыхтаваны для кіраўніцтва гэтым рухам.

І ўрэшце рэвалюцыйная барацьба на Заходняй Украіне паказала, якое першараднае значэньне мае нацыянальна-вызваленчы рух, як адна з рухавых сіл рэвалюцыі ў Польшчы.

Больш вострыя ў параўнаньні з усёй Польшчай формы масавай барацьбы на Заходняй Украіне вынікаюць з асаблівай вастраты эканамічнага крызысу на ЗУ, які паглыбляецца каленіяльнай палітыкай польскай акупацыі. Крызыс раней усяго і мацней усяго ўдарыў па заходня - ўкраінскай прамысловасьці, асабліва па лясной і дрэваапрацовачнай. За апошні год мы маем ва ўсіх галінах прамысловасьці амаль 50% скарачэньня рабочых, якое праводзіцца ў першую чаргу за кошт украінскіх рабочых, асабліва зьвязаных з вёскай сэзоньнікаў. Да ярма аграрнага крызысу і падаткаў у вёсцы, якія давялі сялянскія масы да поўнай паўпэрызацыі, дадаецца і пашырэньне беспрацоўя ў горадзе, немагчымасьць атрымаць якога-небудзь сэзоннага заробку.

Пунктам найбольшага націску фашыстоўскай эксплёатацыі і прыгнёту аказалася вёска і таму тут у найбольш вострых формах выступіў бунт мас. Але гэта зусім ня значыла, што працоўныя масы вёскі былі ізаляваны, што яны занадта зарваліся, як сьцьвярджалі некаторыя таварышы. У той час, калі вёска, даведзеная да дна нэндзы, пачала паліць стагі і маёнткі, у горадзе мы маем хвалю вострых выступленьняў і стачак рабочых супроць рэдукцыяў і зьніжэньня платы (Калуш, Сьцебнік, Польна, Санок, Барыслаўль).

Усё гэта сьведчыла аб глыбокім рэвалюцыйным бушаваньні ва ўсім краі, найбольш яркай праявай якога былі падпалы і сабатажныя акты. Рух захапіў шырокія пласты гарадзкой дробнай буржуазіі і вучнёўскай моладзі, зьвязанай з вёскай—ён быў шырокім нацыянальна-вызваленчым рухам шырокіх мас Заходняй Украіны з яскрава выражаным сацыяльным зьместам. Грунтам яго была барацьба ўкраінскага сялянства супроць польскага абшарніка і акупанта, прычым падпалы пачалі ахопліваць таксама маёнткі ўкраінскіх абшарнікаў, папоў і кулакоў.

Перад КПЗУ стаяла задача арганізацыйнага ахопу стыхійнага сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху, падняцьця яго на вышэйшы, больш масавы і арганізаваны зровень, узмацненьне

кіраўніцтва пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, як гегемона, які вядзе супроць фашыстоўскай дыктатуры, супроць акупацыі шырачэзныя народныя масы.

Калі на Заходнюю Украіну былі накіраваны дывізіі кавалерыі і тысячы паліцыі дзеля здушэньня руху, задачай партыі было разгарнуць актыўны адпор карным экспэдыцыям, арганізуючы самаабарону мас супроць тэрару.

Задачай усей КПП і КПЗБ было ў той момант падняць пралетарыят і працоўныя масы Польшчы і Заходняй Беларусі на падтрыманьне і абарону змагаючыхся заходня-украінскіх мас.

Падсумоўваючы цяпер вынікі ролі партыі ў падзеях на Заходняй Украіне, мы павінны прызнаць, што „КПП, таксама як і КПЗУ і КПЗБ не сталі на вышыні задач у адносінах да стыхійнага нацыянальна-вызваленчага руху, ў якім упяршыню за цэлы шэраг гадоў выступілі выразна элементы грамадзянскай вайны. Нашы арганізацыі не выявілі зразуменьня аграмаднага значэньня гэтага руху, як важнейшага зьвяна ў нарастаньні рэвалюцыйнай сытуацыі і магутнага фактару ўзрыву падстаў фашыстоўскай дыктатуры". (Рэзалюцыя II пленуму ЦК КПП).

На фоне невыстарчальнай актыўнасьці ўсей партыі ва ўкраінскіх падзеях з асаблівай рэзкасьцю выступае надзвычайна слабы ўдзел у іх КПЗУ, перад якой стаялі найбольш непасрэдна задачы, на якую кладзецца найбольшая адказнасьць.

ЦК КПЗУ у сваёй рэзалюцыі канстатуе, што „КПЗУ і КСМ ЗУ ў цэлым ня выканалі сваіх задач і, не здалеўшы стаць на чале гэтага масавага руху, аказаліся ў яго хвасьце. Шпаркае нарастаньне рэвалюцыйнай сытуацыі, шырокая хваля нацыянальна-вызваленчага руху застала нашу партыю непадрыхтаванай, не перабудаванай стасоўна да новых варункаў, да рашаючых баёў супроць фашыстоўскай дыктатуры".

Прычына пасыўнасьці КПЗУ бязумоўна заключалася ў няправільнай палітычнай ўстаноўцы, у недаацэнцы рэвалюцыйнага разьвіцьця сытуацыі і ролі стыхійнага рэвалюцыйнага сялянскага руху. Гэтая няправільная ўстаноўка выразілася перадусім у ад'емным адношэньні да падпалаў, як стыхійнай формы барацьбы сялянскіх мас. Адносіны да формаў руху выяўляліся па сутнасьці адмоўнымі адносінамі да самаго руху, недаацэнкай яго рэвалюцыйнага значэньня.

Што з сябе прадстаўляла хваля падпалаў, як пэўная стадыя разьвіцьця руху?

Падпалы былі масавым зьявішчам; выражалі настроі шырокіх мас вёскі, найбольш актыўныя элемэнты якой непасрэдна прымалі ўдзел у падпалах; мелі поўнае падтрыманьне і сымпатыю мас. Але на гэтай стадыі рух яшчэ ня выліўся ў непасрэдныя масавыя выступленьні. Тактычны плян партыі павінен быў заключацца ў тым, каб разгарнуць усе магчымасьці руху, максымальна яго ўмасавіць, выходзячы з рэвалюцыйных пэрспэктыў далейшага яго разьвіцьця. Для гэтага неабходна было выходзіць з высоўваемых масай форм барацьбы, зачапіцца за гэтыя формы барацьбы, каб падняць рух на вышэйшы ровень. Крытыка-ж стыхійных, уласьцівых сялянскаму рэвалюцыйнаму руху, форм барацьбы адрывала партыю ад мас, паралізавала актыўнасьць партыі, як у горадзе, так і ў вёсцы, была фактычным адмаўленьнем ад ролі гегемона ў руху, аблягчала ўкраінскаму нацыянал-фашызму ашуканьць масы.

Незразуменьне клясавай сутнасьці і рэвалюцыйнага характару руху знайшло найбольш яскравы выраз у партыі у некаторых станіслаўскіх таварышоў, якія адзначылі рух, як барацьбу двух нацыяналізмаў, якая рэвалюцыйнага лягерю не датычыць.

Падобную пазыцыю мы знаходзім і ў масавым антыфашыстоўскім друку. Газэта „Сельроб" пісала, што падпалы —гэта правакацыя ўкраінскай буржуазыі, на якую рэвалюцыйны лягер ня пойдзе. Крытычныя адносіны да падпалаў прынялі тут характар прамога асуджэньня ўсяго руху, як контр-рэвалюцыйнага, буржуазнага.

У сапраўднасьці контр-рэвалюцыйным быў ня рух народных мас супроць акупацыі, а вярней на контр-рэвалюцыйную была падобна пазыцыя гэтых

таварышоў. Досыць пашыраным у арганізацыі быў погляд, што падпалы і сабатажы былі пачаты Украінскай Ваеннай Арганізацыяй (УВО), але рух перакаціўся праз яе галаву, прыняў характар рэвалюцыйнага. Гэты пункт погляду ставіць на галаву ўсё разгортваньне падзеяў, прыпісвае УВО аб'ектыўна рэвалюцыйную ролю на першым этапе барацьбы („абасечнасьць“ УВО), у той час, як у сапраўднасьці не УВО пачала, а масы, УВО-ж—перадавы антысавецкі атрад украінскага фашызму, пробавала рух перахапіць і пазбавіць яго рэвалюцыйнага кіраўніцтва. Рэвалюцыйны сялянскі рух на Заходняй Украіне ня з неба зваліўся, не па знаку цудоўнай палачкі УВО'ўскіх чарадзеяў шырока разьліўся—ён дасьпеў у гушчы прыгнечаных мас, і невыстарчальнай сувязьзю партыі з масамі, асабліва ў вёсцы, тлумачыцца тое, што ён быў для партыі неспадзяванкаю, што нашыя арганізацыі не ўлавілі працэсаў, якія адбываліся ў масах.

Сацыял-дэмакратычныя перажыткі ў нацыянальным і сялянскім пытаньні, незразуменьне задач партыі ў рэвалюцыйнай сытуацыі, недаацэнка карных экспэдыцый як рэпэтыцыі вайны, як забесьпячэньне тылу для вайны супроць СССР, няздольнасьць арганізаваць барацьбу мас і адпаведна перабудаваць шэрагі партыі, — вось што вызначала пасыўнасьць КПЗУ як у першы пэрыяд падпалаў, так і ў часе карных экспэдыцыяў. На практыку партыі наклаў свой адбітак нацыянальны нігілізм, які адбівае нацiск вялікадзяржаўнага нацыяналізму. Побач з гэтым выявіўся і націск украінскага нацыяналізму ў форме цьверджаньняў, што тэрар польскага фашызму накіраваны супроць усяго ўкраінскага, што гэтым самым сарваны саюз польскай і ўкраінскай буржуазіі. Гэтыя погляды вялі да прызнаньня рэвалюцыйнай ролі ўкраінскай буржуазіі, былі тыповай правай, кастшэваўскай недаацэнкай ролі цярцёў у лягеры буржуазіі.

Нарэшце, падзеі на Заходняй Украіне выявілі цэлы шэраг сур'ёзьнейшых недахопаў у галіне арганізацыйнай, як у нізавых арганізацыях, так і ў партыйным апараце—слабую сувязь з масамі, слабую сувязь кіраўніцтва з арганізацыямі, малую спрытнасьць і ініцыятыву партыйных арганізацый, слабасьць праслойкі актыву.

Перад КПЗУ стаіць цяпер задача разгарнуць шырокую самакрытыку ўсіх памылак і недахопаў, якія выявіліся ў апошніх падзеях, разгарнуць яе ў працэсе далейшай барацьбы, выпраўляючы памылкі ў працэсе самой працы партыі, мабілізацыі мас у барацьбе з фашысцкай дыктатурай. Перавыхоўваньне і вырошчваньне кадраў павінна адбывацца ў абставінах шырокай унутрыпартыйнай самакрытыкі і жалезнай бальшавіцкай згуртаванасьці і дысцыпліны, пры максымальнай актыўнасьці партыйных арганізацый і кожнага сябра партыі, у няпрымірымай барацьбе на два фронты з апартунізмам, асабліва правым, з нядбальствам, з адсутнасьцю выразнасьці ў працы.

Тое, што Заходняя Украіна зьяўляецца непасрэдным тэатрам будучай вайны, ускладае на КПЗУ асаблівую адказнасьць, патрабуе ў варунках зьверскага тэрару максымальнай актыўнасьці партыі. На чале задач партыі высоўваецца арганізацыя атрадаў масавай самаабароны, падрыхтоўка партыі і мас да партызанскай барацьбы.

Нячуваныя зьверствы карных экспэдыцый не зламілі рэвалюцыйнага руху на Заходняй Украіне, прыдушаны былі на час яго вонкавыя праявы. 1-га лістападу — пасьля „пацыфікацыі“ — мы мелі масавыя сялянскія дэманстрацыі (Добесловіцы на Каломыйшчыне), шматлікія масоўкі рабочых (600 чыгуначнікаў у Львове), школьныя стачкі і т. п. Працэс радыкалізацыі мас выражаецца ў адыходах цэлых груп ад нацыяналістычнага ўкраінскага блёку. Аб'ектыўная ўстаноўка, паглыбленьне палітычнага крызысу ва ўсёй Польшчы, а асабліва на Заходняй Украіне, стварае ўсе прадпасылкі дзеля далейшага разьвіцьця руху. Масы нанова накапляюць сілы і ад актыўнасьці КПЗУ, ад уменьня яе зачапіцца за пякучыя патрэбы мас будзе залежыць разгортваньне руху на новым этапе, на вышэйшым зроўні.

Польскі фашызм здэмаскаваў сябе перад украінскімі працоўнымі масамі,

паказаў з усёй вастратой свой твар гвалтаўніка - акупанта. Карныя экспэдыцыі—гэта факт, якога працоўныя масы ЗУ не забудуць. У апошніх падзеях яны на сваім уласным досьледзе пераканаліся, што адзіны выхад з становішча—гэта зваленьне фашысцкай дыктатуры.

У барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху, дзеля забесьпячэньня тылу для антысавецкай вайны польскі фашызм усё больш завастрае акупанцкі тэрарыстычны рэжым, праводзіць узмоцненую палёнізацыю, прабуе ўзмоцніць усімі магчымымі сродкамі свае пазыцыі на Заходняй Украіне. Перад абліччам нарастаючай рэвалюцыйнай небясьпекі і для больш пасьпяховай падрыхтоўкі вайны, адбываецца у шпаркім тэмпе канцэнтрацыя контр-рэвалюцыйных сіл на Заходняй Украіне, адбываецца ўзмацненьне ваеннага контр-рэвалюцыйнага саюзу польскай і ўкраінскай буржуазіі. Заходня - украінская буржуазія, яе нацыянал-фашыцкія партыі цалкам перайшлі на пятлюраўскія пазыцыі—пазыцыі адкрытага саюзу з Польшчай дзеля зьвяржэньня савецкай улады ва ЎССР. Яны асудзілі адкрыта ў сваёй дэклярацыі рэвалюцыйную барацьбу сялянскіх мас, яны адкрыта вуснамі органу УНДО і „Дила“ заявілі, што цяпер ня час зачапляць пытаньні аб заходня-украінскіх землях—гэта зробіць урад у Кіеве пасьля зьвяржэньня бальшавікоў. Яны выказаліся за падтрыманьне акупацыі, высоўваючы палажэньне, што Заходняя Украіна цяпер мае ўсе магчымасьці стаць плянцдармам дзеля „вызваленчай барацьбы супроць бальшавікоў“ у саюзе з Польшчай.

Гэтая пазыцыя дыктуецца ўкраінскай буржуазіі яе клясавымі інтарэсамі, якія патрабуюць супольнага фронту з акупацыяй, ня гледзячы на тое, што польскі фашызм цяпер узмацоўвае непасрэдна свае пазыцыі на Заходняй Украіне часам і за кошт украінскай буржуазіі, ня гледзячы на тое, што ён стаў больш вымагальным у адносінах да свайго саюзьніку.

Але было-б памылковым лічыць, што ўзмацненьне саюзу польскай і ўкраінскай буржуазіі, паскарэньне працэсу зрошчываньня польскага і ўкраінскага фашызму, зрошчываньне польскага і ўкраінскага фашызму азначае ліквідацыю цярцёў паміж імі. Цярці гэтыя параджаюцца ўсімі абставінамі эканамічнага і палітычнага крызысу фашысцкай дыктатуры, спэцыфічнымі ўмовамі саюзу буржуазіі пануючай з буржуазіяй прыгнечанага народу, і, урэшце, цярцямі ўнутры самой украінскай буржуазіі. Апазыцыйная фраза ўкраінскай буржуазіі можа і абвастрацца, бо гэтага вымагае барацьба за ўтрыманьне ўплыву ў масах. Аднак, самае асноўнае ў даннай сытуацыі, што вызначае расстаноўку клясавых сіл на Заходняй Украіне—гэта шпаркі працэс зрошчываньня ўкраінскага і польскага фашызму.

Перад КПЗУ вастрэй чым калі-кольвек стаіць задача дэмаскаваньня ўкраінскага нацыянал-фашызму ва ўсіх яго формах і праявах, адрыву ад яго ідучых яшчэ за ім значных мас.

Перад КПЗБ і перад усей КПП стаіць задача улічыць і тэарэтычна (у галіне сялянскага і нацыянальнага пытаньняў) і практычна досьледы рэвалюцыйнага выступленьня сялянства ЗУ. Трэба дабіцца ад усёй партыі ў цэлым, ад гары данізу, непараўнальна большай чуйнасьці ў адносінах да таго, што адбываецца ў сялянскай масе, уменьня стаць на чале руху мас ва ўсіх рознастайных яго формах, уменьня накіраваць гэты рух у агульнае рэчышча рэвалюцыйнай барацьбы працоўных мас усей Польшчы пад кіраўніцтвам КПП, супроць фашыстоўскай дыктатуры.

Цяпер, больш чым калі, КПЗУ і КПЗБ павінна паказаць масам на кожным вучастку барацьбы, што толькі камуністы зьяўляюцца адзіным кіраўніком і арганізатарам нацыянальна-вызваленчай барацьбы шырокіх народных мас супроць акупацыі, супроць фашысцкай дыктатуры, за рэвалюцыю ў Польшчы, за права самавызначэньня і аб'яднаньня з УССР і БССР.

Г. Рваль.

# Пытаньні нашай тактыкі ў антыпадатковай барацьбе.

Справа антыпадатковай барацьбы становіцца ўсё больш у асяродку ўвагі нашай партыі. Рашэньні V Зьезду аб нашай тактыцы і па аграрнаму пытаньню даюць падставовыя ўказаньні ў гэтай галіне. У гэтым артыкуле мы імкнемся даць асьвятленьне асаблівага значэньня антыпадатковай барацьбы ў варунках сучаснага крызысу, рассеяць сумненьні, якія затаіліся там-сям і якія вырасталі пераважна з неразуменьня характару перажываемага пэрыяду і кіруючай ролі нашай партыі ў рэвалюцыйнай барацьбе ўсіх эксплёатаваных і прыгнечаных мас.

Рабочы плаціць падатак у істоце на тое, каб капіталісты мог яго спакойна і напэўна эксплёатаваць. Галоўную масу падатковых плацельнікаў, бо гэта ёсьць найбольшая група, складаюць сяляне; па іх таксама асабліва востра і беспасрэдна ўдарае падатковы ўціск.

Эксплёатацыя мас вымагае вялікага, спраўна функцыянуючага дзяржаўнага апарату. Спраўнасьць-жа яго залежыць у значнай ступені ад сталасьці і пераемнасьці функцыянаваньня падатковай помпы. Дзеля таго падатковая праблема зьяўляецца асабліва чулым мейсцам, „ахілесавай пятой“ усёй сыстэмы капіталістычных урадаў.

У часе крызысу, калі прыток пасрэдніх падаткаў, гэтай тыповай формы падатковага вызыску, аўтаматычна скарачаецца, тым больш націск падае на падаткі беспасрэдныя. У пэрыядзе пасьляваеннага крызысу, калі ў выніку нячуванага з'убожаньня мас падатковая помпа пачынала хапаць паветра, зьявілася інфляцыя, гэтая скрытая падатковая форма, якая абдзірае ўкосна масы ў выніку гвалтоўнага росту дарагоўлі, а разам экспрапрыіруе і руйнуе дробную буржуазію шляхам абясцаненьня яе ашчад. Але інфляцыя, ня гледзячы на часовыя карысьці, якія яна прыносіць захопленай крызысам капіталістычнай дзяржаве, паскарае расстройства капіталістычных адносін вытворства, затапляе ў хаос фінансавую сыстэму і ставіць дзяржаву ў становішча банкрота. Таму буржуазія, навучаная вопытам мінулых крызысаў, як вока ў галаве, сьцеражэ стабілізацыю валюты і ня так лёкка пойдзе на здабываньне новых падатковых сродкаў шляхам інфляцыі. Тым часам з дня на дзень растуць выдаткі на падрыхтоўку вайны супроць СССР і на трыманьне ў цiскох шпарка рэвалюцыянізуючыхся рабочых і сялянскіх мас. Але адначасова, ў выніку беспрацоўя і аграрнага крызысу, страшэнна зьніжаецца плацежная здольнасьць гэтых мас. Адсюль — невядомы дагэтуль ў Польшчы націск падатковага шрубу.

Калі ў 1926-27 г. насельніцтва плаціла падаткаў у дзяржаўную касу 2.133 мільёны злотых, у самаўрадавыя касы—485 мільёнаў, разам каля 2.600 мільёнаў злотых, дык у 1929-30 г. (год крызысу) яно павінна была ўнесьці ў дзяржаўную касу звыш 3 мільярдаў, у самаўрадавую касу—1.300 мільёнаў, альбо на 1.700 мільёнаў злотых больш (ня лічучы страхавых аплат і г. д.). Яшчэ больш яскравай ілюстрацыяй таго, як працуе падатковы шруб, зьяўляецца наступнае параўнаньне меркаваўшыхся і сапраўдных прытокаў па тытулу кар за пратэрміноўку і працэнтаў экзэкуцыйных коштаў.

| | Вызначана ў мільёнах | Паступіла ў мільёнах |
|---|---|---|
| 1927-28 . . . . | 18 | 37,2 |
| 1928-29 . . . . | 20 | 44,9 |
| 1929-30 . . . . | 20 | 45,8 |

Ня гледзячы на такі ўзмоцнены націск падатковага шрубу, а вярней, дзякуючы яму, пры паглыбляючымся гас-

падарчым крызысе ўсё больш расьце сума падатковай запазычанасьці.

| | Сума запазычанасьці ў беспасрэдніх падатках ў мільёнах. (Лічбы акругленыя). |
|---|---|
| 1/IV—1927 г. . . | 240 |
| 1/IV—1928 г. . . | 309 |
| 1/IV—1929 г. . . | 415 |

Узрастаючы падаткавы ўціск б'е балюча па шырокіх пластох бяднеючай гарадзкой дробнай буржуазіі, паскараючы іх руіну на грунце далейшай канцэнтрацыі капіталаў у прамысловасьці і гандлю і працягваючагася крызысу. Наступае банкруцтва і частковая ліквідацыя вялікай колькасьці дробных рамесьніцкіх майстэрняў, хутка ўзрастае нэндза шырокіх мас дробна-мястэчковай беднаты. Шматлікія дэманстрацыі ў зіму бягучага году рамесьніцкіх і дробна-гандлёвых пластоў дробнай буржуазіі былі выразам пратэсту супроць надмернага падатковага цяжару. Далёка больш востра і ў дадатку больш грозна для ўраду стаіць падатковая справа на вёсцы. Аграрная палітыка фашызму распаліла дашчэнту клясавыя супярэчнасьці на вёсцы і павялічыла зямельны голад; захаваўшы і нават завастрыўшы некаторыя формы паншчыннай эксплёатацыі, яна павялічыла капіталістычную эксплёатацыю, завастрыла сучасны найцяжэйшы аграрны крызыс, які дагэтуль ведала вёска. Бядняк і серадняк прымушаны плаціць значна большыя падаткі ў той самы час, калі ён за збожжа дастае ў два разы менш чым у мінулым годзе і пакупае яго перад новым ураджаем па значна даражэйшай цане, чым прадаў. Апроч таго селянін прымушаны выконваць шмат якія павіннасьці, з якіх адна толькі шарваркавая паншчына дае фашыстоўскай дзяржаве значныя датковыя сумы. У той час, калі абшарнікам урад зьніжае падаткі, касуе запазычанасьці, дае крэдыты, экспартныя прэміі, селяніна ён прымушае прадаваць за бясцэнак астатнюю карову, альбо збожжа на корані з мэтай выкананьня падаткаў і нязьлічаных кар за пратэрміноўку.

У гэтых варунках з дня на дзень расьце сялянскае бурленьне, прыводзячы ў паасобных выпадках да адкрытых выбухаў. Прасныш, Алекшыцы, Заходняя Украіна — гэта паасобныя зьвеньні ў ланцугу масавых баёў рэвалюцыйнага сялянства, гэта ўсё больш яскравыя праявы нарастаючай рэвалюцыі на вёсцы. Вялізарная роля сялянства ў падатковай барацьбе вынікае як з таго факту, што яно зьяўляецца найбольшай масай падатковых плацельшчыкаў, так і з таго, што сяляне ўносяць самі падаткі у скарбовыя ўстановы, у адмену ад рабочых, у каторых падаткі адрываюцца ад заробкаў. Адсюль featureнастайныя формы падатковых баёў рабочых і сялян. Адсюль беспасрэднасьць сялянскай формы падатковых баёў Але воля паасобнага селяніна альбо сялян цэлай вёскі, хоцьбы сабе найбольш упартых, з прычыны сацыяльнага характару сялянства праяўляецца не арганізаваным способам, а пераважна стыхійным способам. Сяляне таксама ня могуць праводзіць самастойна сваёй барацьбы і пойдуць хутка ў рассыпку, калі ня знойдуць цьвёрдага і пэўнага кіраўніцтва з боку рэвалюцыйнага пралетарыяту.

Антыпадатковая барацьба сялян зьяўляецца магутным фактарам мабілізацыі мас, ставіць шырокія сялянскія масы тварам у твар з апаратам фашыстоўскай дыктатуры і паскарае немінуча ўзбройныя баі на вёсцы, беспасрэдныя баі за зямлю. Стаць на чале гэтых баёў, даць ім пралетарскае кіраўніцтва і арганізацыю, уліць у рэчышча пралетарскай рэвалюцыі—вось галоўныя задачы партыі на вёсцы.

## II.

Даўней у эпоху фэадалізму, калі буржуазія ня была яшчэ пануючай клясаю, падаткі былі для яе свайго роду выкупам, які даваў ёй большыя вольнасьці. Дзеля забесьпячэньня сабе гэтых вольнасьцяў, буржуазія, абапіраючыся на сваё растучае багацьцё, здабыла сабе яшчэ ў рамках фэадальнага ладу права аднаўляць грашовыя павіннасьці ў пэўных тэрмінах, права згоды на падаткі і адмовы ад іх. „У сярэднявечным грамадзтве падаткі былі адзінай сувязьзю паміж паўстаючым буржуазным грамадзтвам і пануючай

фэадальнай дзяржаваю, — сувязьзю, якая прымушала дзяржаву рабіць уступкі буржуазнаму грамадзтву, лічыцца з яго разьвіцьцём, прыстасоўвацца да яго патрэб. У сучасных дзяржавах гэтае права згаджаньня на падаткі і адмовы ад іх ператварылася ў спосаб кантролю буржуазнага грамадзтва над тым камітэтам, які кіруе яго агульнымі інтарэсамі — над урадам". (К. Маркс, збор твораў, том III, стар. 369, рас. выдав. 1921 г.).

У парлямэнтарную эпоху буржуазных рэспублік і манархій бюджэтная дыскусія не выпадкова зьяўлялася заўсёды восьсю ўсякіх парлямэнтарных дыскусій. У ёй знаходзілі выраз спрэчкі і таргі ўсіх буржуазных груп за максымальнае забесьпячэньне інтарэсаў кожнай упаасобку і ўсіх разам за кошт асноўнай масы падаткікаў. Права кантролю над бюджэтам была роўназначна праву адносна роўнамернага ўдзелу ў зьдзіраньні скуры з працоўных мас. Як толькі той ці іншы ўрад пераставаў адпавядаць інтарэсам групы альбо груп, якія прадстаўлялі большасьць, парлямэнт адмаўляў яму бюджэт, што было роўназначна з частковаю адмоваю падатку. Адкіленьне бюджэту парлямэнтам зьяўляецца, як выразіўся Маркс „інтэгральнаю часткаю канстытуцыйнага мэханізму", „парлямэнтарнай формай адмовы падаткаў".

Пралетарыят, аднак, балюча адчувае, калі буржуазія яго абдзірае ў імя парлямэнтарнай дэмакратыі і фашыстоўскай дыктатуры. Пралетарыят ня можа ні адкупіцца, ні праводзіць кантроль над зьдзіраньнем сваёй уласнай скуры. Ён адмаўляе грошы кожнаму ўраду буржуазіі: парлямэнтарнаму ці фашыстоўскаму. Справаю рэвалюцыйнага пралетарыяту зьяўляецца пры гэтым высьвятліць працоўным масам, асабліва сялянскім, што кожны бюджэт буржуазнай дзяржавы, гэта нішто іншае, як падсумаваньне нарабаваных у працоўных грошаў з мэтай далейшай грабежы працоўных.

Горды лёзунг даўнейшай нямецкай сацыял-дэмакратыі, кінуты старым Лібкнэхтам у часе яе рэвалюцыйнага росквіту: „гэтай сыстэме—ані граша!"— абмяжаваўся ў той час парлямэнтарнай формаю адмовы падаткаў. У варунках адносна мірнага разьвіцьця пралетарыят ня мог перайсьці да арганізацыі адмовы плацяжу і адпору супроць падатковых экзэкуцый, якія вынікаюць з факту неплацяжу.

Сёньня, калі даўно ўжо разьедзеная апартунізмам і здрадаю, сфашызаваная сацыял-дэмакратыя сама дае капіталістычнай дзяржаве дзесяткі тысяч паліцыянтаў, экзэкутараў і фальдфэбэляў для душэньня рэвалюцыйнага руху мас, наша братэрская Камуністычная партыя Нямеччыны зусім правільна ўздымае гэты стары баявы лёзунг, ужо як лёзунг практычны і праводзіць яго ў жыцьцё. КП Нямеччыны не абмяжоўваецца галасаваньнем супроць бюджэту ў парлямэнце, ў гмінах, а арганізуе адмовы па крайняй меры найбольш цяжкіх, найбольш зьненавіджаных датковых падаткаў, якія вынікаюць з рэалізацыі пляну Юнга. Калі актуальнай і правільнай зьяўляецца падатковая тактыка нямецкіх камуністаў (а такой мы яе лічым і горача падтрымліваем), дык ня менш, калі ня больш актуальнай зьяўляецца яна ў нас ў Польшчы.

Мы ўжо вышэй у агульнай частцы абгаварылі падложжа і вастрыню падатковай барацьбы. Не падлягае сумненьню, што гэтая барацьба будзе пашырацца і паглыбляцца па меры далейшага завастрэньня агульнага крызысу, па меры далейшага гарачковага падрыхтоўваньня вайны. Узьняты намі лёзунг „ані граша ўраду беспрацоўя, голаду і вайны", не зьяўляецца яшчэ на данным этапе лёзунгам усеагульнага байкоту падаткаў, бо мы ня маем яшчэ перад сабою ўсіх цалкам фактараў, што акрэсьляюць рэвалюцыйную сытуацыю. Але пры дапамозе гэтага лёзунгу мы ўжо сёньня набліжаем масы да беспасрэднай адмовы падаткаў у спрыяючы момант. Пры няроўнамернасьці, з якой рэвалюцыйны рух мас разьвіваецца, і рознароднасьці яго форм—лёзунг „ані граша" зьяўляецца ўжо практычным лёзунгам там, дзе масавая барацьба сялян праяўляецца асабліва бурліва і востра, перадусім на Заходняй Украіне і некаторых галадуючых абшарах Зах. Беларусі. Падат-

ковы ўціск фашыстоўскага ўраду нідзе яшчэ не агаляецца такім цынічным і нахабным спосабам, як менавіта там. У акупаваных краёх падатковы грабеж зьяўляецца сталай кантрыбуцыяй, якая спаганяецца з працоўных на ўтрыманьне акупацыі. Зусім натуральна, што значнае завастрэньне нацыянальна-вызваленчай барацьбы ня можа ня прывесьці да адмовы падаткаў польскім акупацыйным наймітам.

Бясспрэчна нялёгка ўжываць антыпадатковую тактыку. Трудна правесьці вострую мяжу ў вузкім каляндарным значэньні паміж прапагандыстычна-агітацыйным ужываньнем лёзунгу „ані граша“ і арганізацыяй беспасрэднай адмовы плацяжу падаткаў. Гэтая труднасьць вынікае з усёй супольнасьці аб'ектыўных варункаў, у якіх нарастае рэвалюцыйная сытуацыя, у якіх рэвалюцыйны рух мас разьвіваецца, перадусім з няроўнамернасьці ступені гэтага разьвіцьця. Тут ніякія бедаваньні не дапамогуць. Трэба ўмець арыентоўвацца ў момант ў кожнай новай сытуацыі, у кожнай новай зьмене сіл і адпаведна зьмяняць і завастраць сродкі барацьбы. Вялікай памылкай украінскіх таварышоў нядаўна было як-раз тое, што яны не адразу выклікалі сялян да адмовы плацяжу падаткаў і кантрыбуцый на абшарах, ахопленых карнымі экспэдыцыямі, ня гледзячы на выключна спрыяючыя варункі для арганізацыі там масавага байкоту загадам уладаў, варункі, выкліканыя шпаркім ростам нацыянальна-вызваленчай барацьбы і крывавымі зьбіеньнямі фашыстоўскіх ваенных экспэдыцый. Украінскі прыклад больш чым які-колькі іншы ў апошнія часы паказаў, як партыя павінна хутка, ня раз нават у часе саміх баёў, зьмяняць сваю баявую зброю, і як лёзунгі, каторыя яшчэ ўчора не маглі і не павінны былі мець іншага значэньня, чым агульна-агітацыйнае, назаўтра набіраюць новага практычнага зьместу, робяцца адозваю да беспасрэднага чыну. Не падлягае сумненьню, што ў крыніцах памылак украінскіх таварышоў крылася недаацэнка кіруючай ролі камуністычнай партыі ў рэвалюцыйнай барацьбе сялянства, пагардлівыя адносіны да стыхійных форм сялянскай барацьбы пры адначасовым незразуменьні патрэбы ўнясеняня з боку арганізаванага пралетарыяту максымум сьвядомасьці і арганізаванасьці ў гэтыя формы.

Досьлед апошніх баёў на Зах. Украіне яшчэ раз пацьвердзіў усю актуальнасьць і тактычную правільнасьць лёзунгу „ані граша“, але адначасова паказаў, наколькі вялікай яшчэ зьяўляецца дыспрапорцыя паміж правільнай лініяй партыі і практыкай нашых партыйных арганізацый.

III.

Лёзунг „ні граша“, высунуты ў пачатку гэтага году нашым Цэнтральным Камітэтам і пацьверджаны V Зьездам, не адразу знайшоў зразуменьне ў некаторых зьвеньнях партыі. З аднаго боку, паасобныя вясковыя арганізацыі, асабліва на Зах. Беларусі, прынялі гэты лёзунг мэханічна, як заклік да байкоту падаткаў усюды, незалежна ад ступені разьвіцьця агульнага крызысу і напружанасьці сялянскай барацьбы ў даннай вёсцы ці павеце; з другога боку, гэты лёзунг сустрэўся з адпорам, што вынікае з неразуменьня патрэбы завастрэньня барацьбы сялянскіх мас, узьняцьця яе на вышэйшы ровень.

Адмова плацяжу падаткаў належыць да арсэналу масавай барацьбы ў кожную рэвалюцыйную эпоху. Варта прывесьці па гэтым пытаньні словы Маркса, сказаныя ў 1848 г. „З моманту, калі само прускае нацыянальнае аб'яднаньне зацьвердзіла адмову падаткаў, неабходна супроцьстаўляцца падатковым экзэкуцыям шляхам усякага роду адпораў“. Абвінавачаны у бунце за выданьне гэтай адозвы, Маркс стаў перад судом прысяжных у Кельне ў 1849 годзе. З яго судовай прамовы мы знаходзім наступныя цытаты: „Ангельская рэвалюцыя, якая прывяла Караля I на эшафот, пачалася адмоваю падаткаў. Паўночна-Амэрыканская рэвалюцыя, закончыўшаяся агалашэньнем незалежнасьці Паўночнай Амэрыкі перад Англіяй, пачалася адмоваю падаткаў. І ў Прусіі адмова падаткаў можа аказацца зьвястуном больш буйных рэчаў“. Пасьля характарыстыкі трусьлівай палітыкі пасуючага перад контррэвалю-

цыяй Нацыянальнага Аб'яднаньня, якое сударажна трымалася праўных падстаў і толькі дзеля гэтага агаласіла пасыўнае супраціўленьне, Маркс сказаў далей: „Перад нацыянальным аб'яднаньнем сталі два шляхі. Адзін—рэвалюцыйны. Аб'яднаньне ня стала на гэты шлях, паны не пажадалі рызыкаваць сваёй галавой. Альбо таксама—шлях адмовы падаткаў, прычым яны затрымаліся на пасыўным адпоры. Аб'яднаньне пайшло па гэтым шляху, але народ пры правядзеньні адмовы падаткаў павінен быў стаць на шлях рэвалюцыйны". „У нашай адозве мы пайшлі далей, чым Нацыянальнае Аб'яднаньне. У гэтым было нашае права і наш абавязак".

Абвінавачаны разам з Марксам, Кароль Шаппэр, казаў: „Адмова падаткаў — гэта ultima ratio populorum супроць ultima ratio regum. *) Калі дзяржаўная ўлада ня хоча прызнаць волі большасьці, супроцьстаўляе гэтай волі гарматы і штыхі, дык гэтая большасьць па-просту замыкае кішэню". ...І далей: „...Мы прызналі слушным ужываць адпор ва ўсякай постаці" (Маркс і Энгельс, збор твораў, том III, стар. 371/2, выд. Рас. 1921 г.).

Ня гледзячы на вялікую розьніцу эпох, ня гледзячы на розьніцу падстановых задач, якія стаялі перад пралетарыятам у той час, у эпоху буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, і зараз, у рэвалюцыі сацыялістычнай—досьлед мінуўшых рэвалюцый пакінуў нам шэраг беспасрэдных тактычных паказаньняў, якія ня згубілі актуальнасьці, калі толькі яны падпаракаваны галоўнай і беспасрэднай задачы сацыялістычнай рэвалюцыі: здабыцьцю дыктатуры пралетарыяту. Кідаючы лёзунг: „ані граша фашыстоўскаму ўраду", трэба адрозьніваць рэвалюцыйную форму адмовы плацяжу падаткаў, што вядзе перадусім шырокія сялянскія масы да больш вострых сродкаў барацьбы з уладаю,—ад машэніцкіх лёзунгаў пасыўнага адпору, якія звычайна высоўваюць угадовыя і контррэвалюцыйныя дробнабуржуазныя партыі толькі дзеля таго, каб саштурхнуць масы са шляху барацьбы ў той час, калі аб'ектыўнае разьвіцьцё гэтых баёў прывяло ўжо да адкрытага і вострага канфлікту з урадам.

Падрыхтоўка і арганізацыя намі рэвалюцыйнай адмовы падаткаў ня толькі палягчае нам набліжэньне мас да беспасрэдных баёў з урадам, але і адначасова пашырае магчымасьці дэмаскаваньня дэмагогіі і рэвалюцыйнай фразэалёгіі ўгадоўцаў, ізаляваньне іх ад мас, зьніштажэньне іх контр-рэвалюцыйнага ўплыву.

У духу Маркса і Энгельса дзейнічалі расейскія бальшавікі, зацьвярджаючы у 1905 г. на сваім III Зьезьдзе, згодна праекту рэвалюцыі Леніна: „З мэтаю дэзарганізацыі самаўладзтва і падтрыманьня рэвалюцыйнага націску на яго, заклікаць сялянства і вясковы пралетарыят да ўсякіх мажлівых дэманстрацый, да калектыўнай адмовы аплат і падаткаў"... Не забываючы на ні хвіліну аб неабходнасьці выдзяленьня інтарэсаў і паасобнай і самастойнай арганізацыі сельска-гаспадарчых рабочых, бальшавікі аднначасова падтрымлівалі сялян у іх барацьбе з абшарнікамі і царызмам да канца, не абмяжоўваючы размаху сялянскага руху.

У 1905 г. у царскай Расеі на парадку дню стала буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, але бальшавікі заўсёды падкрэсьлівалі самастойныя мэты і задачы пралетарыяту.

У Польшчы ў сучасным пэрыядзе на парадку дню стаіць сацыялістычная рэвалюцыя, але мы, камуністы Польшчы, мусім заўсёды памятаць аб адносна шырокім аб'ёму рэвалюцыйна-дэмакратычных задач, якія пралетарская рэвалюцыя павінна ў нас зьдзейсьніць на сваім пераможным шляху. Антыпадатковая барацьба сялян, увязваючыся проста з барацьбой за зямлю, уваходзіць наогул у рамкі гэтых задач, і ўсякае занядбаньне з нашага боку арганізацыі і кіраўніцтва гэтай барацьбой было-б роўназначна з недаацэнкаю своеасаблівага характару сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы і ролі пралетарыяту, як гегемона ў вызваленчым руху сялянства і прыгнечаных народаў.

---

*) Апошні рашучы аргумэнт народу супроць апошняга рашучага аргумэнту дзяржавы.

Пытаньне арганізацыі шырокіх антыпадатковых баёў наша партыя ставіць ня ўпершыню. Ужо III Зьезд КПП накрэсьліў у агульнай форме тую самую тактыку, якую мы стасуем цяпер. Трэба памятаць, што III Зьезд прыняў пры гэтым пад увагу досьлед паўстаньня Курпьёў на грунце антыпадатковай барацьбы, а таксама партызанскую барацьбу і супроцьпадатковую барацьбу на Зах. Беларусі і на Валыні. „Засьцерагаючы перад занадта пасьпешным узбройным выбухам, партыя аднак ня толькі не ўнікае выкліканьня масавых выступленьняў на беларускай і ўкраінскай вёсцы, але і энэргічна стварае ініцыятыву і праводзіць гэтыя выступленьні, як сродак паглыбленьня палітычнай сьвядомасьці ў масах, ахопу партызанскага руху ў арганізацыйныя формы і увязкі яго з штодзённай барацьбой мас,—падрыхтоўкі саміх мас да беспасрэднай узброенай барацьбы.

Падатковая кампанія можа, у сувязі з варункамі, якія выказала практыка, набраць шэраг рознастойных форм, як: сходы і гмінныя рэзалюцыі, адпор падатковым уладам, хаваньне сялянскай маёмасьці з мэтаю ўхіленьня ад рэквізыцыі, арганізацыя байкоту продажы сялянскай маёмасьці на рынках, збройная абарона перад карнымі экспэдыцыямі і г. д. (Рэзалюцыя III Зьезду КПП, стар. 90, выд. Рас., падкрэсьленьні мае—Г. Р.). Такой бальшавіцкаю моваю гаварыў наш III Зьезд, які распачаў ліквідацыю старой апартуністычнай верхавіны. Мы варочаемся да гэтай мовы на V Зьезьдзе, які гэтую ліквідацыю закончыў.

Як відаць з вышэйпаказанага, III Зьезд падкрэсьліваў рознастайнасьць форм падатковай барацьбы, ня выключаючы перарастаньня ў формы збройнай барацьбы, хоць слушна засьцерагаў перад пасьпешнымі недазрэлымі збройнымі выбухамі. Усё, што сказаў III Зьезд аб супроцьпадатковай барацьбе, зьяўляецца асабліва актуальным цяпер. У той час, ня гледзячы на выключную вастрыню форм барацьбы мас на Зах. Беларусі, рух ва ўсім краі ішоў наогул па лініі спадаючай. Сёньня, хоць няроўнамерна, гэты рух ідзе стала і ўсё шпарчэй ўгару. Тое, што было ў той час правільна для Зах. Беларусі, зьяўляецца цяпер правільным для ўсяго краю, ня выключаючы магчымасьці паасобных збройных сутычак паміж сялянамі, абараняючымі свой дабытак перад экзэкуцыяй і сэквэстратарамі, і паліцыяй. Ня можна гуляць з паўстаньнем, штучна выклікаць заўчасныя непадрыхтаваныя ўзбройныя выступленьні, але ня можна ў варунках нарастаючай рэвалюцыйнай сытуацыі ня лічыцца з магчымасьцю шэрагу паасобных узброеных сутычак, на паасобных адрэзках барацьбы і пакідаць у такіх выпадках масы самім сабе.

Гэтыя сутычкі зьяўляюцца ўступам да баёў рэвалюцыі.

---

**„БАРАЦЬБА СУПРОЦЬ ПАДАТКОВАГА ЯРМА Ў СУЧАСНЫ МОМАНТ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА АСНОЎНЫМ ЗЬВЯНОМ, ДЛЯ ТАГО КАБ ПАДНЯЦЬ БАРАЦЬБУ МАС НА ВЫШЭЙШУЮ СТУПЕНЬ, ПАДВЕСЬЦІ ГЭТЫЯ МАСЫ ЎШЧЫЛЬНУЮ ДА БАРАЦЬБЫ ЗА ЗЯМЛЮ БЯЗ ВЫКУПУ, УВЕСЬЦІ ГЭТУЮ БАРАЦЬБУ Ў РЭЧЫШЧА БАРАЦЬБЫ ПРАЛЕТАРЫЯТУ ЗА ЎЛАДУ“.**

(З пастаноў IV пленума ЦК КПЗБ).

В. Г—ў.

# Вывучаць тактыку барыкадных баёў.

25 год таму назад пралетарыят Масквы паўстаў з аружжам у руках на барацьбу супроць зьненавіджанага ярма царызму, супроць ярма фэадалізму. Рабочыя Масквы, якіх не падтрымала сваечасова сялянства, якім на другі-ж дзень здрадзіла буржуазія і яе партыі, тармазілі меншавікі, ня маючы добрай ваеннай падрыхтоўкі,— пасьля некалькіх дзён барацьбы павінны былі пакінуць аружжа і адыйсьці ад барацьбы на барыкадах да барацьбы на фабрыцы, заводзе, капальні. Маскоўскае сьнежанскае паўстаньне было добрай навукай рабочым у барацьбе 1917 году. Яно паказала, што без выстарчальнай ваеннай вучобы, без дастатковага раскладаньня арміі, расхістаньня яе, бяз супольнай барацьбы рабочых і сялянскіх мас перамагчы ворага нельга. Сьнежанскае паўстаньне ў Маскве ўнесла вялікія зьмены ў тактыцы вулічнай барацьбы, г. зн. паказала, што барыкадная барацьба ня вынішчылася, але патрабуе ўнутраных зьмен. Калі ў XIX стагодзьдзі барыкада была галоўным аб'ектам абароны і барацьбы, дык цяпер яе роля вельмі зьмянілася. У сучасны момант, калі маленькія, вузкія, крывыя вуліцы пачынаюць зьнікаць, а на іх месца будуюцца вуліцы вялікія, шырокія, простыя, дык пры сучаснай тэхніцы нічога для артылерыі ня значыць разьбіць барыкаду. Таму барыкада цяпер зьяўляецца толькі маскіроўкай, перашкодай, тормазам да перасоўваньня сіл праціўніка. Калі парыскія рабочыя ў 1871 г., выкідваючы на вуліцу сталы, крэслы, ложкі, біліся на такіх барыкадах, дык цяпер барацьба будзе адбывацца не на барыкадзе, а каля барыкады, за барыкаду. Сама будова барыкады і матар'ял для будовы барыкады цяпер зусім іншы.

Цяперашняя барыкада будзе будавацца з тэлефоных і тэлеграфных слупаў, дрыўляных калод, каменьняў з бруку, перакуляных трамвайных вагонаў, аўтабусаў, бочак і мяхоў насыпаных зямлёй, папяровых цюкаў і г. д.

Трэба старацца, каб матар'ялы былі паміж сабою зьвязаны, напрыклад дротам, і клаліся проста на брук. Трэба спачатку сарваць брук, вырыць канаву, а потым ужо класьці барыкаду. Гэтым дасягаецца тое, што праціўнік ня так лёгка можа яе расьцягнуць і раскідаць знарадамі.

Барыкады прыдзецца абараняць ня толькі жывымі сіламі, але і шляхам накідваньня ўсялякіх рэчаў перад барыкадай, напрыклад, калоды, абматаныя калючым дротам, драцяныя загароды, глыбокія канавы, мэта якіх— не дапусьціць танкаў праціўніка за барыкаду, пабудова фугасаў, як гэта рабілі маскоўскія рабочыя на Чырвонай Прэсьне ў Маскве ў 1905 г. Галоўныя сілы павінны быць не на барыкадзе, а ў дамох перад барыкадай, на стрэхах хат, разьмеркаваны так, каб праціўнік, калі захоча атакаваць, альбо наступаючы, мог сустрэнуць крыжавы агонь абароны барыкады. У часе ўзброенага паўстаньня пабудаваньне барыкад павінна быць загадзя абдумана і праводзіцца плянава, а ня так, як гэта рабілі гамбурскія таварышы ў 1923 годзе: з самага пачатку паўстаньня будавалі там, дзе паяўлялася паліцыя. Трэба загадзя выпрацаваць плян і будаваць на ўсіх вуліцах, якія вядуць у раён паўстаўшых. Трэба будаваць так, як гэта рабілі маскоўскія рабочыя, па некалькі барыкад на адной вуліцы, такім чынам, што калі праціўнік забіраў адну, вялася барацьбу на другой; а калі ўжо відаць, што на гэтай ба-

рыкадзе ўстаяць нельга, трэба заразжа адступіць і змагацца каля другой, альбо будаваць другую. Барыкада ні ў якім выпадку не павінна быць пасыўным сродкам барацьбы, яна павінна быць адкрытым сродкам барацьбы.

Абараняючыя барыкаду ніколі не павінны знаходзіцца ўсе разам, бо праціўніку ў такім выпадку шмат лягчэй іх разьбіць. Трэба каб у дамох перад барыкадай было разьмешчана ня больш як па тры альбо чатыры чалавекі якія сваёй расстаноўкай і агнём прадстаўлялі-б праціўніку шмат большую небясьпеку, чым усе разам. Лепш заняць 20 дамоў па 4 чалавекі ў кожнай, чым 4 дамы па 20 чалавек.

Найлепшым аружжам тут зьяўляецца лёгкае аўтаматычнае аружжа накшталт амэрыканскага „Томсона" альбо нямецкага „Бэргмана". Вельмі добрым аружжам зьяўляецца бомба, а таксама пры барыкадах лёгкія кулямёты. Трэба старацца ўмяшчаць кулямёты альбо наогул так званыя агнявыя гнёзды ў склепах дамоў, у вокнах. Тут трэба выходзіць з двух пунктаў погляду; па-першае, страляючы са склепу, нанесьці ўдар удоўж па ўсёй вуліцы, а страляючы са страхі, паражаць толькі тую лінію, якую ўзяў на прыцэл, пакідаючы ў іншых мясцох мёртвы раён. Па-другое, авіяцыя праціўніка наўрад ці дасьць дзейнічаць з кулямётамі на страсе.

За вывучэньне ўсіх гэтых пытаньняў кожнаму сябру партыі трэба ўзяцца зараз-жа, не адкладаючы ні на адну хвіліну. Таму, што ад таго наколькі мы падрыхтуем сябе і падрыхтуем масы, наколькі мы падыйдзем і вывучым узбройнае паўстаньне, „як мастацтва", улічваючы самыя дробязі, — настолькі будзе залежыць сам посьпех і праўдзеньне ўзбройнага паўстаньня.

Сёньня, калі „масавая палітычная забастоўка можа нас адразу паставіць у новую сытуацыю, сытуацыю рэвалюцыйную, калі патрэбна будзе можа праз 24 гадзіны паставіць лёзунг узбройнага паўстаньня, як лёзунг гэнэральны і практычны" (ліст ЦК па пытаньню становішча на Украіне), кожны сябра партыі павінен быць кожны дзень гатовым да таго, каб кіраваць узбройным паўстаньнем у сваім раёне.

Калі мы цяпер возьмемся за выпрацоўку пляну паўстаньня, альбо пабудовы барыкад і спынім штодзённую масавую працу—гэта нічога, акрамя шкоды нам і карысьці фашызму, ня дасьць. Але кожны сябра нашае партыі ўжо цяпер возьмецца за вывучэньне пляну свайго гораду, вуліц, дзе лепей будаваць барыкаду, якія дамы больш карысны заняць дзеля абстрэлу з іх праціўніка, з якой часткі гораду будзе наступаць праціўнік, які раён найбольш важны дзеля захопу ў першую чаргу, як лепш усяго пранікнуць і зьвязацца з салдатамі і г. д. і г. д., альбо інакш кажучы, кожны падумае, а што ён будзе рабіць, калі заўтра альбо пасьлязаўтра атрымае дырэктыву: рыхтуемся непасрэдна да паўстаньня. Гэтыя пытаньні вывучэньня тактыкі вулічнай барацьбы асабліва павінны ставіцца і вывучацца дружынамі масавай рабочай самаабароны. Самаабарона павінна ўжо перад кожным мітынгам, дэманстрацыяй, забастоўкай засесьць і распрацаваць канкрэтны плян абароны, адбіцьця нападаў паліцыі і фашысцкіх баёвак і г. д.

У гадавіну 25-годзьдзя маскоўскага паўстаньня ўсе як адзін, горнемся вывучаць усе тыя пытаньні, бяз вывучэньня каторых мы ня зможам у будучым выканаць ускладзенай на нас задачы.

**С. Б. Традыцыя.**

# Нацыянал-дэмакратычная змова супроць БССР.

Пераход савецкай улады ад гаспадарчай палітыкі эпохі ваеннага камунізма да «новай эканамічнай палітыкі» — ад штурму да асады, — як казаў Ленін, — быў ўспрыняты тады дробна - буржуазнымі элемэнтамі, а таксама рэшткамі буржуазіі ў краіне Саветаў, як сыгнал капітуляцыі бальшавізму, сыгнал павароту пралетарскай рэвалюцыі на старыя, пратарожаныя буржуазныя дарожкі.

Буржуазны і сацыялфашысцкі друк усяго сьвету ўрачыста абвяшчаў аб «збанкрутаваньні бальшавізму».

Расейская, контр-рэвалюцыйная эміграцыя раздвоілася пад уплывам udараў, нанесеных ёй узброеным пралетарыятам і пад уплывам ілюзій, якія былі пасеяны пераходам савецкай улады са шляхоў штурму на шлях асады. Значная частка буржуазнай расейскай інтэлігэнцыі стала на пазыцыю «зьмены вех» — зьмены арыентацыі. Гэтая частка буржуазнай інтэлігенцыі, якая стала на пазыцыю «сменовеховства», не перастала быць сілай контр-рэвалюцыі. Аднак, страціўшы веру ў магчымасьць зруйнаваньня бальшавікоў узброенай сілай, яна рабіла стаўку на мірнае перараджэньне савецкай улады праз НЭП у новае выданьне буржуазнай улады.

Буржуазія народаў, раней зьняволеных і прыгнечаных царызмам—народаў, вызваленых пралетарскай рэвалюцыяй, таксама зьмяніла фронт пад уплывам перамог пралетарскай рэвалюцыі і пераходу савецкай улады да НЭП'у. Буржуазія зьняволеных царызмам народаў з вялікім здавальненьнем сустрэла буржуазна - дэмакратычную лютаўскую рэвалюцыю. Яна аказала неабмежаванае падтрыманьне ўрадам князя Львова і Керэнскага, абмяжоўваючы свае нацыянальныя запатрабаваньні да патрабаваньняў мясцовай аўтаноміі. Але да Кастрычнікавай рэвалюцыі нацыянальная буржуазія аднеслася з шалёнай ненавісьцю і варожасьцю.

Савецкая Беларусь створана узгодненымі, ўзброенымі намаганьнямі пралетарыяту і асноўных мас беларускага сялянства, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі бальшавікоў Беларусі ў саюзе з пралетарыятам Масквы, Ленінграду, Харкаву, Данбасу. Нацыянальнае, сацыяльнае і дзяржаўнае вызваленьне працоўных мас БССР было дасягнута ў рашучым, крывавым змаганьні з беларускай, усерасейскай, польскай і нямецкай контр-рэвалюцыяй.

Пасьля заключэньня рыскага міру, БССР не адразу ўступіла на шлях «мірнага» разьвіцьця. Доўгі час дывэрсыйныя банды прабавалі сарваць гаспадарчае і культурнае будаўніцтва БССР. Аднак, ні гэтыя напады, ні бандыцкія налёты, ні, нарэшце, паасобныя ізаляваныя кулацкія бунты і паўстаньні не змаглі затармазіць магутнага працэсу аднаўленьня краіны, працэсу сацыялістычнага будаўніцтва і ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту.

Новая эканамічная палітыка («НЭП»), паводле Леніна, была стратэгічным манэўрам, сутнасьць якога найбольш ярка характарызаваў лёзунг: «Адступіць, каб разьбегчыся і скакнуть яшчэ далей». Палітычная мэта гэтага манэўру заключалася ў **замацаваньні рабоча - сялянскага саюзу.**

Вядома, НЭП заключаў у сябе элемэнты адступленьня. **Але ня толькі і ня у першую чаргу — адступленьня.** Сутнасьць НЭП'у заключалася ў **наступленьні** на новай падставе, якая адпавядала новым суадносінам клясавых сіл і новай міжнароднай палітычнай і гаспадарчай сітуацыі. Гэта наступленьне пралетарскай рэвалюцыі на клясавага ворага на новай аснове і ў новых формах Ленін акрэсьліваў наступным чынам:

**«...Увесь сэнс у тым, каб рушыцца цяпер наперад непараўнальна больш шырокай і магутнай масай НЯ ІНАКШ, як разам з сялянствам... Такую задачу пры даным міжнародным становішчы, пры даным стане вытворчых сіл Расіі можна вырашыць толькі, вырашаючы яе вельмі павольна, асьцярожна, дзелавіта, тысячу разоў правяраючы практычна кожны крок».** (Ленін, 1922, 18 т.—2, 70, 71).

Не прайшло году з таго часу, як савецкая краіна, пад кіраўніцтвам Камуністычнай Партыі, перайшла на рэйкі НЭП'у і Ленін ужо дае лёзунг: **«Цяпер мы пастанавілі прызнаць адступленьне закончаным».**

Адступленьне было скончана, але стратэгічная задача засталася нязьменнай, і найбольш выразна выказаў стратэгічную задачу бальшавізму тав. Ленін, калі пісаў —

**«самкнуцца з сялянскай масай, з шэраговым працоўным сялянствам і пачаць рушыцца наперад нязьмерна, бесканцова павольней, чым мы марылі, але затое так, што сапраўды будзе рушыцца ўся маса з намі. ТАДЫ ПАСКАРЭНЬНЕ ПРАСОЎВАНЬНЯ Ў СВОЙ ЧАС НАСТУПІЦЬ ТАКОЕ, АБ ЯКІМ МЫ ЗАРАЗ І МАРЫЦЬ НЯ МОЖАМ».** (Ленін, 18 т.—2—30. Падкрэсьлена намі—С. Б.).

Вядома, пераход краіны дыктатуры пралетарыяту на рэйкі новай эканамічнай палітыкі ні ў якім выпадку не азначаў зьмякчэньня і заміраньня клясавай барацьбы, як гэта сьцьвярджалі правыя апартуністы і іх ультралевыя прыхільнікі. Клясавая барацьба мяняла толькі свае формы. Пралетарыят адступаў, каб «разьбегчыся і скакнуць яшчэ далей», пакончыўшы-ж з адступленьнем, ён пераходзіў у наступленьне на клясавага ворага на рэйках НЭП'у. У гэтым працэсе новая эканамічная палітыка, якая выдавалася буржуазіяй і яе агентамі ў лягеры пралетарыяту—правымі апартуністамі і іх ультралевымі саюзьнікамі—за адступленьне і капітуляцыю, — выяўляла свой рэвалюцыйны зьмест.

**Сёньня Савецкі Саюз знаходзіцца іменна ў пэрыядзе,** прадсказаным Леніным у 1921 годзе, **паскарэньня разьвіцьця,** аб якім пры пераходзе да НЭП'у бальшавікі і марыць не маглі. СССР ня толькі аднавіў народную гаспадарку, ня толькі дабіўся даваенага ўзроўню вытворчасьці, але праводзячы сацыялістычную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі шляхам індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, разьвіцьця буйных фабрык с.-г. прадуктаў — на сёнешні дзень падвоіў сваю вытворчасьць у параўнаньні з даваенным часам.

Гэтыя дасягненьні заваёваны на аснове правільнай ленінскай палітыкі УсеКП(б), — на аснове шырокага наступленьня на клясавага ворага, які абмяжоўваўся і выцясьняўся сацыялістычнымі элемэнтамі, а зараз у асобе кулацтва, на аснове суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца як кляса. Вядома, гэтае сацыялістычнае наступленьне не магло ня выклікаць шалёнага супраціўленьня буржуазных элемэнтаў, абвастрэньня клясавай барацьбы. Шкодніцтва стала ўлюбёнай зброяй разьбітых, але не дабітых клясавых ворагаў. Поўная іх бязгрунтоўнасьць у краіне, ахопленай энтузіязмам сацыялістычнай будоўлі, штурхала ўнутраную контр-рэвалюцыю на шлях падрыхтоўкі наезду міжнародных інтэрвэнтаў на СССР. Асабліва спрыяючую глебу знайшлі гэтыя інтэрвэнцыяніссцкія намаганьні клясава-варожых сіл сёньня ў час вялізарных перамог сацыялістычнага будаўніцтва, у час вялізарнага паражэньня капіталістычнай сыстэмы, якая перажывае найцяжэйшы крызіс.

Зараз мэтай намаганьняў савецкага пралетарыяту, які на падставе разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва **ліквідаваў беспрацоўе,** зьяўляецца не жабрацкі ўзровень даваеннай гаспадаркі царскай імпэрыі; мэтаю савецкіх рабочых зьяўляецца — **дагнаць і перагнаць** перадавыя ў сэнсе тэхнікі і эканамічнай магутнасьці капіталістычныя дзяржавы. Гэты ленінскі лёзунг, афармляючы вялізарнае жаданьне савецкага пралетарыяту, абапіраецца на пераможнае выкананьне пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва за чатыры гады. Сусьветная буржуазія разумее, што гэты лёзунг не зьяўляецца пустым сказам, што гэта рэальная пагроза для капіталістычнай сыстэмы, якую разбурае сусьветны капіталістычны крызіс.

* * *

Размовы аб моцнай стабілізацыі, аб росквіце капіталістычнай сыстэмы даўно закінуты нават прысяжнымі песьнярамі буржуазнага ладу. У лягеры сусьветнага капіталу ўсё часьцей чутны галасы трывогі і роспачы. Эканамічны крызіс, які патрасае асновы капіталістычнага сьвету і ў радзе краін перарос у палітычны крызіс, прыводзіць да такога абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяў, што найменш дальнавідныя прадстаўнікі буржуазіі ўсьведамляюць набліжэньне краху, нарастаньне навальніцы, якая зьмяце капіталістычную сыстэму.

Цяперашні крызіс, структурны крызіс капіталістычнай сыстэмы, зьяўляецца найбольш яркім праяўленьнем загніваньня капіталізму ва ўмовах нарастаючай міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі, якая на 1/6 зямной кулі перамагла і замацавалася, уводзячы на чатырнаццатым годзе Савецкі Саюз **у пэрыяд сацыялізму.** «Ясна, што мы ўжо уступілі ў пэрыяд сацыялізму, — гаворыць т. Сталін, — бо сацыялістычны сэктар трымае зараз у руках усе гаспадарчыя вагары ўсёй народнай гаспадаркі, хаця да пабудовы сацыялістычнага грамадзтва і зьнішчэньня клясавых розьніц яшчэ далёка».

Умацаваньне гаспадарчых, палітычных, культурных, нацыянальных і вайсковых фундамэнтаў пралетарскай дыктатуры ў краіне Саветаў, вялізарны ўздым на гэтым грунце клясавай самасьвядомасьці, рэвалюцыйнай актыўнасьці і энэргіі пралетарыяту СССР і ўсяго сьвету — вось адна з асноўных прычын таго, што цяперашні крызіс капіталізму зьяўляецца «ня звычайным», «скора праходзячым», «нармальным» крызісам капіталізму. Таму, іменна, **усе міжнародныя супярэчнасьці інтарэсаў, якія разьдзіраюць капіталістычны сьвет, адыходзяць на задні плян перад асноўнай супярэчнасьцю нашай эпохі, супярэчнасьцю паміж капіталістычным сьветам і сьветам пралетарскай рэвалюцыі.**

Не выпадкова збрахаўшыяся глоткі сусьветнай буржуазнай прэсы выюць аб «савецкім дэмпінгу», як пагрозе зьвяржэньня «капіталістычнай цывілізацыі», невыпадкова прыгнятальнікі выюць аб «прымусовай працы» ў СССР—дзе працоўныя ня ведаюць жаху прымусовай гулі беспрацоўя. У ашалелым выцьці буржуазнай прэсы і сацыял-фашыстаў супроць нібы «савецкага дэмпінгу», «прымусовай працы» і г. д. чуецца сьмяротны жах асуджаных клясаў, якім не ў магату справіцца з рулём капіталістычнага караблю, які заліваецца грозна бушуючым морам сацыяльных сатрасеньняў.

Бурны гаспадарчы і культурна-палітычны рост СССР і ў першую чаргу нацыянальных рэспублік і вобласьцей, якія адставалі раней у сваім разьвіцьці з прычыны палітыкі прыгнечваньня і эксплёатацыі, што прымянялася царызмам; няўхільнае ажыцьцяўленьне грандыёзнага пляну сацыялістычнай перабудовы краіны пралетарскай дыктатуры, у рэзультаце якога Савецкі Саюз ў год даганяе цэлыя дзесяцігодзьдзі, праходзячы ў пяць год той шлях, які Англія прарабіла ў 160 год, а Амэрыка ў 90 год; бальшавіцкія тэмпы работы, якія зьяўляюцца рэзультатам нябывалага пад'ёму энэргіі, энтузіязму, актыўнасьці рабочай клясы, яе згуртаванасьці вакол бальшавіцкай партыі, безгранічнага давер'я да яе ленінскага кіраўніцтва і вернасьці генэральнай лініі партыі — усе гэтыя фактары, дапамагаючы павышэньню рэвалюцыйнай барацьбы шырокіх працоўных мас усяго сьвету, выклікаюць шалёнае імкненьне буржуазіі — скрышыць Савецкі Саюз, як непагасаючы ачаг сусьветнай рэвалюцыі.

Капіталістычны сьвет ня раз аб'яднаў свае сілы супроць пралетарскай рэвалюцыі. Заўсёды пралетарыят даваў жорсткі адпор гэтым спробам. Міжнародная контр-рэвалюцыя з азьвярэньнем асуджанага аднаўляе свае атакі, яна прыбягае да самых хітравумных камбінацый, каб уцягнуць масы ў вайну супроць Савецкага Саюзу. Канфлікт на Кітайска-Усходняй чыгунцы быў лепшым паказчыкам гэтых падкопаў імпэрыялістаў. Савецкая ўлада пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі вытрымала тады падвойны экзамен: яна разбурыла пляны інтэрвэнтаў, пераканаўшы нават найбольш адсталыя дробна-буржуазныя масы ўсяго сьвету, што бальшавікі—сапраўды за мір супроць вайны, — яна

адначасова прадэманстравала усяму сьвету гэраізм, баяздольнасьць, вытрымку, дысцыплінаванасьць і высокі тэхнічны ўзровень слаўнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, першага атраду сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі.

Міжнародныя драпежнікі ў сваіх падкопах, накіраваных на здушэньне сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі і яе ачагу—СССР, не абмяжаваліся падрыхтоўкай ваеннага нападу звонку. Яны шукалі саюзьнікаў і агентаў унутры краіны пралетарскай дыктатуры і знаходзілі іх сярод асколкаў раней кіруючых клясаў, сярод найбольш магутнага атраду эксплёататараў у СССР — сярод кулацтва, сярод тэй часткі дробна - буржуазнай інтэлігенцыі, якая зьяўляецца ідэолёгам кулацтва, і тэй часткі спэцыялістаў, якія не маглі прымірыцца з стратай прывілей і тэй долі ўдзелу ў эксплёатацыі працоўных мас, якую ласкава адпускала ім буржуазія.

Пераход Савецкага Саюзу ў рэканструкцыйны пэрыяд, у шырокае сацыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты краіны, паварот пераважнай масы серадняцтва на сацыялістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі, ажыцьцяўленьне палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі — актывізавалі барацьбу клясавага ворагу супроць пралетарскай дыктатуры і ўнутры краіны і па-за яе межамі.

Жалезная рука пралетарскай дыктатуры давала руйнуючы адпор выступленьням клясавага ворагу. Слаўная ОГПУ выкрыла і абязшкодзіла шахцінскіх шкоднікаў, шкоднікаў у ваеннай, тэкстыльнай, судабудаўнічай прамысловасьці, у мясной справе, у машынабудаўніцтве, у хэмічнай, залатой, нафтавай і інш. галінах прамысловасьці. Нядаўна, дзякуючы пільнасьці вернага вартаўніка рэвалюцыі—ОГПУ, на лаве падсудных загутарылі прадстаўнікі «прампартыі», — якая рыхтавала дарогу крыві, тэрору, голаду і акупацыі. Зараз лаву падсудных займаюць сацыял-інтэрвэнты якія дзейнічалі па дырэктывах агентаў міжнароднага капіталу — правадыроў II «сацыялістычнага» Інтэрнацыяналу — Вандэрвельдэ, Каўцкіх, Блюмаў, Баўэраў, Недзялкоўскіх, Дашынскіх, Данаў і Абрамовічаў. Сацыял-інтэрвэнты таксама, як і фашысты з «прампартыі», прызналіся ў злачынствах супроць пралетарскай рэвалюцыі і раскрываюць той ланцуг здрадніцтва і шкодніцтва, які аб'яднаў у адно цэлае меншавікоў, сацыялфашыстаў з крайнімі рэакцыянерамі — манархістымі.

Уся работа шкоднікаў, шпіёнаў і здраднікаў знаходзілася ў цяснейшай сувязі з распрацаванымі ў цішы французскага гэнштабу плянамі ўзбройнай інтэрвенцыі, вызначанай на 1930 год, потым адкладзенай на 1931 г.

У плянах інтэрвэнцыі міжнароднай контр-рэвалюцыі вялізарную ролю — ролю застрэльшчыка павінна была граць фашысцкая Польшча. Аб яе ролі ў інтэрвэнцыі, якая падрыхтоўваецца, і аб бязьграніцных захопніцкіх апэтытах польскіх фашыстаў Рамзін ў сваіх паказаньнях падрабязна інфармаваў Савецкі суд. Жудасны акупацыйны тэрарыстычны рэжым на Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне — курс на фізычнае зьнішчэньне камуністаў і рэвалюцыйнага актыву рабочае клясы, на разгром і падаўленьне антыфашысцкага блёку і яго складовай часткі, нацыянальна-вызваленчага руху арышты, разбурэньне бядняцка-серадняцкіх мас Заходня-беларускай вёскі штрафамі, грабежам сэрвітутных праў і г. д. — знаходзіцца ў прамой сувязі з ліхаманкавымі падрыхтоўкамі капіталістычнага сьвету да інтэрвэнцыі. Паказаньні Рамзіна сьцьвярджаючы заключэньні камуністычнага друку, расчыняць, вочы самаму адсталаму рабочаму ці дробнаму буржуа на сапраўднае — ваеннае—значэньне усялякіх «аграрных канфэрэнцый»,—«сяброўскіх прагулак» маршалаў і прэзыдэнтаў у сталіцы суседніх дзяржаў.

* * *

Вядома, **буржуазныя элемэнты** нацыянальнасьцяў, раней прыняволеных царызмам, не змаглі заставацца ў баку ад контр-рэвалюцыйных антысавецкіх падкопаў міжнароднай буржуазіі. Пралетарская рэвалюцыя, нясучы працоўным масам Беларусі вызваленьне ад падвойнага ярма — сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня, экспрапрыявала беларускіх экспрапрыятараў разам з эксплёататарамі ўсіх іншых нацыянальных адцень-

няў. Гэтыя элемэнты ў асобе Ластоўскіх, Луцкевічаў, Лёсікаў, Некрашэвічаў, Булак-Балаховічаў, у цясьнейшым саюзе з вялікадзяржаўнай расейскай контр-рэвалюцыяй, з украінскімі буржуазнымі «незалежнікамі», накшталт пагромшчыка Пятлюры, вялі з першых дзён Кастрычніка няпрымірымую ўзброеную барацьбу супроць пралетарыяту Беларусі, які змагаўся рука аб руку з рабочай клясай усяго Савецкага Саюзу за дыктатуру пралетарыяту. У гэтай барацьбе клясавыя ворагі беларускіх працоўных мас заключалі здрадніцкія змовы з царскімі генэраламі, ідучымі супроць працоўных пад сьцягам «адзінай і непадзельнай», з кайзерам, які таптаў жалезным ботам сваёй акупацыі хацінкі беларускай галыцьбы, з францускім генштабам, з бандытам Булак-Балаховічам і з манархіствуючым эсэрам, Савінкавым, з дэфэнзіўных спраў майстрамі з кампаніі Пілсудзкага, стваpаючымі на вогнішчы Заходняй Беларусі Польшчу «ад мора да мора».

Перамога беларускіх працоўных мас, дасягнутая над акупантамі і інтэрвэнтамі, у саюзе з працоўнымі ўсяго СССР, пад кіраўніцтвам партыі пралетарыяту і яго ленінскага ЦК, прымусіла беларускую контр-рэвалюцыю пасьледваць прыкладу Рамзіных, Чаянавых, Ефрэмавых і зьмяніць тактыку. Прыкрываючыся заявамі аб лёяльнасьці ў адносінах да савецкай улады, яны папрабавалі знутры ўзарваць сацыялістычнае будаўніцтва наогул і ў прыватнасьці будаўніцтва беларускай культуры, нацыянальнай па форме, пралетарскай па зьмесьце.

**У цясьнейшым ідэйна - палітычным кантакце з беларускімі нацыянал-фашыстамі, агентамі польскай дэфэнзывы ў Заходняй Беларусі, яны падрыхтоўвалі грунт, на якім павінна была расквітнець буржуазна-фашысцкая Беларусь пад назвай «Беларускай Народнай Рэспублікі», Беларусь Радзівілаў, Скірмунтаў, Луцкевічаў і кулакоў-жываедаў, якіх прадстаўляюць усе гэтыя нацыянал-фашысцкія групоўкі Луцкевічаў, Астроўскіх, Ярэмічаў, Станкевічаў і г. д.** Гэта «незалежная» буржуазна-фашысцкая Беларусь, вядома, апынулася-б у «фэдэрацыі» і пад скіпэтрам аўтараў «цуда над Віслай» і «цудаў у выбарчай урне», але гэта менавіта і патрэбна «адраджэнцам», бо лепшага бізуна для прымушэньня працоўных да паслуханьня эксплёататарам, чым канчуг польскага фашызма яны ня змогуць знайсьці.

Мэты і задачы нацыянал-дэмакратаў, сутнасьць іх «адраджэнцкай» ідэалёгіі лепш за ўсе характарызуюць **праграмныя імкненьні «Нашай Нівы» у 1909 годзе аб стварэньні з Беларусі дамініёну па ўзоры Канады ўнутры расейскай імпэрыі Раманавых, рэфармаванага паводле ангельскаго прыкладу, імкненьні Некрашэвічаў у 1919 годзе і нацыянал-фашыстаў Луцкевіча, Астроўскага, Станкевіча, Ярэміча ў Заходняй Беларусі ў нашы дні.**

Ня менш яскрава выкрывае контр-рэвалюцыйную, эксплёататарскую сутнасьць тэорыя нацыянал-дэмакратаў аб «адзінстве» беларускай нацыі — аб яе «працоўным» характары. Гэта тэорыя мела сваёй задачай замаскаваць пад заслонны «працоўны» колер кулака і гарадзкога эксплёататара і ў клясавай барацьбе раззброіць рабочага і асноўныя бядняцка-серадняцкія масы. Тую-ж мэту мелі і гутаркі аб славутнай «самабытнасьці».

Клясавая сутнасьць імкненьняў беларускай контр-рэвалюцыі, што маскуецца гучнымі фразамі аб «адзінстве нацыі», аб «самабытнасьці» беларускай культуры, «адраджэнцкай» і «незалежніцкай» дэклямацыяй — цалкам і поўнасьцю, да найдрабнейшых падрабязнасьцяў, адназначна з сутнасьцю сусьветнай контр-рэвалюцыі. Беларускія контр-рэвалюцыянэры, нацыянал-дэмакраты — усе гэтыя Краскоўскія, Лёсікі, Некрашэвічы і Ластоўскія імкнуцца абаперці эканамічны лад на прынцыпе капіталістычнай уласнасьці, уваскрасіць капіталістычную эксплёатацыю...

«Арганізацыя эканамічных адносін на прынцыпе прыватнай уласнасьці (на зямлю, прадпрыемствы, рухомую і нерухомую маёмасьць) поўнай і неадлучнай» — вось коратка праграма «адражэнца» нацыянал-дэмакрата Краскоўскага. А далей... «Фінансавая палітыка, якая базуецца на замежных пазыках і канцэсіях».

Праграмную мару Краскоўскага, выказаную ў гэтых словах, ажыцьцяўляе ў

Польшчы фашысцкі дыктатар - маршал Пілсудзкі.

Вось да такой «незалежнасьці» імкнуўся Краскоўскі, вось у імя такой «незалежнасьці» ён і ўся арыштаваная група контр - рэвалюцыйных нацыянал - дэмакратаў будавалі пляны падрыхтоўкі інтэрвэнцыі.

Ня менш адкрыта выкрывае сутнасьць «адраджэнцтва» і Лёсік, калі цынічна гаворыць, што: «Пад сьцягам стварэньня беларускай рэспублікі, пад сьцягам абароны беларускай самабытнасьці, мовы, культуры... пачалася мабілізацыя нацыяналістычных сіл..., а на справе, за звычайны мяшчанскі парадак, за хаткі, квятнікі, **за буржуазны лад...** Захаваць гэты лад можна ў сваёй хоць-бы **намінальна** незалежнай рэспубліцы». Вось іменна «намінальна незалежнай рэспубліцы», бо для гэтых буржуазных ідэолёгаў, для гэтай купкі контр-рэвалюцыйных беларускіх нацыянал - дэмакратаў незалежнасьць пачыналася і канчалася там, дзе была «поўная і неадлучная прыватная ўласнасьць на зямлю і сродкі вытворчасьці».

Той-жа Лёсік нахабна прызнае, што тая «беларуская інтэлігенцыя, якая выкінула пры бальшавіках у Расіі лёзунг незалежнай Беларусі—спачатку рэвалюцыі пры Керанскім і ўстаноўчым сойме дабівалася толькі **простае аўтаноміі Беларусі».**

«Незалежнікамі» яны сталі толькі супроць бальшавікоў, толькі супроць дыктатуры пралетарыяту, толькі супроць таго ладу, пры якім прыватная ўласнасьць на зямлю і сродкі вытворчасьці была скасавана.

Яшчэ больш ярка выяўляецца контр-рэвалюцыйная сутнасьць праграмы агентаў польскага фашызму, якія падрыхтоўвалі дыверсыйныя акты і інтэрвэнцыю, з акрэсьленьня, данага Лёсікам адносінам контр-рэвалюцыйных беларускіх «адраджэнцаў» да беларускіх працоўных мас. «Мы больш разьлічвалі, — гаворыць Лёсік, — на беларускую буржуазію, а на сялянства глядзелі, як на сырую этнаграфічную масу, якая павінна пайсьці за сваёй інтэлігенцыяй».

Чым-жа гэтыя словы Лёсіка адрозьніваюцца ад слоў Мікалая II аб ідучай на фронт салдацкай масе, як «аб шэрай сьвятой жывёліне».

Беларускія контр-рэвалюцыянэры, вядучы змаганьне за адраджэньне капіталістычнага ладу на Беларусі, падобна Рамзіным, усе свае надзеі ўскладалі на інтэрвэнцыю. «Мы ведалі, — кажа Лёсік, — што сіл у нас няма і аб узброеным паўстаньні супроць савецкай улады і думаць ня прыходзіцца... Нашы надзеі на зьвяржэньне савецкай улады мы ўскладалі на вайну з Польшчай, **інтэрвэнцыю.** Бо роўналежна існаваць дзьве сыстэмы — капіталістычная і сацыялістычная ня могуць...»

Таму ў той момант, калі польскі фашызм наваліўся на працоўныя масы Заходняй Беларусі з жорсткімі рэпрэсіямі, калі ўсё, што было сумленнага сярод інтэлігенцыі Эўропы, пратэставала супроць польскіх зьверстваў, супроць разгрому Т-ва Беларускай Школы, здраднік Лёсік думаў толькі аб адным, як-бы не пашкодзілі гэтыя пратэсты яснавяльможнай Польчшы, як-бы яны не перашкодзілі ажыцьцяўленьню інтэрвэнцыі. «Мне здавалася,—гаворыць Лёсік,—што граміць Польшчу, г. зн. падсякаць той сук, на якім вісеў наш ідэал самастойнай Беларусі. Крушэньне польскай дзяржаўнасьці—крушэньне нашых ідэалаў».

Чаго быў варты нацдэмаўскі «ідэал самастойнай Беларусі», мы ўжо ведаем. Важна адзначыць, што для Лёсіка крушэньне польскай фашысцкай дзяржаўнасьці, крушэньне польскай акупанцкай улады, якая руйнуе Зах. Беларусь, было «крушэньне нашых — гэта значыць—Лёсікаўскіх, Ластоўскіх і Некрашэвічаўскіх — ідэалаў».

Кампартыя бальшавікоў Беларусі ў прамове свайго першага сакратара, тав. Гея, ўскрыла дасканала сутнасьць і сапраўдную мэту нацдэмаўскай «самабытнасьці», «адраджэнства» і «незалежніцтва».

«Мы ведаем, казаў **тав. Гей,** што беларускі нацыянал-дэмакратызм арыентаваўся **на капіталістычны Захад,** у процівагу пралетарскай Маскве, і **часткова арыентаваўся на буржуазную Польшчу.** Гэта арыентыроўка зьвязвалася ў поўнай меры аформленым імкненьнем да стварэньня беларускай «народнай рэспублікі», якая ў нашых умовах, на данай

ступені разьвіцьця імпэрыялізму, была-б **ня чым іншым, як дыктатурай фашызму.** У радох нацыянал - дэмакратызму быў «самабытніцкі», «незалежніцкі» струмень, які то ўзмацняўся, та паслабляўся... Справа з самабытнасьцю стаяла прыкладна так: узмацняюцца надзеі на ўнутраны пераварот на кулацкае паўстаньне ўнутры СССР—узмацняецца «самабытніцкае» крыло нацыянал-дэмакратызму; калі-ж надзеі на кулацкае паўстаньне паслабляюцца, то ўзмацняюцца надзеі на польскую інтэрвэнцыю, узмацняецца заходняя арыентацыя, паслабляецца «самабытніцкае крыло».

Беларускія нацыянал - дэмакраты вялі шалёную атаку супроць індустрыялізацыі БССР, за лапатную-адсталую Беларусь—за зварот назад да таго культурнага і гаспадарчага становішча, у якім знаходзіцца Заходняя Беларусь. Беларуская контр - рэвалюцыя з пенаю на вуснах абрушвалася нават супроць электрычнага трамваю ў Менску. Яны марылі аб адраджэньні капіталістычнай Беларусі з прыгоньніцкай культурай старажытнага езуіты Скарыны. Яны хацелі тую краіну, якая першай пры дапамозе Савецкага Саюзу ўвяла ўсеагульнае абавязковае навучаньне, адкінуць назад на становішча тэй найбольш адсталай у культурных і эканамічных адносінах краіны царскай Расіі, якой была Беларусь да Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Гэтага не дапусьцяць працоўныя БССР. Наадварот, у бесперапыннай барацьбе супроць клясавага ворага, як-бы хвацка гэты апошні ні маскаваўся ў колеры «нацыянальнага адзінства» і «салідарнасьці», пралетарыят БССР, абапіраючыся на калгасьнікаў, беднату ў саюзе з серадняком пад кіраўніцтвам КП(б)Б будзе разгортваць сваё наступленьне, ператвараючы аграрную Беларусь у краіну буйнай сацыялістычнай індустрыі і сельскай гаспадаркі.

У першы год пяцігодкі (1928—29), у першы год пасьля таго, як народная гаспадарка БССР дасягнула даваеннага ўзроўню, прамысловасьць БССР дала прадукцыі на 172,5 млн. руб. (перад вайной яна давала на тэрыторыі, якая ўключала і ЗБ—прадукцыі на 47,4 млн. руб.); колькасьць рабочых узрасла да 32,4 тыс. чалавек (перад вайной —23 тыс.). З яшчэ большым уздымам быў выканан другі год пяцігодкі. Прамысловая прадукцыя дасягнула амаль 300 млн. руб., колькасьць рабочых перакрочыла за 50 тыс. чалавек. За мінулы год у шэрагі дзейнічаючых заводаў увашло ужо шмат буйнейшых прадпрыемстваў.

У сельскай гаспадарцы таксама ёсьць буйныя зрухі ў галіне ўзьняцьця дабрабыту асноўных мас сялянства, ня гледзячы на шкодніцтва нацыянал - дэмакратаў у галіне зямельнай палітыкі.

Калектывізацыя ў БССР да 1929 г. праходзіла стыхійна, напатыкаючыся на шалёнае супраціўленьне ня толькі кулацтва, але і зямельных органаў, у якіх доўгі час панавалі правыя апартуністы і прадстаўнікі контр - рэвалюцыйных груповак усіх масьцей, на чале з былым Наркомам земляробства БССР, Прышчэпавым. Сам Прышчэпаў сваю палітыку ў аграрным пытаньні характарызуе наступным чынам:

«Аграрная палітыка, якая праводзілася пры мне ў Беларусі, накіроўвала разьвіцьцё сельскай гаспадаркі па капіталістычным шляху. Такім чынам, гэта аграрная палітыка садзейнічала рэстаўрацыі капіталізму. Такі напрамак (шлях капіталістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў Беларусі) пры маім кіраўніцтве атрымаў з самага пачатку маёй работы ў Наркамземе пры складаньні першага пяцігадовага пляну разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў БССР. У гэтым пляне, дзе вызначаліся пэрспэктывы разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР, атрымалі адлюстраваньне ідэі беларускага нацыянал-дэмакратызму».

Сутнасьць прышчэпаўшчыны лепш усяго раскрываюць практычныя рэзультаты гэтай палітыкі. У дапаўненьне да 22 проц. сялянскіх гаспадарак, расселеных на хутары па сталыпінскім дарэвалюцыйным земляўпарадкаваньні, было выселена на хутары яшчэ 18 проц. па прышчэпаўскім парэвалюцыйным земляўпарадкаваньні і да сярэдзіны 1929 г. хутаране склалі 40 проц. усіх сялянскіх гаспадарак.

Заахвочвалася пад любым прадлогам буйная індывідуальная кулацкая гаспадарка. Калектыўныя гаспадаркі ставіліся ў горшыя ўмовы, наперакор простым дырэктывам партыі. Скарыстаньне трак-

тароў прызнавалася «неадпаведным умовам Беларусі». У рэзультаце трактарны парк на 1 студзеня 1930 году налічваў усяго 200 адзінак. Нарэшце, уся работа па падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі вялася ў напрамку падрыхтоўкі кіраўніка фэрмэрскай, г. зн. кулацкай гаспадаркі. Навукова-дасьледчыя інстытуты і сельска-гаспадарчыя вышэйшыя тэхнічныя навучальныя ўстановы зьяўляліся па сутнасьці праваднікамі кулацкай палітыкі. Органы Наркамзему былі засьмечаны шкоднікамі і нацыянал-дэмакратамі.

У рэзультаце рашучай барацьбы партыі з прышчэпаўшчынай і павароту асноўных мас сялянства на шлях сацыялістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі, у БССР ужо маецца рост ахопу калгасамі сялянскіх двароў з 2% у сярэдзіне 1929 г. да 12% к канцу мая 1930 году. К канцу сьнежня 1930 г. калгасы ахопліваюць ужо каля 15% сялянскіх гаспадарак.

Заслугоўвае ўвагі той факт, што процант ахопу калгасамі сялянскіх гаспадарак **у прымежных раёнах вышэй** сярэдняга па рэспубліцы і складае 17,4%.

Вялізарная работа, праведзеная партыяй па разгортваньню калгаснага і саўгаснага будаўніцтва пасьля разгрому прышчэпаўшчыны, прывяла да таго, што аграмаджаны сэктар змог даць у 1930 годзе 19,7% усёй валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі і звыш ⅓ усёй таварнай прадукцыі. Гэта зьяўляецца бліскучым пацьвярджэньнем правільнасьці лініі ленінскай партыі ў справе вырашэньня харчовай і сырцовай праблемы.

**Культурнае будаўніцтва БССР** развіваецца яшчэ больш шпаркімі тэмпамі. Ня глядзячы на тое, што ў культурнай галіне контр-рэвалюцыйнымі нацыянал-дэмакратамі вялася найбольш напружаная шкодніцкая работа па падрыхтоўцы ўмоў для рэстаўрацыі капіталізму ў Беларусі, БССР мае буйнейшыя дасягненьні на шляху ліквідацыі культурнай адсталасьці, атрыманай у спадчыну ад царызму. Беларускіх школ у царскай Расіі ня было. У 1929 г. беларускія школы складалі 90%, расійскія — 2,2%, яўрэйскія—4%, польскія—2,7% і г. д. БССР ідзе першай па Савецкім Саюзе па кольkаснаму росту пачатковых школ, і першай з саюзных рэспублік увяла ўсеагульнае абавязковае навучаньне. Параўнальна з 1914 годам лік настаўнікаў у Беларусі на даны час павялічыўся **утрая**, а лік вучняў амаль **падвоіўся** (з 273.000 да 518.000).

Выдавецкая прадукцыя на беларускай мове расьце надзвычай шпарка. За 8 месяцаў 1930 году выпушчана 26.000.000 друкаваных аркушаў на беларускай мове.

Нацыянал-дэмакраты, як гэта відаць па рабоце шэрагу савецкіх устаноў: Народны Камісарыят Асьветы (пры Ігнатоўскім і Баліцкім), Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва (пры Жылуновічы і Шыпіле), Камісарыят Земляробства (пры Прышчэпаве, Адамовічы А.), Інбелкульт і потым Бел. Акадэмія Навук (пры Ігнатоўскім) мелі сур'ёзны ўплыў на лінію гэтых устаноў, прыводзячы ня толькі да скажэньня лініі партыі ў гэтых установах, але часта, абапіраючыся на нацыянал-апартуністаў, яны прыводзілі да поўнай падмены лініі партыі нац.-дэмаўскай практыкай. Галоўныя свае намаганьні нацыянал-дэмакраты накіроўвалі на захоп у свае рукі работы ў галіне культуры і сельска-гаспадарчай эканомікі.

«Нацыянал - дэмакратызм зьяўляўся натхніцелем і правадыром хутарызатарскай зямельнай палітыкі, якая рабіла стаўку на кулака і імкнулася павярнуць сельскую гаспадарку на шлях капіталістычнага разьвіцьця». (Кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б, 1930 г.).

Невыпадкова!

Яны дальнабачна браліся за справу ўмацаваньня і пашырэньня сваёй сацыяльнай базы — кулацтва.

Невыпадкова таксама нацыянал-дэмакратызм усе сілы накіроўвае на тое, каб культурнае будаўніцтва БССР пайшло па шляху тварэньня культуры буржуазнай па сваім зьмесьце і нацыянальнай па сваёй форме.

Улюбёнай формай скарыстаньня нацыянал - дэмакратамі савецкай легальнасьці для барацьбы з пралетарскай дыктатурай і для прапаганды сваіх поглядаў былі: літэратурная крытыка (тэатральная дыскусія — Дудар-Глыбоцкі, Купцэвіч і інш.), паэзія, бэлетрыстыка і

нарыс («Крывічы», «Падарожжа на Новую Зямлю» Зарэцкага і «Пурпуровых ветразей узьвівы» — Дубоўка, «Случчына» — Лужаніна, «Лісты да сабакі» — Я. Пушчы і г. д.). Падобныя матывы часам гучэлі ў творах і іншых беларускіх пісьменьнікаў, у тым ліку Янкі Купалы і інш. Нацыянал-дэмакраты скарысталі таксама гісторыю, мовазнаўства і краязнаўства (ідэалізацыя фэадальнага мінулага Беларусі, правінцыяналізацыя мовы, барацьба супроць «саветызмаў»—новых слоў, адбіваючых тыя зрушэньні, якія зрабіла рэвалюцыя ў БССР).

У аповесьці «Крывічы» Зарэцкага найбольш ярка сфармулявана нянавісьць нацыянал-дэмакратаў да машыны, да фабрыкі. Яны баяліся пралетарыяту і таму марылі аб сельскай кулацка-саматужнай Беларусі, якая была-б сырцовай калёніяй замежнага капіталу, у якой малалікі фабрычна-заводзкі і транспартны пралетарыят быў бы моцна закованы у ланцугі фашысцкага тэрору і акупанцкага ваеннага рэжыму. Як бачым, нацыянал-дэмакраты невыпадкова ў кулацкіх паўстаньнях, як складовай часткі інтэрвэнцыі, бачылі шлях да «адраджэньня» буржуазна-фашысцкай Беларусі.

Кампартыя бальшавікоў разгорнутым фронтам вяла і вядзе непрымірымую барацьбу з контр-рэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і супроць нацыянал-апартуністаў. Гэта барацьба з усёй яркасьцю ўскрыла той факт, што «рукамі нацыянал - апартуністаў дзейнічаў наш клясавы вораг...» Беларускі нацыянал-апартуніст на справе аказаўся такім-жа нацыянал-дэмакратам толькі з партбілетам у кішэні. **ІІ пленум ЦК КП(б) Беларусі парашыў прызнаць нясумяшчальнай з прыналежнасьцю да партыі ня толькі прапаганду нацыянал - апартуністычных поглядаў, але і салідарызацыю з імі.**

Партыя выключыла са сваіх радоў шэраг нацыянал - апартуністаў пад прыкрыцьцём якіх дзейнічаў клясавы вораг. Побач з Сосісам, яўрэйскім нацыянал-апартуністам, выключаны былі Баліцкі, А. Адамовіч, Ігнатоўскі—беларускія нацыянал-апартуністы. Гэты апошні, паплечнік правакатара Гурына, каб унікнуць адказнасьці за свае злачынствы пакончыў жыцьцё самагубствам. Гэты апошні паступак быў яшчэ аднэй спробай па-здрадніцку ўдарыць у партыю і рабочую клясу БССР, пратэставаць супроць барацьбы працоўных за умацаваньне пралетарскай дыктатуры, за сацыялістычнае будаўніцтва ў БССР. Сьвістапляска фашысцкай і нацыянал-фашысцкай прэсы вакол самагубства здрадніка Ігнатоўскага і выбражальнага «самагубства» Янкі Купалы, які яшчэ нядаўна прымаў удзел у X Зьезьдзе Саветаў БССР, зьяўляецца лепшым сьведчаньнем таго, **што Ігнатоўскі быў агентам ворага, агентам-правакатарам польскага фашызму ў шэрагах КП(б)Б.**

Разграмляючы і вытраўляючы вялікадзяржаўны расійскі шавінізм, як галоўную небясьпеку, партыя выкрыла ў вачох працоўных контр - рэвалюцыйную сутнасьць і шкодніцкі характар работы беларускіх саюзьнікаў Рамзіных, Кандрацьцевых, Яфрэмавых з СВУ («Саюзу Вызваленьня Украіны»), Громанаў з меншавіцкага цэнтру і іншых агентаў сусьветнай контр-рэвалюцыі, таксама як і шавіністаў усіх іншых нацыянальных адценьняў.

Гэта бязьлітасная барацьба прывяла да таго, што ў рэзультаце яе сёньня органамі ГПУ Беларусі сарвана канчаткова маска з групы контр-рэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі, пазбаўленай усякага ўплыву ў масах, якая, двудушна абяцаючы пралетарыяту добрасумленна працаваць ў інтарэсах савецкага будаўніцтва, на справе працягвала весьці контр-рэвалюцыйную работу ў згодзе і па ўказаньнях зарубежных буржуазных нацыянал - фашысцкіх арганізацый. Арыштаваны шэраг контр-рэвалюцыянэраў. Усе яны даўно і добра вядомыя асобы—былыя «міністры» БНР («Беларускай Народнай Рэспублікі») і белагвардзейскія эмігранты накшталт Ластоўскага, Цьвікевіча, Краскоўскага, Смоліча, Лёсіка, Некрашэвіча—б. агента генэрала Бэртэлё—вось гэты эсэраўска-белагвардзейскі букет.

**Працоўныя масы БССР і Заходняй Беларусі, савецкая інтэлігенцыя і працоўная інтэлігенцыя Заходняй Беларусі з вялізарнейшай пагардай і нянавісьцю аднясуцца да гэтых адраджэнцаў капіталістычнага пекла, якія ішлі па шляху Рамзіных, рыхтавалі крывавую лазьню**

**працоўным масам пралетарскай краіны, кавалі кайданы акупацыі, нацыянальнага прыгону для БССР і падрыхтоўвалі зварот зямлі памешчыкам і фыбрык—капіталістам.**

Працоўныя масы БССР, савецкая інтэлігенцыя, пад кіраўніцтвам пралетарыяту, яшчэ цясьней згуртуюцца вакол камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі і яе ЦК, каб яшчэ шпарчэй — у нагу з працоўнымі ўсяго Савецкага Саюзу будаваць сацыялізм і ўзмацоўваць магутнасьць абароназдольнасьці нашай краіны.

Выкрыцьцё і арышт контр-рэвалюцыйнай групы нацыянал-дэмакратычнай інтэлігэнцыі, агентаў замежных буржуазных і нацыянал-фашысцкіх арганізацый ня толькі ня зьнімае з парадку дня брацкай КП(б) Беларусі барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам, але наадварот, патрабуе ад КП(б)Б яшчэ больш рашучай барацьбы за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі, патрабуе асабліва ўважлівага прагляду ўсёй устаноўкі работы, асабліва на культурным фронце, у навуковых, асьветных, выдавецкіх установах, з тым, каб накіраваць іх работу на марксысцка-ленінскія рэйкі. КП(б)Б узмацняе работу ў галіне беларусізацыі, згодна дырэктыў ІІ пленуму КП(б)Б, яна завастрае барацьбу **супроць расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе.**

Гэта менавіта набывае тым больш значэньня таму, што партыя павінна паралізаваць усякія спробы з боку вялікадзяржаўнага шавінізму скарыстаць выкрыцьцё і арышт гэтай контр-рэвалюцыйнай інтэлігэнцка-міністэрскай групы для свайго рэваншу. Разам з тым КП(б)Б узмацняе барацьбу і з іншымі шавінізмамі, якія папрабуюць скарыстаць выкрыцьцё гэтай групы, каб актывізаваць і ўцягваць у свае здрадніцкія сеці працоўныя масы.

Непахісна праводзячы ленінскую нацыянальную палітыку, вядучы рашучую барацьбу за генэральную лінію, цьвёрда трымаючы курс на ліквідацыю кулака на базе суцэльнай калектывізацыі, даючы бязьлітасны адпор правым і «левым» апартуністам і іх рознавіднасьці—нацыянал-апартуністам, моцна ўдараючы па фракцыянэрах з права-«лявацкага» блёку, — КП(б)Б забясьпечвае канчатковую перамогу рабочае клясы, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас над міжнароднай контр-рэвалюцыяй і яе агентамі ўнутры краіны.

У гэтай барацьбе КПЗБ будзе верным паплечнікам КП(б)Б, накіроўваючы ўсе сілы пад кіраўніцтвам ЦК КПП і ЦК КПЗБ на паралізаваньне інтэрвэнцыяніцкіх плянаў сусьветнай буржуазіі і плянаў ваеннага нападу на Савецкі Саюз з боку застрэльшчыка сусьветнай контр-рэвалюцыі — польскага фашызму.

**„ЦК КПЗБ АДЗНАЧАЕ, ШТО ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ ПРАВІЛЬНАЙ ЛЕНІНСКАЙ ПАЛІТЫЦЫ ПА НАЦЫЯНАЛЬНАМУ ПЫТАНЬНЮ І БЯЗЬЛІТАСНАЙ БАРАЦЬБЕ НА ДВА ФРОНТЫ, БРАЦКАЯ КП(бальшавікоў)БЕЛ. ПРЫ ПАДТРЫМАНЬНІ ПРАЦОЎНЫХ УСЯГО СССР І ПАД КІРАЎНІЦТВАМ УсеКП(б) ПЕРАМОЖНА ВЯДЗЕ КРАІНУ ДА САЦЫЯЛІЗМУ, ЛАМАЮЧЫ ПА ШЛЯХУ ЎСЕ ПЕРАШКОДЫ, ЯКІЯ СТАВЯЦЦА ЯК МІЖНАРОДНЫМІ, ТАК І ЎНУТРАНЫМІ ВОРАГАМІ ПРАЛЕТАРСКАЙ ДЫКТАТУРЫ“.** (З пастаноў ЦК КПЗБ).

Антось.

# Важнейшы вучастак барацьбы.

Маладзёжны вучастак рэвалюцыйнага антыфашыстоўскага фронту на ЗБ набірае ўсё большага значэньня ў справе падрыхтоўкі сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы, у справе ператварэньня імпэрыялістычнай вайны на выпадак яе ўзьнікненьня ў вайну грамадзянскую.

У зьвязку з завастрэньнем прамысловага і аграрнага крызысаў капіталістычная рацыяналізацыя праводзіцца пераважна коштам працоўнай моладзі, жанчын і падлеткаў, якія лягчэй паддаюцца эксплёатацыі, галоўным чынам, з прычыны сваёй неарганізаванасьці. З моладзі ў першую чаргу кампклектуецца польская імпэрыялістычная армія, якая будзе першая кінута на бацькаўшчыну міжнароднага пралетарыяту. Удзельная вага маладзёжнага вучастку ўсё больш узрастае ў рэвалюцыйнай барацьбе Зах. Беларусі. Працоўная моладзь побач з рабочай клясай рашуча выступае супроць фашыстоўскай дыктатуры, ці то ў сьценах кашараў, заводаў, фабрык, школ, ці на вуліцы, на сэзонных работах, на абшарніцкіх палёх і г. д. Аб рэвалюцыянізаваньні і актывізацыі сьведчыць масавы адплыў моладзі, як ніколі раней, з сацыял- і нацыянал-фашыстоўскіх арганізацыяў.

Зразумела, што роля КСМ, як авангарду рабоча-сялянскай моладзі і кіраўніка яе барацьбы, заключаецца ў тым, каб якнайшырэйшыя працоўныя масы моладзі змабілізаваць і арганізаваць пад сьцягам камунізму на штурм фашыстоўскай дыктатуры.

Аднак КСМ ЗБ, які адзначыў у сваёй кароткай гісторыі слаўныя баявыя вехі, у сучасны момант паміма некаторых дасягненьняў, не стаіць на вышыні задач барацьбы, вызначаных адказным складаным становішчам ў краі і ва ўсім сьвеце. Арганізацыйнае замацаваньне Камсамолам тых палітычных уплываў, якія ён мае ў масах рабочай моладзі, зусім нязначнае; на вёсцы КСМ бадай зусім адсутнічае, его ўдзел у кампаніях партыі, у самаабароне, у кіраўніцтве эканамічнай барацьбой моладзі і барацьбой працоўнай моладзі супроць фашыстоўскай дыктатуры—наогул нязначны. Трэба адзначыць недаацэнку піянэр-руху. Мы бачым, што ня глядзячы на тое, што працоўная моладзь шукае і горнецца пад сьцягі КСМ—яго арганізацыі лічбова скараціліся за апошні час; тое самае і з піянэрскімі арганізацыямі. Яскравым паказчыкам аслабленьня працы КСМ ЗБ зьяўляецца нездавальняючы стан цэнтральнай камсамольскай прэсы, у прыватнасьці органа „Малады Камуніст".

Далейшы такі стан КСМ ЗБ недапушчальны; патрэбны круты пералом у справе ажыўленьня дзейнасьці КСМ, у справе яго павароту да масавай працы, пранікненьня на прадпрыемствы, у першую чаргу на буйныя, у маёнткі, кашары, школы. КСМ ЗБ павінен стаць запраўдным на дзеле кіраўніком і арганізатарам барацьбы шырокіх працоўных мас моладзі, стаць ударнай брыгадай на рэвалюцыйным антыфашыстоўскім фронце барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе падрыхтоўкі імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР. У гэтым падставовая задача кіраўніцтва КСМ. Аднак, каб дабіцца гэтага пералому ў КСМ, партыя павінна зрабіць пералом у справе свайго кіраўніцтва Камсамолам; усе партарганізацыі зьверху да нізу павінны ясна і рашуча паставіць сабе задачу, як дапамагчы КСМ, як палепшыць, узмоцніць, ажывіць кіраўніцтва партыі работай КСМ.

Трэба прызнаць, што аднэй з прычын цяперашняга цяжкага палажэньня

КСМ ЗБ зьяўляецца слабае, а мясцамі і няправільнае кіраўніцтва з боку пасобных партыйных арганізацыяў. Горадзенскі АК у часе выбарнай кампанії зьвёў усю работу мясцовай камсамольскай арганізацыі да тэхнічнай акцыі. Такім чынам, АК ператварыў гэты баявы авангард рабочай моладзі у свой падсобны тэхнічны ворган. Тэхнічныя функцыі—вельмі важны і адказны вучастак працы, але побач з гэтым цэнтр увагі трэба класьці на тое, каб КСМ стаў на чале барацьбы працоўнай моладзі. Горадзенскі АК партыі правільным кіраўніцтвам КСМ павінен быў у даным выпадку дапамагчы яму выкарыстаць выбарную кампанію дзеля ўмасавеньня яго арганізацыі, для пашырэньня свайго ўплыву, дзеля рэвалюцыйнага выхаваньня шэрагаў КСМ у гэтай масавай палітычнай працы. У іншых мясцох камсамольскія арганізацыі зусім пазбаўляліся кіраўніцтва партыі, пакідаліся сам на сам, што ў выніку спрыяла росту авангардызму ў такіх арганізацыях, як напрыклад у Беластоку.

Калі прасачыць па справаздачах з месц, дык за вельмі малым выключэньнем можна адзначыць, што партарганізацыі не надаюць ўвагу кіраўніцтву КСМ, а ў большасьці выпадкаў гэтае кіраўніцтва быццам зусім ня існуе, аб ім няма ніякіх сьлядоў. Там, дзе з боку партарганізацыі наладжаны больш правільны падыход да кіраўніцтва работай моладзі (напрыклад, Вільня), дзе існуюць больш цесныя палітычныя ўзаемаадносіны паміж арганізацыяй партыі і камсамольскай, там работа КСМ з посьпехам разгортваецца, там барацьба працоўнай моладзі ідзе ў пары з барацьбой ўсёй рабочай клясы. Мы бачым на шэрагу прыкладаў, як шмат залежыць рост і разьвіцьцё КСМ ад кіраўніцтва партыі і дзеля таго недаацэнку гэтага кіраўніцтва трэба кваліфікаваць, як апартунізм, як недаацэнку ваеннай небясьпекі першым чынам.

Што асноўнага неабходна высьвятліць кожнаму партыйцу і кожнай мясцовай партарганізацыі, каб зрабіць паварот у справе кіраўніцтва працай КСМ?

Неабходна раз на заўсёды пакончыць з недаацэнкай ролі і значэньня КСМ у рэвалюцыйным руху, што асабліва шкодна ў сучасны момант, пакончыць з тым палажэньнем, калі кіраўніцтва замяняецца камандваньнем.

Камсамол зьяўляецца арганізацыяй, якая пад кіраўніцтвам Кампартыі стаіць на чале эканамічн. і палітычнай барацьбы працоўнай моладзі, арганізуе яе і ў працэсе гэтай барацьбы падрыхтоўвае і выхоўвае кадры для зьмены і папаўненьня шэрагаў партыі. КСМ—гэта той камуністычны атрад, пры пасрэдстве якога партыя вядзе барацьбу з фашызмам за працоўную моладзь, за ўплыў на армію, якая ў самы бліжэйшы час будзе ўжыта фашызмам дзеля зьдзейсьненьня яго імпэрыялістычных плянаў. КСМ па сваёй сацыяльнай і арганізацыйнай структуры, па зьмесце і мэтадах працы павінен быць арганізацыяй больш масавай, чым партыя. КСМ зьяўляецца арганізацыяй па свайму складу рабоча-сялянскай, а па сваіх мэтах і задачах пралетарскай і дзеля таго, арганізуючы найбольш шырокія пласты рабоча-сялянскай і ўсёй працоўнай моладзі, КСМ, аднак, з усёй рашучасьцю захоўвае кіруючую ролю за пралетарскім асяродзьдзем.

КСМ пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, праводзючы тактыку і задачы маладзёжнай палітыкі, сваімі асаблівымі камсамольскімі мэтадамі і формамі барацьбы ўцягвае працоўную моладзь у камуністычны рэвалюцыйны рух супроць фашыстоўскай дыктатуры, за сацыялістычную рэвалюцыю ў Польшчы, і гэтую ролю КСМ будзе правадзіць с тым большым посьпехам, чым лепшым і больш правільным будзе кіраўніцтва з боку партыі.

V Зьезд кажа, што „праца сярод рабочай моладзі ёсьць задача усёй партыі; недахопы КСМ знаходзяцца ў цеснай сувязі з недаацэнкай праз партыйныя арганізацыі працы сярод рабоча-сялянскай моладзі". Неабходна безадкладна ўрэгуляваць узаемаадносіны паміж партыяй і КСМ на мясцох—гэта значыць узмоцніць партыйнае ядро ў КСМ, шляхам уцягваньня ў партыю лепшых камсамольцаў, пры гэтым часьць іх пакідаць на камсамольскай рабоце.

Трэба пасылаць партыйцаў на работу ў КСМ, ці вызначыць адказных за камсамольскую працу ў парткамітэтах і ячэйках палітычна найбольш разьвітых і актыўных работнікаў—гэтага патрабуе важнасьць маладзёжнага вучастку і занядбанасьць гэтай працы.

Аднак, было-б грубай памылкай падыходзіць да гэтых узаемаадносін з чыста фармальнага боку, абмяжоўвацца толькі арганізацыйным пытаньнем. Мала пасылаць узаемна прадстаўнікоў на тое ці іншае паседжаньне. У першую чаргу трэба дабіцца, каб уся партыя працавала над пытаньнямі рэвалюцыйнага руху працоўнай моладзі, каб кіруючыя органы нашай партыі надавалі ўвагу справам КСМ ня менш, чым іншым галінам працы.

Неабходна наладзіць рэгулярную і шырокую інфармацыю для КСМ аб задачах, што стаяць перад партыяй, аб унутрыпартыйным палажэньні, уцягваць КСМ у палітычную працу пры ўсіх кампаніях партыі і з свайго боку ўсямерна садзейнічаць КСМ па правядзеньню кампаніі сярод рабочай і сялянскай моладзі. Неабходна наладзіць асаблівыя нарады партпрадстаўнікоў у КСМ з мэтай абгаварваньня задач і працы ў КСМ і піянэрруху, ставіць на ячэйках і камітэтах для апрацоўкі спэцыяльныя пытаньні камсамольскай працы.

Маючы на ўвазе, што КСМ ЗБ у сучасны момант ня ўсюды мае свае арганізацыі там, дзе мае іх партыя, а ў многіх мясцох ён працуе арганізацыйна зліўшыся з партыяй, мясцовыя камітэты і ячэйкі павінны ўсямерна дапамагаць стварэньню камсамольскіх арганізацый у так зван. пустых мясцох, аддзяляць маладзёжныя сілы і яднаць іх ў камсамольскія арганізацыі.

Праца КСМ—гэта ёсьць важнейшая справа ўсяе партыі, гэта ёсьць справа выхаваньня нашае зьмены, справа ўдзелу працоўнай моладзі ў падрыхтоўцы сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы, справа падрыхтоўкі моладзі на выпадак вайны, ператварэньня яе ў вайну грамадзянскую. Кожная партарганізацыя на мясцох, паставіўшы сабе ўдарную задачу: зрушыць з месца працу КСМ і піянэраў, ажывіць, умасавіць, убояздольніць гэтую працу,—неадкладна правядзе гэтую задачу ў жыцьцё.

**„Толькі ў рашучай барацьбе за лінію Партыі, пры сьмелым разгортваньні самакрытыкі, Камсамол здолее выканаць задачы, якія стаяць перад ім“.**

(З студзеньскіх пастаноў ЦК КПЗБ).

A. C.

# Агляд партдруку з месц.

Нарастаньне рэвалюцыйнага руху ў ЗБ ставіць перад друкам партыі шэраг важнейшых задач палітычнага і арганізацыйнага характару. Разгортваючыяся падзеі ў краі вымагаюць ад партыі асаблівай пільнасьці да шпаркага рэагаваньня, пастаяннага кіраўніцтва і арганізацыйнага ахопу стыхійнага руху мас.

Для партыі асабліва небясьпечна цяпер закаранеласьць, няўменьне своечасова аднаўляць мэтады працы, ужываць лёзунгі да бягучых падзеяў, асабліва небясьпечна адставаньне ад тэмпу рэвалюцыйнага руху. Друк, як галоўнейшая зброя партыі ў справе арганізацыі і мабілізацыі мас таксама патрабуе свайго прыстасаваньня да сучасных варункаў барацьбы і задач рэвалюцыйнага руху.

Перадусім друк павінен узброіць партыю ад гары да нізу зброяй ленінізму, каб падрыхтаваць партыю да бальшавіцкага разьвязаньня надыходзячых гістарычных задач, высунутых разгортваючыміся вялізарнымі клясавымі баямі і набліжэньнем ваеннага нападу на СССР. Шэраг практычных пытаньняў палітычнага, тактычнага і арганізацыйнага парадку (барацьба з ухіламі, пытаньне аб узбройным паўстаньні, стачачны рух, партызаншчына, асьвятленьне грамадзкага руху ў Беларусі і інш.) патрабуюць ідэолёгічнага паглыбленьня і тэорэтычнай распрацоўкі. „Без рэвалюцыйнай тэорыі няма рэвалюцыйнай практыкі“ (Ленін).

Але побач з гэтым больш чым калі-б то ня было становішча ў краі патрабуе ўзмацненьня ролі і значэньня друку, як калектыўнага арганізатара ў штодзённай барацьбе мас, як лепшага праваднікa ідэй камунізму ў масы. Гэтую задачу мы зможам выканаць толькі пры дапамозе масавага нізавога друку, друку на прадпрыемствах, ячэйках, маёнтках, кашарах, вёсках, школах. Нізавы друк павінен заняць першараднае месца ў справе заваяваньня большасьці рабочае клясы, у справе арганізацыі барацьбы шырокіх працоўных мас. Недаацэнка ролі нізавога рэвалюцыйнага друку сьведчыць аб адарванасьці ад барацьбы мас, аб цягненьні ў хвасьце разгортваючыхся падзеяў.

Трэба з вялікім задаволеньнем адзначыць значнае зрушша ў справе выданьня партдруку на мясцох. Усе акругі, многія райкомы і нават ячэйкі часта-густа адклікаюцца адозвамі на тую альбо іншую палітычную падзею. У Вільні ў часе выбарнай кампаніі было выдана 25.000 экзэмпляраў адозваў і лятучак, прычым 8 гарадзкіх ячэяк мелі свае выданьні. У Беластоку было выдана 25 відаў адозваў у колькасьці 10.000.

Каб удасканаліць наш нізавы друк і ўзьняць яго палітычны ровень, а таксама наладзіць абмен вопытам, на старонках „Бальшавіку“ будзе сыстэматычна даваца агляд друку з месц з ацэнкай яго дасягненьняў і недахопаў. У сёньняшнім аглядзе спынімся на выданьнях з месц у часе выбарнай кампаніі. Рэдакцыя „Бальшавіку“ па прычыне падпольных варункаў і невыстарчальнай дбайнасьці партарганізацый да своечасовай дастаўкі сваіх выданьняў, не атрымала ўсіх выданьняў з месц, каб даць ацэнку і адпаведныя вывады.

Найбольш ажыўленую выдавецкую дзейнасьць праявілі Віленскі і Беластоцкі АК, што выражаецца ў выданьні некалькіх тысяч адозваў і лятучак. Хоць па сутнасьці гэта ёсьць кропля ў моры, калі параўняць з агітацыяй фашыстоўскага лягеру. які літаральна закідваў гарады і вёскі сваёй літаратурай. Але прымаючы пад увагу цяж-

кія варункі падпольля і шал белага тэрару, мясцовыя выданьні партарганізацый КПЗБ бязумоўна праявілі вялікую актыўнасьць і выявілі далейшы рост мясцовых выданьняў.

Па тэмах адозвы падзяляюцца на: агульна-выборчыя, да падзеяў на ЗУ, да 13-й гадавіны, па поваду скасаваньня сьпіскаў рабоча-сялянскага блёку і па поваду канкрэтных выпадкаў канфліктаў паміж працай і капіталам у часе выбарнай кампаніі. Ужо назва тэм сьведчыць аб палітычнай самадзейнасьці мясцовых партарганізацый, аб своечасовым выкарыстоўваньні друкаванага слова для рэагаваньня на падзеі. Ва ўсіх выпадках больш-менш удала чырвонай ніткай праходзіць увязка з галоўнейшай кампаніяй—выбарнай. Па сваёй мэтаімкнёнасьці і ўдарнасьці, асабліва ўдалы кароткія, у некалькі лёзунгаў, лятучкі Беластоцкага АК. Нізавыя выданьні ў часе выбарнай кампаніі праявілі некаторае зрушша ў бок палепшаньня тэхнічнага выкананьня, хоць гэтымі дасягненьнямі нельга абмяжоўвацца і неабходна ў далейшым паляпшаць разборчывасьць адозваў, ня пісаць незразумелых скарачэньняў і слоў, даўгіх, закручастых фраз, разборчыва пісаць, не замазваць пры друкаваньні.

Калі гаварыць аб недахопах, дык мясцовы партдрук перадусім адлюстраваў агульныя недахопы, зробленыя партыяй у часе выбарнай кампаніі, а менавіта: невыстарчальная ўвага да мабілізацыі мас на адпор фашыстоўскаму тэрару, на масавасьць выбарнай кампаніі і заваяваньне вуліцы ў дзень выбараў, несвоечасовае рэагаваньне на падзеі ў ЗУ і затым слабая ўвязка выбарнай кампаніі са штодзённымі патрэбамі мас, беспрацоўем і голадам.

Беластоцкі АК у сваіх адозаах, маючыхся ў рэдакцыі (да двух дзясяткаў) не заклікае масы на актыўныя, арганізаваныя масавыя выступленьні, робячы галоўны ўпор на неабходнасьць галасаваць за антыфашыстоўскія сьпіскі, а не на масавасьць і актыўную барацьбу і палітычны зьмест гэтай барацьбы. У кожнай адозве, аднак, маецца лёзунг: „Стварайце дружыны самаабароны". Не падкрэсьліваючы масавасьці і баяздольнасьці выбарнай кампаніі, Беластоцкі АК прышывае гэты лёзунг мэханічна — ёсьць, моў, такая дырэктыва: гэтым ён паказаў, што ня зусім разумее значэньне і сутнасьць такога актуальнага і важнага лёзунгу, як стварэньне самаабароны, які ўзьнікае на грунце масавасьці і баяздольнасьці руху. Дадатнім выключэньнем трэба лічыць віленскія адозвы, якія зрабілі грунтоўны націск на форму масавых выступленьняў: „Ладзьце мітынгі, баявыя дэманстрацыі і масавыя палітычныя стачкі", альбо „Ладзьце мітынгі і дэманстрацыі перад выбарнымі камісіямі". Аднак, побач з гэтымі правільнымі лёзунгамі, у віленскіх адозвах часта адсутнічае лёзунг стварэньня масавай самаабароны, што бязумоўна зьяўляецца буйным недахопам, бо стварэньне цяпер самаабароны на прадпрыемствах, у рабочых кварталах, па вёсках, у часе масавых выступленьняў мае першараднае значэньне ў справе падняцьця рэвалюцыйнай барацьбы на вышэйшы палітычны зровень.

У адозвах па поваду карных экспэдыцый на ЗУ, Беластоцкі АК абмяжоўваецца заклікам да масаў „пратэставаць". Але ж справа ня толькі ў пратэсьце, а ў салідарнай рэвалюцыйнай барацьбе разам з украінскімі працоўнымі масамі, якая павінна выявіцца ва ўзмоцненым завастрэньні барацьбы супроць разгрому нацыянальна-вызваленчага руху на ЗБ, супроць фашыстоўскай акупацыі і фаш. дыктатуры.

Вельмі дрэнна абстаіць справа ў адозвах у сэнсе канкрэтнасьці і адлюстраваньня барацьбы данае акругі, у сэнсе ўвязкі выбарнай кампаніі з эканамічнымі штодзённымі патрэбамі працоўных. Паказальнай ў гэтых адносінах зьяўляецца адозва, выданая ў Беластоку. Уся адозва складаецца з 16 палітычных лёзунгаў, якія выразна і агітацыйна паднесены, але ў адозве няма ані воднага эканамічнага лёзунгу, ані частковага, ані канчатковага, нават няма лёзунгу „Зямля бяз выкупу, супроць капіталістычнай рацыяналізацыі" і т. п. Ва ўсіх адозвах з месц адсутнічаюць лёзунгі, якія вынікаюць з барацьбы на грунце патрабаваньняў мясцовых рабочых і сялян. Скрозь і

ўсюды адозвы паўтараюць агульныя фразы цэнтральных выданьняў, і то часта няўдала, напрыклад, у Лідзкай адозве гаворыцца, што на ЗБ „мы вядзем барацьбу за заваяваньне большасьці рабочае клясы і працоўнага сялянства“. Перадусім не ясна, хто гэта „мы“? няўжо рабочыя і сяляне на ЗБ? А затым задача ўнутрыпартыйнага парадку ставіцца ў адозве не дарэчы і незразумела перад шырокімі масамі. У Беластоку маюцца спробы адлюстраваць у адозвах беластоцкую рэчаістасьць, як напрыклад: „Вы, таварышы тэкстыльшчыкі, працуеце 10-12 гадзін у дзень, вашых галодных заробкаў рэгулярна вам не выплачваюць, не выплачваюць вам за перапынкі ў працы не па вашай віне, у фабрыках ужываецца страшэнны тэрар. Сацыял-фашыстоўскія прафсаюзы, у якіх верхаводзяць добра вам вядомыя паны Богданы і Эрліх. Гэтыя паны робяць усё, каб разьбіць барацьбу працоўных мас, каб разьбіць агульнае наступленьне тэкстыльшчыкаў“. Але гэта яшчэ толькі спробы, бо гаварыць аб мясцовых варунках трэба з шмат большым улікам спэцыфічных патрэбаў данай фабрыкі, мясцовай барацьбы і інш. У адозвах-жа Віленскага АК мясцовая рэчаістасьць скандальна адсутнічае, усе гэтыя адозвы пісаны ў „міжнародным“ маштабу. Адгэтуль зразумела, чаму ў адозвах да 13-й гадавіны Кастрычніка—гаворыцца аб Цэрэтэлях і Керэнскіх, а напрыклад, у Лідзкай адозве гаворыцца аб пяцігодцы наогул; ёсьць і аб „дэмпінгу“, але аб канкрэтных дасягненьнях сацыялістычнага будаўніцтва, як ліквідацыя беспрацоўя, 7-гадзінны рабочы дзень калектывізацыя і іншае не знайшлі патрэбным упамянуць.

Хаця ЦК КПЗБ у часе выбарнай кампаніі выдаў спэцыяльны цыркуляр па барацьбе з беспрацоўем, аднак, мясцовыя партарганізацыі літаральна нідзе ні словам не ўпамянулі аб беспрацоўных, не заклікалі і не мабілізавалі ўсё ўзрастаючую масу беспрацоўных і галадуючых гораду і вёскі вакол выбарнай кампаніі на барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры.

Ня было выразнай устаноўкі на тое, каб масавым чынам укараніць у сьвядомасьць працоўных ісьці галасаваць з думкай аб узбройным паўстаньні. Выбарная кампанія не магла быць у дастатковай ступені баявой і масавай без удзелу беспрацоўных, калі, напрыклад, хоць бы ў Беластоку на 3-4 тысячы працуючых на фабрыках налічваецца 7-8 тысяч беспрацоўных ў горадзе.

Правільна было тое, што ў адозвах галоўны агонь накіроўваўся супроць белага тэрару фашызму, але побач з гэтым неабходна было на канкрэтных выпадках дэмаскаваць і манэўры фашызму і сацыял-фашызму.

Адозвы ўсіх арганізацый, бяз выключэньня, вельмі мала ўлічвалі барацьбу працоўнага сялянства. Ня было выданьняў на беларускай мове, што бязумоўна зьяўляецца буйнай палітычнай памылкай, тым больш, што вучастак нацыянальна-вызваленчай барацьбы цяпер займае адно з важнейшых месц у працы партыі.

З гэтых агульных заўваг вынікаюць наступныя вывады:

1) Партарганізацыям на мясцох трэба больш уважліва адносіцца да правядзеньня лініі партыі і ў друку, умець высоўваць на чале барацьбы ўдарныя актуальныя задачы, згуртоўваючы вакол іх ўвагу мас і мабілізуючы масы на барацьбу за гэтыя задачы.

2) Патрэбна большая канкрэтызацыя і ўвязка палітычнай барацьбы з эканамічнай, унікнуць адарванага прапагандызму. Трэба шырока выкарыстаць мясцовыя факты і прыклады эксплёатацыі, тэрару, барацьбы рабочых і сялян, выпадкі абурэньня ў арміі, манэўры мясцовых вядомых дзеячоў сацыял-фашызму і нацыянал-фашызму і ўрадовага фашызму (ББ, ББС) і на іх маляваць, удакладняць і канкрэтызаваць пытаньне так, каб гэта паслужыла сродкам да разьвіцьця і актывізацыі барацьбы.

3) Больш увагі ў друку барацьбе працоўнага сялянства і нацыянальна-вызваленчаму руху.

4) Ісьці далей па палепшаньню тэхнічнага боку выданьняў.

5) Наладзіць акуратную дастаўку ўсіх мясцовых выданьняў у Цэнтральную Рэдакцыю.

---

# Аб арышце тав. Тарашкевіча.

Фашыстоўская ахранка 6-га лютага зрабіла бандыцкі налёт на транзітны цягнік, які праходзіў з Данцыга ў Марыенбург праз польскую тэрыторыю, і схапіла праяжджаўшага ў ім тав. Б. Тарашкевіча—б. старшыню стотысячнай арганізацыі беларускіх працоўных мас—Грамады, аднаго з кіраўнікоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Тав. Тарашкевіч разам з іншымі дэпутатамі і дзеячамі Грамады быў асуджаны фашыстоўскім судом на шматгадовую катаргу. Разгром Грамады, арышты яе кіраўнікоў і крывавы тэрор у адносінах да рабочых і сялянскіх мас Зах. Беларусі, якая стогне пад уціскам фашыстоўскай акупацыі, не паслабілі размаху нацыянальна-вызваленчага руху Зах. Беларусі. Барацьба пашыралася і прымала ўсё больш вострыя формы. Фашызм для ўмацаваньня сваёй акупацыі стаў шукаць сабе саюзьніка ў асобе беларускай буржуазіі і кулацтва, у асобе прадстаўнікоў яе інтарэсаў—беларускага нацыянал-фашызму на чале з групай рэнэгатаў Грамады—Луцкевіча—Астроўскага. Аднак, умацаваньне саюзу польскай і беларускай буржуазіі яшчэ больш абвастрыла клясавую барацьбу ў ЗБ; беларускаму нацыянал-фашызму не ўдалося сьцягнуць беларускія працоўныя масы з шляху рэвалюцыйнай барацьбы за сваё вызваленьне.

Фашыстоўская дыктатура разам з сваімі агентамі і саюзьнікамі пачала шэраг манэўраў для падману мас і разлажэньня нацыянальна-вызваленчага руху. Адным з такіх манэўраў было датэрміновае ўмоўнае вызваленьне з турмы тав. Тарашкевіча і інш. дзеячоў Грамады. Гэты манэўр меў на мэце пасеяць ілюзіі ў масах аб зьмене курсу фашыстоўскай нацыянальнай палітыкі, быў разьлічан на тое, каб выклікаць хістаньні ў шэрагах нацыянальна-вызваленчага руху, уцягнуць некаторых кіраўнікоў Грамады ў лягер беларускага нацыянал-фашызму. Гэты манэўр фашызму пацярпеў поўнае паражэньне. Дэпутаты Грамады засталіся вернымі рэвалюцыйнаму сьцягу нацыянальна-вызваленчага руху і па-ранейшаму працягвалі стойкую барацьбу супроць фашыстоўскай акупацыі і яе саюзьнікаў і агентаў—беларускіх нацыянал-фашыстаў у ЗБ і беларускіх контр-рэвалюцыйных нацыянал дэмакратаў у БССР, якія дапамагаюць фашыстоўскаму ўраду Польшчы ў арганізацыі ваеннага нападу на БССР. Дэпутаты Грамады дэмаскавалі ў сваіх выступленьнях манэўры і махінацыі фашыстоўскай дыктатуры і яе саюзьнікаў. Тав. Тарашкевіч стаў на чале выбарчага камітэту „Змаганьня“, які працягваў справу Грамады ў барацьбе супроць фашыстоўскай акупацыі. Ярасьці і шаленству фашыстоўскай дыктатуры, якая ашукалася ў сваіх разьліках, няма межаў. Тэрор яшчэ больш узмацняецца. Пасыпаліся брудныя даносы правакатараў Луцкевічаў і Астроўскіх. Мабілізаваны ўсе сілы дэфэнзывы, каб расправіцца з стойкімі барацьбітамі нацыянальна-вызваленчага руху. Разгул фашыстоўскага тэрору ў часе выбарчай кампаніі, які выявіўся ў разгроме ўсіх арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху, арышце ўсіх дэпутатаў „Змаганьня“ і тысяч рабочых і сялян, прымусіў тав. Тарашкевіча шукаць прытулку за межамі фашыстоўскай Польшчы. Але і тут фашыстоўская ахранка прыняла ўсе меры, каб ажыцьцявіць сваю клясавую помсту, пазбавіць нацыянальна-вызваленчы рух папулярнага і масавага кіраўніка і зноў кінуць тав. Тарашкевіча за краты фашыстоўскіх казэматаў. Два гады таму назад пры дапамозе латвійскай ахранкі, польскай

дэфэнзыве ўдалося вырваць з шэрагаў рэвалюцыйнага руху тав. Пашына. Зараз паўтарыўся падобны-жа бандыцкі налёт на тав. Тарашкевіча.

Гэты нахабны разбойніцкі напад зьяўляецца новым зьвяном узмоцненых зьверстваў фашыстоўскай дыктатуры для задушэньня ўзрастаючай нацыянальна-вызваленчай барацьбы супроць СССР. Сьледам за карнымі экспэдыцыямі, якія залілі крывёй і агнём Зах. Украіну, фашыстоўская дыктатура рыхтуе крывавую лазьню на Зах. Беларусі. Фашыстоўскі друк прадракае ўжо новыя масавыя арышты і ўзмацненьне тэрору. Фашыстоўскай дыктатуры неабходна затапіць у крыві нацыянальна-вызваленчы рух для ажыцьцяўленьня сваіх імпэрыялістычных імкненьняў.

Па меры набліжэньня моманту ваеннага нападу на СССР, па меры нарастаньня рэвалюцыйнай хвалі і паглыбленьня крызысу фашыстоўскай дыктатуры—фашыстоўскі ўрад карыстаецца ўсё больш вышуканымі сродкамі, задушыць нацыянальна-вызваленчы рух—адзін з асноўных фактараў пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы, адзін з важнейшых фактараў, які зрывае імпэрыялістычныя грабежніцкія пляны фашызму.

Рабочыя і масы працоўнага сялянства ўсёй Польшчы, Зах. Беларусі і Зах. Украіны павінны даць рашучы адпор новым атакам фашызму супроць нацыянальна-вызваленчага руху. Бандыцкі напад на тав. Тарашкевіча і хваля новых масавых арыштаў на Зах. Беларусі, павінна знайсьці магутны водгук ва ўсёй краіне. Пралетарыят Польшчы сваімі выступленьнямі — магутнымі дэманстрацыямі і палітычнымі стачкамі, павінен падтрымаць барацьбу прыгнечаных народаў супроць фашыстоўскай акупацыі. Прымайце рэзалюцыі пратэстаў на масоўках і мітынгах супроць зьверстваў фашыстоўскай дыктатуры, супроць нацыянальнага ўціску, супроць фашыстоўскай акупацыі, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня Зах. Беларусі і Зах. Украіны з брацкімі савецкімі рэспублікамі! Патрабуйце вызваленьня тав. Тарашкевіча, рэвалюцыйных дэпутатаў і ўсіх палітзьняволеных!

**„ПАРТЫЯ ПАВІННА МАКСЫМАЛЬНА РАЗГАРНУЦЬ БАРАЦЬБУ НА ПАДСТАВЕ ШТОДЗЁННЫХ ПАТРЭБ МАС СУПРОЦЬ УЗМАГАЮЧАГАСЯ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЎЦІСКУ І ФАШЫСТОЎСКАЕ АКУПАЦЫІ ПАД ЛЁЗУНГАМІ САМАВЫЗНАЧЭНЬНЯ ЗАХ. БЕЛ. АЖ ДА АДДЗЯЛЕНЬНЯ І АБ'ЯДНАНЬНЯ З БССР".**

(З студзенскіх пастаноў ЦК КПЗБ).

# З жыцьця нашых брацкіх Кампартыяў.

## ГІСТАРЫЧНЫ ПЛЕНУМ ЦК КАМПАРТЫІ НЯМЕЧЧЫНЫ.

У студзені 1931 г. адбыўся пленум ЦК КПП. Пленум даў аналіз і перспэктывы далейшага разьвіцьця крызысу нямецкага капіталізму і клясавых баёў у Нямеччыне. Гэты аналіз сытуацыі і вынікаючыя з яго перспэктывы, вызначаныя мацнейшай з камуністычных партый, якія працуюць у капіталістычных краінах, маюць ня толькі вялізарнае значэньне для разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў Нямеччыне, але і першараднае значэньне для ацэнкі ўсяго сусьветнага становішча.

Нямеччына стала найбольш слабым зьвяном сярод кіруючых капіталістычных краін. Сусьветна-эканамічны крызыс перавытворчасьці, дзякуючы наяўнасьці версальскай сыстэмы і становішчу Нямеччыны, як краіны пераможанай, устрасануў яе глыбей, чым якую-небудзь іншую з кіруючых капіталістычных краін. Крызыс нямецкага капіталізму ўжо дасягнуў вялікай глыбыні і вострасьці.

Па меры паглыбленьня і абвастрэньня эканамічнага крызысу, па меры росту адпору мас капіталістам, па меры сатрасеньня буржуазнай дзяржавы, **вызначаюцца тэндэнцыі нарастаньня рэвалюцыйнага крызысу ў краіне.** Нямецкая камуністычная партыя бачыць гэтую перспэктыву насоўваючагася агульна-нацыянальнага рэвалюцыйнага крызысу. Але яна ясна ўсьведамляе, што ні паглыбленьне эканамічнага крызысу, ні ўзрушэньне палітычнай надбудовы самі па сабе не прывядуць да рэвалюцыйнага крызысу. Пленум ЦК КПН заявіў: **„Як гэтыя тэндэнцыі будуць расьці і разьвівацца залежыць у першую чаргу ад ходу клясавай барацьбы, ад разьвязваньня сіл і актыўнасьці рэвалюцыйнага пралетарыяту пад кіраўніцтвам кампартыі“.** Гэтую задачу разьвязваньня сіл пралетарыяту і арганізацыі яго актыўнасьці бярэ на сябе кампартыя Нямеччыны.

Побач з ростам сіл рэвалюцыі, арганізуюцца сілы контр-рэвалюцыі. Пануючыя клясы ўсьведамляюць пагражаючую ім небясьпеку. Для пануючых кляс становіцца неабходнай радыкальная зьмена мэтадаў іх клясавага панаваньня, бо старымі мэтадамі яны не спадзяюцца ўжо справіцца з узрастаючымі труднасьцямі і ўзрастаючым супраціўленьнем мас. Пленум ЦК КПН заявіў, што цяперашні ўрад Брунінга, ёсьць урад **правядзеньня фашыстоўскай дыктатуры** ў Нямеччыне, што дыктатура капіталу ў Нямеччыне прыняла характар высьпяваючай, але яшчэ ня высьпеўшай фашыстоўскай дыктатуры. Ускрываючы гэтыя зьмены форм дыктатуры капіталу ў Нямеччыне, пленум ЦК КПН сканцэнтраваў увагу працоўных мас на тым, што толькі пралетарыят зьяўляецца перашкодай на шляху ўстанаўленьня фашыстоўскай дыктатуры.

Разгортваючы свае сілы ў барацьбе супроць пералажэньня цяжкасьцяў крызысу на плечы рабочае клясы, супроць грабежы і падаўленьня працоўных мас, супроць устанаўленьня фашыстоўскай дыктатуры, нямецкі пралетарыят тым самым закрывае буржуазіі выхад з крызысу за кошт рабочае клясы, што павінна паглыбіць і ўзмоцніць тэндэнцыі нарастаньня рэвалюцыйнага крызысу ва ўсёй краіне. Тым самым пралетарыят стварае для Нямеччыны асноўную прадпасылку **рэвалюцыйнага выхаду з крызысу.** Дзеля таго, каб мабілізаваць масы за гэты выхад з крызысу, КПН ужо зараз высоўвае сваім **асноўным стратэгічным лёзунгам барацьбу за Савецкую Нямеччыну шляхам пераможнай народнай рэвалюцыі.** Паставіўшы гэтую стратэгічную мэту, нямецкая кампартыя высоўвае шэраг буйнейшых палітычных і арганізацыйных задач, якія вядуць непасрэдна да гэтай мэты. Ня гледзячы на тое, што нямецкі пралетарыят зьяўляецца самым магутным атрадам міжнароднага рэвалюцыйнага руху, яму патрэбны саюзьнікі. Для арганізацыі перамогі ён ставіць задачай аб‘яднаньне пад сваім кіраўніцтвам самых шырокіх мас, бедных сялян, якія руйнуюцца капіталізмам, служачых і гарадзкой дробнай буржуазіі, якія нязвычайна эксплёатуюцца, і для якіх таксама адзіным выхадам з іх цяперашняга цяжкага становішча **зьяўляецца рэвалюцыйны выхад з крызысу.** Гэтую задачу мабілізацыі ўсіх рэвалюцыйных сіл краіны пад кіраўніцтвам рабочае клясы, нямецкая кампартыя можа выканаць толькі, ўзмацняючы свае ўласныя шэрагі, заваёўваючы рашаючыя вучасткі нямецкага рабочага руху, узмацняючы сваю базу на прадпрыемствах, свае рэвалюцыйныя масавыя арганізацыі. **Высоўваючы** гэты лёзунг, як **сінонім пралетарскай сацыялістычнай рэвалюцыі,** нямецкая кампартыя заявіла, што толькі пралетарыят на чале з кампартыяй прадстаўляе тую сілу, якая вызваліць працоўныя масы Нямеччыны ад ланцугоў версальскага міру і пляну Юнга, ад галечы і голаду.

Вялікі стратэгічны плян, шырокая перспэктыва барацьбы—вось падстава пастаноў апошняга пленуму ЦК КПН. Аб гэтым сваім вялікім пляне КПН адкрыта заяўляе працоўным масам, гэтым яна заваёўвае масы для барацьбы.

З вялікай сьмеласьцю пленум ЦК КПН паставіў у парадак дня праблему **ліквідацыі масавага**

**ўплыву сацыял-дэмакратычнай партыі і арганізацыйнай ліквідацыі сацыял-дэмакратычнага саюзу моладзі.**

Вырашэньне гэтай задачы патрабуе напружаньня ўсіх сіл кожнага клясава-сьвядомага пралетара Нямеччыны, разгортваньня клясавай барацьбы, сапраўднага і пасьпяховага адпору наступленьню капіталу і ўзмацненьня сыстэмы арганізацый кампартыі.

Нямецкая кампартыя паказала ўжо сябе адзінай арганізацыяй, якая сапраўды змагаецца супроць зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню рабочых мас, за патрабаваньні беспрацоўных, супроць зьніжэньня зарабковай платы і рэдукцыяў. Разам з тым, нямецкая кампартыя ўжо шчыльна падыйшла да задачы шырокага выкарыстаньня масавай палітычнай забастоўкі супроць правядзеньня фашыстоўскай дыктатуры і зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню рабочых. З абвастрэньнем палітычных абставін, з ростам тэндэнцыі рэвалюцыйнага крызысу, палітычная масавая забастоўка становіцца зараз чарговай важнейшай зброяй барацьбы нямецкага пралетарыяту.

Нямецкая кампартыя падыйшла да такога моманту, калі ўся сума пытаньняў, якія стаяць перад ёю, становіцца па-новаму, калі ад кіруючых кадраў партыі патрабуецца вялізарная напружанасьць і энэргія ў правядзеньні пастаўленых перад партыяй гістарычных задач. **Ад нямецкай кампартыі патрабуецца ня толькі аналіз сытуацыі і яснае вызначэньне перспэктыў, але і вялізарная згуртаванасьць і бязьлітасная барацьба супроць драбнейшых адхіленьняў ад вызначанай партыяй лініі, супроць усіх гнілых апартуністычных элемэнтаў.**

Увесь міжнародны пралетарыят з напружанай увагай сачыць за разгортваньнем барацьбы нямецкага пралетарыяту. Ад ходу гэтай барацьбы ў значнай меры залежаць перспэктывы разгортваньня рэвалюцыйнага руху ня ў адной Нямеччыне.

**(З артыкулу ў „Правде").**

---

# Пад агонь самакрытыкі.

## АЦЭНКА ЗАБАСТОЎКІ ШАЎЦОЎ.

**(Вільня).**

Трэба ў парадку самакрытыкі сказаць, што на працягу першых тыдняў забастоўкі мы нават не спрабавалі ахапіць рабочых, заклікаць іх на нашы ўласныя сходы. Мы чакалі. Калі праўленьне сабрала сход, мы прыходзілі і крытыкавалі. Калі мы ўбачылі, што забастоўка зацягваецца, а праўленьне прафсаюзу не жадае ўжываць больш рашучыя мерапрыемствы, калі мы патрабавалі на першым агульным сходзе абвастрыць забастоўку, перашкаджаць майстрам працаваць і гэта было адхілена, мы павінны былі неадкладна пасьля гэтага арганізаваць другі сход і выбраць камісію. Адначасна трэба было арганізаваць дапамогу з боку іншых прафсаюзаў і не пушчаць майстраў да работы. Але гэта ня было зроблена. Гэта паказвае нам, што ячэйка зусім не працавала сярод рабочых. Шмат хто з таварышоў не рашаліся клікаць рабочых на наш сход. Другі сход, перад якім мы правялі нараду, паказаў нам, што мы мелі на ім посьпех. Але вось тут наша арганізацыя зрабіла памылку, не падрыхтаваўшы свайго прадстаўніка, не ўказаўшы яму, як трэба выступаць. Наогул мы не зьвязвалі з ходам забастоўкі сацыял-фашыстоўскую палітыку Бунду і іншых згодніцкіх партый, якія праводзілі лінію на тое, што быццам у эканамічнай барацьбе ня трэба займацца палітыкай. Вось супроць гэтай фашыстоўскай дзейнасьці Бунду і іншых, разам з тымі „Янкелямі", якія гралі быццам ролю беспартыйных, мы не змагаліся.

На мой погляд, ня трэба было выходзіць з стачкому, бо пры ўступленьні мы ведалі, што праўленьне будзе кіраваць усім ходам забастоўкі. Мы-б здолелі больш здэмаскаваць іх, знаходзячыся ў стачкоме, у іх ня было-б тады аргумэнту, што мы пасьля доўгага працягу забастоўкі ўцяклі з стачкому. Пры зьбіраньні грошаў і разьмеркаваньні іх сярод рабочых аказалася, што нашыя прафсаюзы не праявілі сваёй салідарнасьці з баставаўшымі рабочымі і пры справаздачы перад рабочымі аб нашых грашовых зборах высьвятлілася, што нашы саюзы далі вельмі мала.

Непасрэдна пасьля скончэньня забастоўкі мы павінны былі склікаць сход усіх рабочых і абгаварыць становішча ў сувязі з ліквідаванай забастоўкай і канфліктамі пасьля забастоўкі. Памылкамі ў нашых адозвах было тое, што мы ня высунулі лёзунгу заплаты за час забастоўкі, што ў апошняй адозве ня было лёзунгу: няхай жыве ўсеагульная забастоўка шаўцоў.

Сэкратар ячэйкі шаўцоў.

Верасень, 1930 г.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ І БАРАЦЬБА.

## ЯК САЦЫЯЛ-ФАШЫСТЫ І ПРАВАКАТАРЫ З ППС І БУНДУ—БОГДАНЫ І ФЭЙГІНЫ РАЗАМ З ДЭФЭНЗЫВАЙ ДАПАМАГАЮЦЬ ТЭКСТЫЛЬНЫМ ФАБРЫКАНТАМ ПРАВОДЗІЦЬ РЭДУКЦЫІ.

**(Беласток).**

Калі хто-небудзь даводзіць, што сацыял-фашысты супрацоўнічаюць з дэфэнзывай, дык сацыял-фашысты ўздымаюць вой аб хлусьні камуністых. Ім, гэтым „стопрацэнтным сацыялістым", гэта не тнару! А ў той-жа самы час яны самі сваімі чынамі і работай пацьвярджаюць гэтую ісьціну ў соты і тысячны раз. Апошні сход тэкстыльшчыкаў 27/1—гэта адзін вялікі абвінаваўчы акт рабочай грамадзкасьці Беластоку супроць сацыял-фашыстаў. У парадку дню схода пытаньне аб рэдукцыях. Ідзе наступленьне тэкстыльных фабрыкантаў па ўсяму фронту: рэдукуюць заработную плату, рэдукуюць рабочых. На фабрыцы Шапіра, якая працуе на ваенны заказ, сарвалі зарплату на цэлых 20%, на фабрыцы Трылінга ў горадзе—на 10% і рабочыя, не згадзіўшыся, пачалі баставаць. На другой фабрыцы Трылінга ў Васількаве, дзе таксама хацелі скараціць зарплату на 10%, рабочыя забаставалі, а мізэрная група штрайкбрэхераў працуе ўвесь час пад абаронай паліцыі. Адна з буйнейшых тэкстыльных фабрык Сокала-Зільберфеніга ўжо вядзе падрыхтоўкі да скарачэньня зарплаты на 10% і г. д. і г. д.

Сход гэты склікала аб'яднаная ППС-аўска—бундаўская сацыял-фашыстоўская фікцыя з повваду рэдукцыі (адно з самых пякучых пытаньняў дня). Хацелі гэтым прыцягнуць вялікую масу рабочых тэкстыльшчыкаў; бо патрэбна-ж паказаць рабочым, што „робяць справу". Выступае ўсім вядомы правакатар і рэнэгат Богдан і праліваe кракадзілавы сьлёзы над лёсам бедных тэкстыльшчыкаў: кепска, б'юць нас і г. д. і г. д. Ну, а што рабіць? Аб гэтым Богдан не гаворыць; ні воднага слова аб тым, як нам супрацьставіцца гэтаму наступу. Адзін толькі выхад: „Хадземце, бедныя тэкстыльшчыкі, у сацыял-фашыстоўскі саюз, тады вас будзем абараняць, а што датычыць рэдукцыі, дык потым паглядзім, пакуль яшчэ нідзе не гарыць—пажывём, забачым". За правакатарам Богданам выступае выпрабаваны здраднік П. Фэйгін—адзін з кіраўнікоў мясцовага Бунду, былы старшыня бундаўскага саюзу тэкстыльшчыкаў, член прэзыдыуму аб'яднанай „інтэрнацыянальнай" фікцыі: „Дзе там рэдукцыі? Хто там рэдукуе? Гэта, быццам, рабочыя сваімі гутаркамі аб рэдукцыях даюць повад фабрыкантам рэдукаваць зарплату" і далей у тым-жа духу. А што датычыць фабрыкі Шапіра, фабрык Трылінга—дык гэта нічога, ужо як-небудзь уладзяць гэтыя здраднікі. Да рэчы, сам Фэйгін работае ў Трылінга і не дарма прасіджвае цэлыя суткі ў фабрычнай канторы і разам з дырэктарам, бундаўскім сымпатыкам, Фрыдам распрацоўвае пляны, як-бы лепей ашукаць рабочых. Усе сацыял-фашысты ў адзін голас, адным заклікам: „Хадземце ў саюз, а калі надыйдуць рэдукцыі—паглядзім. Пакуль што рэдукцый няма". А Мулер, з разьлікам яшчэ больш усыпіць чуйнасьць рабочых у адносінах да новага наступленьня фабрыкантаў, прыводзіць наступны „аргумэнт": „Да рэчы, загадчык фабрыкай Махая наш хлапец, (!) нараджоны бундавец, няўжо-ж ён дапусьціць да рэдукцыі? (!)

Левая прафапазыцыя здэмаскавала гэтую палітыку сацыял-фашыстаў, якая накіравана на ўсыпленьне чуйнасьці і баяватоўнасьці рабочых, накіравана да таго, каб аблягчыць фабрыкантам наступленьне на наша жыццё, ня даць падрыхтавацца да контр-наступленьня. Апазыцыя прапанавала склікаць сход фабрычных дэлегатаў, каб абраць антырэдукцыйны камітэт, дзе былі-б прадстаўлены ўсе тэкстыльныя фабрыкі, для кіраўніцтва нашай барацьбой супроць ужо аб'яўленых і рыхтуючыхся рэдукцый. Бачучы, што большасьць сходу з прыхільнасьцю прымае выступленьні і прапановы апазыцыі, сацыял-фашысты, дзеля ратаваньня палажэньня, выпускаюць на арэну обэрздрадніка і дэфэнзыўшчыка, старшыню акруговай камісіі прафсаюзаў — Капітулку. Капітулка не дарма атрымоўвае пэнсію ў фабрыкантаў і паліцыі, ён выпрабаваны здраднік, калі патрэбна ён і ўмее пырскаць р-р-рэвалюцыйнымі „левымі" фразамі аб неабходнасьці завастрэньня клясавай барацьбы, аб няшчаднай барацьбе супроць рэдукцый і г. д. але: „на што антырэдукцыйны камітэт? На вошта вам ворганы барацьбы? Майце толькі давер'е да сацыял-фашыстоўскага праўленьня і тады ўсё будзе добра" (яно ўжо нас лоўка здрадзіць!). А потым старыя зжованыя гісторыі аб тым, што „у Польшчы зусім уж ня так кепска, ва ўсім сьвеце цяжкі крызыс, а ў нас зусім ужо ня такі вострыі зусім іншай якасьці і т. п." Капітулка цьвёрда стаіць на нагах, бо ён ніколі ня выступае без папярэдняй падрыхтоўкі ППС-аўска-дэфэнзыўскай баёўкі. І запраўды, патрэбна было толькі аднаму рабочаму слова сказаць супроць обэр-здрадніка і тут ужо навокал яго шпікі, цягнуць ужо рабочага з салі; рабочы супраціўляецца, астатнія рабочыя ўзьняліся на абарону, узьняўся гармідар паміж рабочымі і ППС-аўска-дэфэнзыўскай баёўкай. Але сацыял-фашысты спахваціліся: ужо вельмі яўна выступіла тут узаемнае супрацоўніцтва ППС, Бунду і дэфэнзывы. Богдан (правакатар са стажам) ратуе палажэньне і „мужна" вызваляе з рук сваіх-жа сатаварышоў рабочага, які адважыўся кінуць словам супроць Капітулкі. І тут-жа на месцы афіцыйныя і неафіцыйныя ППС-аўцы—агенты раюцца і рашаюць зацерці трохі ўражаньне гэтага інтындэнту; бо ужо занадта самі сябе здэмаскавалі ў вачох рабочых. Але ўсё-ж сход заканчваецца пад узмоцненым караулам паліцыі і дэфэнзывы. З іх дапамогай фашысты хацелі не дапусьціць да галасаваньня прапановы апазыцыі. Але пасьля катэгарычнага патрабаваньня апазыцыі прапанова аб дэлегацкім сходзе і антырэдукцыйным камітэце прайшла з пераважаючай большасьцю галасоў. Гэты апошні сход вельмі многаму навучыў рабочых.

Наша неадкладная задача: не чакаючы „работы" сацыял-фашыстаў (бо яны толькі здольны здраджваць нашую барацьбу), праз іх галовы пранікнуць у самую гушчу тэкстыльшчыкаў, галоўным чынам буйных прадпрыемстваў, актывізаваць усю масу ў барацьбе супроць рэдукцыі і беспрацоўя, за павялічэньне заработнай платы, за палепшаньне варункаў працы.

Тэкстыльшчык.

## САЮЗ САЦЫЯЛ-ФАШЫСТАЎ З ФАБРЫКАНТАМІ.

### (Ліст з тэкстыльнай ф-кі Шапіра ў Беластоку).

У аднэй з тэкстыльных фабрык І. Д. Шапіра адбываюцца факты, якія абавязкова павінны быць паданы да ведама пралетарскай грамадзкасьці.

На вышэйпаказанай фабрыцы працуе некалькі сотняў рабочых, у тым ліку 45 ткачоў. Фабрыка пераважна працуе на ваенныя заказы. Дзякуючы гэтым заказам фабрыка працуе амаль ўвесь год на 2 зьмены. У мінулым годзе ўзімку пасьля сэзону, калі ўсе фабрыкі спыніліся, фабрыканту ўдалося сарваць 10% зарабковай платы. Характэрна, што гэта фірма была першай, якая пачала зьніжаць зарабковую плату. Сацыял-фашыстоўскія хэўрусьнікі з ППС і Бунду зусім не рэагавалі на гэта зьявішча і такім чынам рэалізавалі рэдукцыю зарабковай платы.

Улетку, у часе сэзону, рабочыя забаставалі, патрабуючы звароту скінутых 10%. Для таго каб забясьпечыць посьпех гэтай кампаніі, ткачы першай зьмены (пастаянныя рабочыя) уцягнулі ў кампанію і рабочых другой зьмены, якіх фабрыкант выкарыстоўваў супроць рабочых першай зьмены. Сярод іншых патрабаваньняў, было патрабаваньне аб тым, што фабрыкант ня можа рэдукаваць рабочых усё роўна, да якой-бы зьмены яны ні належалі, ці да першай, ці да так званай другой зьмены. Рабочыя другой зьмены далучыліся да кампаніі, і пасьля трохтыднёвай барацьбы кампанія закончылася перамогай. Фабрыкант, бачачы, што рабочыя абедзьвюх зьмен выступаюць салідарна, і жадаючы ва што-б там ні стала зноў зламаць адзіны фронт рабочых, спыніў другую зьмену, звольніўшы яе раней на два тыдні. Пасьля гэтага ён прыступіў да ліквідацыі ўсіх выйграных рабочымі у свой час патрабаваньняў, як рэгулярная выплата, выплата за прастой і т. д., пакуль не дайшоў да рэдукцыі і выйграных раней рабочымі 10%.

Для гэтай мэты ён загадзя падкупіў аднаго рабочага—„фрака“ нейкага Гускевіча, які падабраў сябе другога рабочага Мэсера і разам узяліся за здрадніцкую работу, пагражаючы рабочым, што, калі яны ня пойдуць на ўступкі, фабрыка спыніцца і „фрацкі“ саюз пашле тады на фабрыку штрэйкбрэхэраў. Рабочыя зьвярнуліся тады за дапамогаю да пэпэясаўскага саюзу, але саюз замест таго, каб павесьці кампанію, заявіў рабочым, што ён ім ня можа дапамагчы, няхай робяць так, як хочуць. Атрымаўшы такі адказ, рабочыя засталіся працаваць на старых умовах, якіх дабіваўся фабрыкант. Зноў саюз нічым на гэта не рэагаваў. Варта адзначыць, што на гэтай фабрыцы працуе таксама старшыня гэтага саюзу, Кондрусік.

Закончыўшы справу з пастаяннымі рабочымі (першая зьмена), фабрыкант узяўся за другую зьмену. Ён пусьціў у ход некалькі варштатаў і паслаў паклікаць ня тых рабочых, якія раней працавалі на гэтых варштатах, а па сваім жаданьні. Прапрацаваўшым некалькі дзён рабочым, фабрыкант заявіў, што калі яны хочуць застацца на рабоце, дык павінны згадзіцца на рэдукцыю 10%. Убачыўшы, што пастаянныя рабочыя так хутка здалі свае пазыцыі, некалькі рабочых з другой зьмены, згадзіліся на гэта. Мала таго, да фабрыканта пайшла „дэлегацыя“ іншых рабочых з Мардэцкім на чэле і абвясьціла згоду на рэдукцыю гэтых-жа 10%, толькі-бы фабрыкант ім даў працу. Мардэцкі зьяўляецца між іншым членам праўленьня сацыял-фашыстоўскага саюзу.

Рабочыя масы павінны востра выступіць супроць здрадніцкай работы як адкрытых, так і замаскаваных згоднікаў, як Гускевічы, Кандрусікі і Мардэцкія. Ня трусасьцю і пасыўнасьцю, а пастаяннай бескампраміснай барацьбой супроць фабрыкантаў і іх лёкаяў, рабочыя гэтай фабрыкі, таксама як і ўвесь пралетарыят, даб'юцца перамогі.

Тэкстыльны рабочы фабрыкі Шапіра.

## ЗА БАЛЬШАВІЦКУЮ ЛІНІЮ ПАРТЫІ.

### (З рэзалюцыі віленскай ..... арганізацыі КПЗБ аб 4-м пленуме ЦК КПЗБ і V Зьезьдзе КПП).

Заслухаўшы даклад аб 4-м пленуме ЦК КПЗБ і V Зьезьдзе КПП, канфэрэнцыя цалкам ухваляе іх пастановы. Разьвіцьцё падзей за апошні час пацьвярджае правільнасьць ацэнкі, якая дана была 4-м пленумам ЦК КПЗБ і V Зьездам КПП аб далейшым паглыбленьні эканамічнага крызысу і нарастаньні шпаркім тэмпам агульна-палітычнага крызысу фашызму ва ўсёй краіне і ў асабліваасьці на ЗБ і ЗУ. Наперакор цьверджаньням правай групы Кастшэвы, Варскага, Бранда і інш. аб трываласьці стабілізацыі польскага капіталізму і запярэчваньні радыкалізацыі шырокіх рабоча-сялянскіх мас — 4-ты пленум і V Зьезд правільна паказалі на далейшае паглыбленьне і завастрэньне гаспадарчага крызысу ва ўсіх галінах прамысловасьці і сельскай гаспадаркі і нарастаньні элемэнтаў непасрэднай рэвалюцыйнай сытуацыі...

...Канфэрэнцыя ўхваляе ўсе арганізацыйныя мерапрыемствы V Зьезду ў адносінах да правых ухілістаў і заяўляе, што на даным этапе рэвалюцыйнай барацьбы працоўных супроць фашызму—правая небясьпека зьяўляецца галоўнай небясьпекай, паслабляючай ідэёва і арганізацыйна партыю ў яе барацьбе за большасьць рабочае клясы, у справе мабілізацыі найшырэйшых мас для зваленьня фашызму і ўстанаўленьня дыктатуры пралетарыяту. Канфэрэнцыя ўхваляе пастанову 4-га пленуму ЦК КПЗБ у адносінах да тав. Пружанскага і патрабуе ад яго давесьці на практыцы, што ён сапраўды парваў з правымі ў КПП, зжыў свае праваапартуністычныя погляды, спыніў фракцыйную работу супроць аднаўленага кіраўніцтва нашай партыі і сумленна будзе праводзіць у жыцьцё генэральную лінію партыі і Камінтэрну. Накіроўваючы галоўны агонь супроць правай небясьпекі, трэба адначасова змагацца з „левымі“ заскокамі паасобных таварышоў, якія ідуць па лініі пераацэнкі сытуацыі і аб'ектыўна граюць на руку правых...

## ДА НОВЫХ КЛЯСАВЫХ БАЁЎ.

Першыя паведамленьні аб 25-м лютым гавораць аб тым, што амаль ва ўсіх рабочых цэнтрах Польшчы і Зах. Беларусі адбыліся дэманстрацыі і выступленьні беспрацоўных.

У гэты дзень фашыстоўскі ўрад мабілізаваў усе сілы свайго паліцэйскага апарату для жорсткага задушэньня ўсякіх спроб да вулічных выступленьняў. Сацыял-фашысты, як і заўсёды былі ў першых шэрагах барацьбы супроць рэвалюцыйных мас. Іх „левая“ фразэолёгія, іх „левыя“ манэўры ў справе ўзрастаючага беспрацоўя мелі і маюць на мэце прыкрыцьцё сваёй паліцэйскафашыстоўскай дзейнасьці і здрады.

Ламаючы ланцуг белага тэрору, ў дзень 25-га лютага на вуліцы гарадоў выходзілі тысячы беспрацоўных і яшчэ працуючых для таго, каб дэманстраваць пад рэвалюцыйнымі лёзунгамі нашай партыі.

Партыйныя арганізацыі павінны дакладна вывучыць вопыт выступленьняў беспрацоўных у дзень 25-га лютага, каб яшчэ больш актыўна і шырока мабілізаваць масы на новыя рэвалюцыйныя выступленьні супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе сацыял-фашыстоўскіх агентаў.

II-гі пленум ЦК КПП падкрэсьліў, што задача арганізацыі барацьбы беспрацоўных мас, увязаньне гэтай барацьбы з забастовачнай барацьбой яшчэ працуючых зьяўляецца галоўнай задачай моманту. Мы маем і будзем мець далейшае нарастаньне актыўнасьці беспрацоўных мас. І арганізацыя гэтай актыўнасьці, увязданьне яе ў рэчышча агульна-клясавай палітычнай барацьбы супроць фашызму, зьяўляецца задачай, выкананьне якой ня можа абмежавацца толькі аднэй кампаніяй. Кампанія 25-га лютага павінна паслужыць штуршком да новых яшчэ больш моцных і масавых баёў супроць капіталу.

## АРГАНІЗУЕМ МАСЫ НА БАРАЦЬБУ З ФАШЫСТОЎСКІМ ТЭРОРАМ!

У вёсцы Мазычы, Кобрынскага раёну памёр малады селянін, які ня так даўно вярнуўся з войску, дзе дзякуючы барварскіх зьдзекаў афіцэраў захвараў на сухоты. Зьвярнуўшыся да хаты, гэты малады селянін сьлёг у ложак і перад сьмерцю паклікаў нашага таварыша-камсамольца і прасіў яго аб тым, што калі ён памрэ, каб яго пахавалі без папа. Моладзь акаляючых вёсак рашыла выканаць апошняе пажаданьне памёршага беспартыйнага таварыша. На магілках выступалі два чалавекі з масы і ў кароткіх словах намалявалі цяжкае жыцьцё памёршага. Гэтыя таварышы зьвязалі становішча памёршага таварыша з агульным становішчам працоўнага сялянства.

Поп, якога маса не дапусьціла да памёршага, паехаў у паліцыю. Хутка ў вёску прыехалі атрады паліцыі і шпікоў і пачалі пад мятлу замятаць моладзь у дэфэнзыву. Моладзь зьбівалі да палусьмерці. Шмат каго зьбіваньнямі і зьдзекамі прымушалі падпісвацца пад пратаколамі, якія сфабрыкаваны дэфэнзывай. Недалёка ад вёскі Мазычы жыў рабочы-чыгуначнік. Паліцыя прышла да яго і забрала ў паліцыю трох яго дзяцей, у тым ліку і малога пастушка 10-ці год. Хлопчыка зьбівалі да палусьмерці, дамагаючыся, каб сказаў, хто быў на хаўтурах. Урэшце перадалі справу ў дырэкцыю чыгункі ў Вільні, каб выкінуць гэтага рабочага чыгункі з працы ў зьвязку з тым, што дзеці яго знаходзяцца пад уплывам камуністаў. Дырэкцыя паставіла ўльтыматум: альбо служба на чыгунцы, і тады адмоўся ад дзяцей. Для таго, каб давесьці, што дзеці чыгуначніка не знаходзяцца пад уплывам рэвалюцыйнага руху, трэба было каб бацька прынёс выпіску ад папа, ці былі яго дзеці ў апошні год на споведзі.

Вось як змагаецца фашызм супроць рэвалюцыйнага руху, вось як ён шляхам эканамічнага тэрару і зьдзекаў фашызуе чыгуначнікаў. П.

## ЗАБАСТОЎКА СЭЗОНЬНІКАЎ.

У пана Сьвенаржыцкага маецца маёнтак Маліназўшчына (Маладэчанскі павет). Восеньню ў гэтым маёнтку баставалі сэзонныя рабочыя. Сярод баставаўшых былі і жанчыны. Усяго прыблізна каля 100 чалавек. Да забастоўкі жняцы атрымоўвалі 1 зл. і 50 гр. у дзень, пасьля забастоўкі— 3 злот., але толькі 2 дня, таму што быў скліканы савет усіх суседніх абшарнікаў, на якім быў якісьці чыноўнік з ваяводзтва. Пасьля гэтай нарады сталі плаціць жняцам толькі па 2 злот. ва ўсіх маёнтках. У сувязі з гэтым зноў не пайшлі на работу. На полі жыта перастаяла.

Стачачны камітэт быў арганізаваны актывам баставаўшых. Сяляне аднесьліся да забастоўкі са спачуваньнем. Кожнаму штрайбрэхэру выбівалі ўначы вокны, забіралі сена і ўсё, што было на полі, коням падстрыглі хвасты, пераварочвалі копы ў раку і ўсё пайшло з вадой.

Сэзоньнікі патрабавалі касіць „на кожную трэцюю“, гэта значыць, што кожная трэцяя капа з кожнага належыць да рабочага.

Забастоўка сьведчыць аб узросьце актыўнасьці сярод сэзоньнікаў. Але трэба прызнаць, што ў гэтай забастоўцы партыйная арганізацыя не праявіла сябе з неабходнай актыўнасьцю.

Трэба зараз ужо ў часе падрыхтоўкі да вясновых работ разгарнуць шырокую працу, падрыхтоўваючы забастовачную барацьбу батракоў і сэзоньнікаў.

Падрыхтоўка вясновай забастоўкі і выступленьняў батракоў і сэзоньнікаў зьяўляецца важнейшай задачай усіх нашых партыйных арганізацый.

## ПРЫВІТАНЬНЕ ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ КАМПАРТЫІ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Партканфэрэнцыя віленскага гарнізону шле гарачае рэвалюцыйнае прывітаньне нястомнаму барацьбіту і кіраўніку шырокіх працоўных мас Зах. Беларусі ў барацьбе з фашызмам — ЦК КПЗБ. Праводзячы барацьбу на два фронты, супроць правых і „левых“, ЦК КПЗБ здолеў скансалідаваць партыю, зьнімаючы непапраўных правых фракцыянэраў і прыцягваючы на свой бок самыя лепшыя, самыя адданыя партыі і пралетарскай рэвалюцыі элементы. Канфэрэнцыя запэўняе ЦК, што віленская арганізацыя была і застанецца вернай апорай ЦК у барацьбе з усякімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі і ў далейшым пад кіраўніцтвам ЦК выканае тыя задачы, якія ўскладзены на яе.

# ПРАЦЭС НАД БУРЖУАЗНАЙ КОНТР-РЭВАЛЮЦЫЙНАЙ МЕНШАВІЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫЯЙ.

Ужо ў часе вёрсткі нумару „Бальшавіку“ мы атрымалі весткі аб тым, што ў Маскве пачаўся працэс над меншавіцкай контр-рэвалюцыйнай арганізацыяй. Матар'ялы абвінаваўчага заключэньня гавораць аб тым, што меншавіцкая арганізацыя на чале з Громанам, Шэрам, Ікавым, Сухананавым і іншымі займалася контр-рэвалюцыйнай і шкодніцкай работай. Меншавікі ставілі стаўку на вайну міжнародных імпэрыялістаў супроць Савецкага Саюзу. Меншавікі ставілі сваёй мэтаю падрыхтоўку спрыяючай глебы для гэтай вайны. Яны вялі сваю шкодніцкую контр-рэвалюцыйную працу ў саюзе і непасрэдным контакце з капіталістычна-абшарніцкай арганізацыяй—„Промпартыяй“ і кулацкай арганізацыяй Кандрацьцева, Чаянава. Меншавікі на гэтую сваю работу атрымоўвалі сродкі ад „Промпартыі“, ад белай эміграцыі, ад французскага генэральнага штабу, ад 2-га Інтэрнацыяналу.

Падсудныя меншавікі самі прызнаюць, што ва ўсёй сваёй контр-рэвалюцыйнай рабоце яны былі цесна зьвязаны з кіруючымі коламі 2-га Інтэрнацыяналу і што стаўка на антысавецкую вайну была і ёсьць стаўкай усяго 2-га Інтэрнацыяналу. Такім чынам на лаве падсудных пралетарскага суду ў Маскве сядзяць ня толькі расейскія меншавікі, але ўся контр-рэвалюцыйная сацыял-фашыстоўская, імпэрыялістычная зграя 2-га Інтэрнацыяналу, у тым ліку і ППС і Бунд. 2-гі Інтэрнацыянал і ўсе яго партыі зьяўляюцца галоўнымі натхніцелямі антысавецкіх кампаній і галоўнымі арганізатарамі антысавецкай інтэрвэнцыі.

Задачай нашых партыйных арганізацый зьяўляецца шырока папулярызаваць працэс, які адбываецца ў Маскве, і ўсе канкрэтныя матар'ялы контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці 2-га Інтэрнацыяналу. Гэтую працу трэба зьвязаць з дэмаскаваньнем імпэрыялістычнай, антыпралетарскай, сацыял-фашыстоўскай дзейнасьці правадыроў ППС і Бунду, якія ідуць у першых шэрагах падрыхтоўкі антысавецкай вайны польскім і французскім імпэрыялізмам. Трэба разгарнуць шырокую кампанію сярод тых рабочых, якія яшчэ ідуць за ППС і Бундам, стасуючы тактыку адзінага фронту зьнізу, дэмаскуючы правадыроў гэтых партый на канкрэтных фактах клясавай барацьбы і на матар'ялах маскоўскага працэсу.

У бліжэйшых выданьнях нашай партыі мы падрабязна асьвятлім матар'ялы і факты з контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці меншавікоў і ўсяго 2-га Інтэрнацыяналу, якія пралетарскі суд у Маскве пакажа з усёй яскравасьцю.

## З Ь М Е С Т:

